КУЛЬТУРА НАЦЫЯ

*№9, сакавік 2015* *ISSN 2291-4757*

## Дарагія сябры!

Часопіс **“КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ”** заснаваны як незалежнае перыядычнае выданьне, прызначанае для абмеркаваньня праблем беларускай культуры і развіцьця беларускасьці.

Часопіс зьмяшчае арыгінальныя аналітычныя артыкулы, эсэ, а таксама абгрунтаваныя дыскусіі і каментары па гісторыі, мове, літаратуры, сацыялогіі, традыцыях і іншых пытаньнях, маючых дачыненьне да развіцьця беларускай нацыі.

Беларуская Мова – асноўная мова часопіса, але магчымы публікацыі і на іншых мовах.

Запрашаем да супрацоўніцтва ўсіх зацікаўленых.

*Свае матэрыялы дасылайце на* chasopis.sakavik@hotmail.com

Часопіс **“КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ”** публікуецца на вэб-старонцы www.sakavik.net



*Аттава, Канада*

КУЛЬТУРА НАЦЫЯ

*№9, сакавік 2015* *ISSN 2291-4757*

# Зьмест часопіса «КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ»

# №9, сакавік 2015



*Наступны нумар часопіса выйдзе ў выйдзе ў чэрвені 2015 года*

КУЛЬТУРА
НАЦЫЯ

*№9, сакавік 2015* *ISSN 2291-4757*

**Прадмова рэдактара да дзевятага нумара часопіса “КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ”**

Дарагія чытачы!

Прыемна паведаміць Вам аб выхадзе чарговага нумара часопіса. Хачу нагадаць, што наш часопіс быў заснаваны ў сьнежні 2012 года. Па рашэньню рэдакцыі, пачынаючы з сёмага нумара, часопіс выходзіць пад назвай “КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ” (першыя шэсьць нумароў часопіса выйшлі пад назвай “САКАВІК”). За два гады, прайшоўшыя ад выхаду першага нумара часопіса, нашы матэрыялы чыталі каля 7 тысяч наведвальнікаў з 78 краін, большая палова чытачоў была з Беларусі.

У чарговым нумары часопіса пытаньням нацыянальнага будаўніцтва прысьвечаны артыкулы Нелі Бекас "Гібрыдная" самабытнасьць мовы пост-савецкай Беларусі” (*у перакладзе з англійскай мовы*), у якім абмяркоўваюцца лінгвістычныя мадэлі беларускай ідэнтычнасьці, Пётры Мурзёнка “Які нацыяналізм патрэбен Беларусі”, і частка дыскусіі “Нацыянальнае будаўніцтва і сучаснасьць – 2014”, праведзенай часопісам у лістападзе мінулага года (у перакладзе на беларускую мову). У дыскусіі ўдзельнічалі Інга Поповайтэ, Ірына Хадарэнка, Антон Шэхаўцоў і Пётра Мурзёнак.

Пытаньні нацыянальнага будаўніцтва і роля ў гэтых працэсах роднай мовы да гэтага часу актуальныя, бо як бы ні даводзілі апаненты, а будаўніцтва нацый працягваецца і ў сучасны, пост-мадэрны перыяд. Сьведчаньнем гэтаму – новыя дзяржавы, узьнікшыя на тэрыторыях былой Югаславіі і Савецкага Саюза. Зьберажэньне нацыянальнай ідэнтычнасьці і культуры хвалююць не толькі народы новастворанных дзяржаваў, але і даўноўсталяваўшыяся еўрапейскія дзяржавы. Нягледзячы на існуючыя тэндэнцыі да ўтварэньня такой наднацыянальнай палітычнай і эканамічнай структуры як Еўрапейскі Саюз, у многіх краінах Еўропы шырыцца рух за ўмацаваньне адметнасьці культуры, традыцый і гісторыі народаў, якія ў яго ўваходзяць. Немалую ролю ў гэтым адыгрываюць нацыянальныя сілы і партыі. Аднак, вырашэньне нацыянальных пытаньняў рэч даволі тонкая і далікатная і патрабуе разуменьня і адукаванасьці прадстаўнікоў усіх нацыянальнасьцяў, якія пражываюць у той ці іншай краіне. Нацыяналістычныя рухі ня ёсьць аднародныя, ад тых, якія прапаведуюць нацысцкую і фашысцкую ідэалогіі, да тых, якія прапануюць вырашаць нацыянальныя пытаньні выкарыстоўваючы прынцыпы ўключнасьці, г.зн. такія падыходы, якія задавальняюць усе групы і слаі насельніцтва.

*№9, сакавік 2015* *ISSN 2291-4757*

У секцыі літаратуры зьмешчаны апавяданьне Аляксандра Згерскага “Чароўны флікер” і нарыс Галіны Туміловіч “Оттавская рапсодия (или жизнь на границе)”. Апавяданьне “Чароўны флікер” напісана ў жанры памфлета, у ім супастаўляецца сюррэальнасьць і рэчаіснасьць у сучаснай Беларусі. Галіна Туміловіч піша пра ўражаньні ад першых гадоў жыцьця ў Канадзе, прыводзяцца зьвесткі аб жыцьці знакамітых людзей расійскага і беларускага паходжаньня, эміграваўшых у Канаду ў розныя эпохі. Спадзяёмся знаёмства з гэтымі творамі прынясе Вам сапраўднае задавальненьне.

У раздзеле юбілеі мы разьмясьцілі матэрыялы прысьвечаныя шчырай патрыётцы Беларусі, Алесі Умпіровіч, і вядомай пісьменьніцы і грамадскаму дзеячу Вользе Іпатавай.

Часопіс працягвае працу ў рамках праекта “РАЗАМ”, пашырыў аб’ём матэрыялаў, скіраваных на асьвету насельніцтва Беларусі. Часопіс па-ранейшаму чакае карысных прапаноў і актыўнага ўдзелу ў праекце.

*Пётра Мурзёнак*

КУЛЬТУРА НАЦЫЯ

*№9, сакавік 2015* *ISSN 2291-4757*

**Нэлі Бекас: "ГІБРЫДНАЯ" САМАБЫТНАСЬЦЬ МОВЫ ПОСТ-САВЕЦКАЙ БЕЛАРУСІ**

Артыкул апублікаваны на англійскай мове ў часопісе: *Journal on Ethnopolitics and Minority Issues in Europe.* Vol 13, No 4, 2014, 26-51.
Nelly Bekus, Associate Research Fellow, University of Exeter, UK
e-mail: n.bekus@exeter.ac.uk.

*Пераклад Наталіі Баркар*

Пытаньне моўнай палітыкі ў Беларусі можа быць прааналізавана з двух пунктаў гледжаньня: як элемента стратэгіі дзяржаўнага будаўніцтва ў пост-савецкай Беларусі ці як часткі дыскусіі па правах чалавека ў галіне лінгвістыкі, што тычыцца прававых, маральных, а таксама эмацыйных асьпектаў законаў і практыкі сучаснай беларускай мовы. Гэтыя два асьпекты ў праблеме беларускай мовы с цягам часу цесна перапляліся і сталі ўспрымацца як узаемазалежныя. У дадзеным артыкуле разглядаюцца сацыяльны і палітычны кантэксты беларускага нацыянальнага развіцьця; вынікам гэтага разгляду стала стварэньне пэўных лінгвістычных\моўных вызначэньняў\формул беларускай ідэнтычнасьці. Моўны рэпертуар беларускага грамадства можа быць прааналізаваны не з пункту гледжаньня асаблівасьцяў дзьвюх моў - расійскай і беларускай - але як кампанент агульнай пост-каланіяльнай рэальнасьці. Пры разглядзе некалькіх суіснуючых канцэпцый беларускай ідэнтычнасьці, моўная практыка беларусаў магла бы быць зразумелай як праява "гібрыдызацыі", што дазволіла б большасьці беларусаў пазьбегнуць адчужэньня і палярнасьці ў іх успрыняцьці іншых этнасаў і іншых моў.

*Ключавыя словы: Беларуская мова; лінгвістычная самабытнасьць; пост-савецкае развіцьцё; пост-каланіялізм; гібрыдызацыя культур.*

## 1. Стратэгія ўспрыняцьця сябе як нацыі: да суверэннай дзяржавы

Пытаньне моўнай палітыкі Беларусі можа быць прааналізавана з двух пунктаў гледжаньня: як элемента стратэгіі дзяржаўнага будаўніцтва ў пост-савецкай Беларусі ці як часткі дыскусіі па правах чалавека ў галіне лінгвістыкі, што тычыцца прававых, маральных, а таксама эмацыйных асьпектаў законаў і практыкі сучаснай беларускай мовы. Гэтыя два асьпекты ў праблеме беларускай мовы с цягам часу цесна перапляліся і сталі ўспрымацца як узаемазалежныя. Выбар мовы для штодзённага

№9, сакавік 2015 ISSN 2291-4757

карыстаньня ў Беларусі часта ўспрымаецца як палітычная заява, у якой расійская мова разглядаецца ў якасьці афіцыйнай мовы культуры і палітыкаў, а беларуская - як мова палітычнай і культурнай апазіцыі. Гэта цесная сувязь узнікла ў выніку падзей, якія мелі месца напярэдадні здабыцьця Беларусьсю незалежнасьці. З пачатку 1990-х гадоў, пытаньне нацыянальнай мовы ў Беларусі было вельмі палітызаваным і палярызаванам. Беларуская мова разглядалася нацыянальнымі актывістамі як магутны рэсурс нацыянальнай і палітычнай мабілізацыі ў 1990-х, калі была распрацавана моўная палітыка для забеспячэньня "беларусізацыі" - важнага элемента стратэгіі станаўленьня нацыі і новай незалежнай дзяржавы.

У Беларусі, як і ў многіх пост-савецкіх краінах, нацыянальнае адраджэньне было непадзельнай часткай складанага працэсу станаўленьня суверэннай дзяржавы і спробай пераадолець спадчыну таталітарызму і сацыялістычнай ідэалогіі пасля распаду Савецкага Саюза. Увядзеньне нацыянальнай ідэалогіі ў якасьці вядучага прынцыпу ў палітычным, сацыяльным і культурным жыцці лічылася ў пост-савецкіх дзяржавах "натуральнай" рэакцыяй на няўдачы савецкай дзяржавы і ідэалогіі. Гэта забяспечыла аснову для стварэньня новых вобразаў, якія былі так неабходныя пасля страты ранейшых ідэалаў (Hall, 1995: 86-88). Нацыяналізм даў новым нацыянальным дзяржавам магчымасць дыстанцавацца ад старой ідэалагічнай сістэмы каштоўнасьцяў, а нацыянальная ідэнтычнасьць у многіх выпадках заставалася адзінай станоўчай кропкай адліку, якую людзі мелі, сгубіўшы большасьць традыцыйных уяўленьняў аб сацыяльнай ідэнтыфікацыі (Salecl, 1996: 418). Нацыянальныя пытаньні набылі большае значэньне таму, што яны былі, як адзначае Katherine Verdery, адзіныя зразумелыя арганізацыйныя формы, якія існавалі пэўны час і мелі вядомую гісторыю (Verdery, 1996: 85). Нацыяналізм дазволіў народам Усходняй Еўропы справіцца с сацыяльнай дэзарыентацыяй, якая панавала ў момант распаду старой сістэмы. Як піша Miroslav Hroch, "Асноўная перадумова ўсіх нацыянальных рухаў - як учора, так і сёньня - гэта глыбокі крызіс старога ўкладу, з разбурэньнем яго легітымнасьці, а таксама каштоўнасьцяў і пачуцьцяў, якія падтрымлівалі яго »(1996: 75). Нацыяналізм меў пэўную тэрапеўтычную функцыю і яго выбух быў зьвязаны з запытам на новую аснову для фарміраваньня калектыўнага разуменьня на парозе стварэньня новай дэмакратычнай сістэмы. Адной з накіроўваючых ідэй у нацыянальнам адраджэньні ў пост-камуністычных краінах, паводле Hroch, была ідэя "будаўніцтва" капіталізму, "дабудова сацыяльнай структуры нацыі шляхам стварэньня класу капіталістаў, па прыкладу заходніх дзяржаў » (Hroch, 1996: 70). У сваёй працы аб паходжаньні моўнага нацыяналізму ў чэшскім нацыянальным руху, Hroch таксама падкрэсліў, што лінгвістычныя патрабаваньні чэшскіх нацыяналістаў у дзевятнаццатым стагоддзі набылі новы сэнс,

сканцэнтраваны на ролі мовы як інструмента грамадзянскай роўнасьці. Палітычная мабілізацыя патрабавала нейкіх спецыфічных "маркераў" нацыі, якія б былі лёгка зразумелыя ў ніжэйшых слаях грамадства. Паводле Hroch, мова была адным з такіх інструментаў палітычнай мабілізацыі (2005: 23).

Усе гэтыя сацыяльныя, палітычныя і эканамічныя асьпекты нацыяналізму Усходняй Еўропы перапляліся ў беларускім нацыянальным руху. У пачатку сістэмнай трансфармацыі грамадства, нацыянальная ідэалогія ўяўляла сабой частку сімвалічных каштоўнасьцяў, якія сталіся асновай стратэгіі зьменаў. Нацыяналізм выглядаў як праява вызваленчай барацьбы супраць залежнасьці ад Савецкай дзяржавы, у якой пераважалі расійская культура і мова. Палітычны кантэкст нацыянальнага вызваленьня даваў ідэалагічнае абгрунтаваньне для прымусовага ўвядзеньня законаў па нацыяналізацыі пасля абвяшчэньня незалежнасьці. Да таго ж, у Беларусі нацыянальная моўная палітыка, сфармуляваная ў рамках гэтай стратэгіі нацыяналізацыі, была накіравана на зніжэньне ўплыву "русіфікацыі" і на тое, каб зрабіць беларускую мову галоўнай у грамадзкім жыцьці. Быў створаны доўгатэрміновы план у які была ўключана "беларусізацыя" сістэмы адукацыі, сродкаў масавай інфармацыі і грамадскага жыцьця. У студзені 1990 года, у Вярхоўным Савеце быў прыняты закон "Аб мовах у (Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліке) БССР». У верасьні 1990 года беларускі ўрад прыняў нацыянальную праграму па развіцьцю беларускай мовы і мовы іншых нацыянальнасьцяў у БССР, такім чынам ратыфікаваў указ, які ўсталяваў беларускую мову ў якасьці дзяржаўнай (*Государстенная программа развития белорусского языка*, 1990). У 1992 годзе, намеснік міністра адукацыі Васіль Стражаў абвясьціў, што ў школах мовай карыстаньня будзе беларуская, і што 55% першакласнікаў будзе вучыцца па-беларуску. У прыватнасьці, ён прагназаваў, што праз 10 гадоў уся беларуская сістэма адукацыі пяройдзе на беларускую мову. Беларуская мова з'явілася ў адукацыйных ўстановах, на тэлебачаньні і радыё - усё гэта склала агульны працэс "вяртаньня да ўсяго беларускага".

Аднак, як піша Rogers Brubaker (1996), нацыяналізм ў пост-камуністычных краінах "не прыходзіць з народу. Ён нараджаецца, або лепш, выклікаецца, рознымі *палітычнымі падзеямі.* Яго развіцьцё вызначаецца ўласцівасьцямі палітычнага ландшафту, а не ўласцівасьцямі супольнасьці" (Brubaker, 1996: 17). Ідэя аб галоўнай ролі палітычных працэсаў у вызначэньні шляхоў нацыянальнага развіцьця ў пост-камуністычных краінах, дапамагае нам зразумець тэндэнцыі і зьмены, якія былі выкліканы ў беларускім нацыянальным развіцьці ў адпаведнасьці са зьменамі ў палітычным жыцьці. Сапраўды, «абвяшчэньне незалежнасьці Беларусі ў 1991 годзе

не было вынікам змаганьня народа, а было абумоўлена палітычнымі абставінамі, спрыяльнымі для “беларускай ідэі” ( Tornquist-Plewa, 2005). Палітычныя зьмены ў Саюзе Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік (СССР) падчас *"перабудовы"* адкрылі магчымасьці ініцыяваньня публічных дыскусій па праблемных пытаньнях. Дзякуючы *"Галоснасьці"* беларускае грамадства атрымала магчымасьць даведацца аб існуючых праблемах і, на погляд беларускай інтэлігенцыі, адной з гэтых праблем было памяншэньне ролі беларускай мовы ў беларускім жыцьці. У сярэдзіне 1980-х гадоў, каля траціны ад агульнай колькасьці насельніцтва гаварыла па-беларуску ў паўсядзённым жыцьці, і гэта былі ў асноўным жыхары сельскай мясцовасьці (Marples, 1999: 50). У 1987 годзе, не больш як чвэрць першакласнікаў у Беларусі пайшлі ў школу з навучаньнем на беларускай мове. Зусім не было вышэйшых навучальных установ, прафесійна-тэхнічных каледжаў, у якіх бы выкладалі па-беларуску. Лінгвістычная "русіфікацыя" была папераджальным знакам прагрэсіўнай асіміляцыі і знікненьня беларусаў у расійска-моўным асяроддзі. У той час як у 1970 годзе, 37,3% усіх кніг і 36,5% усіх газет у БССР былі на беларускай мове, то праз 10 гадоў, у 1980 годзе, гэтыя лічбы знізіліся да 21,4% і 34,0%, адпаведна. Працэнт кніг па мастацтву, апублікаваных на расійскай мове ў Беларусі ўзрос з 89,95% ў 1981 годзе да 95,3% у 1984 годзе. Ва ўрадавых установах і на працоўных месцах беларуская мова практычна не існавала (Marples, 1999: 52). У кантэксьце праекта савецкай ідэалогіі, гэтыя пытаньні не з'яўляліся вельмі праблематычнымі, таму што развіцьцё савецкага народа павінна было прывесьці да інтэрналізацыі савецкага жыцьця. З гэтага пункту гледжаньня, замена беларускай мовы на расійскую ў беларускім грамадскім жыцьці разглядалася як посьпех "саветызацыі" беларусаў. Як адзначае Віктар Чарноў, "савецкасьць была для беларусаў арганічнай формай выказваньня сваёй этнамаргінальнасьці, больш таго, гэта быў спосаб ідэнтыфікацыі з «Вялікай Краінай Саветаў». Можна сказаць, што дзякуючы такой ідэнтыфікацыі, стымуляваўся незвычайны савецка-беларускі "нацыяналізм" - сапраўдны савецкі беларус адчуваў, што ён ці яна з'яўляюцца "найбольш савецкімі з усіх савецкіх" (Chernov, 2003: 47). Гэта савецкая формула “беларускасці” была заснавана на спалучэньні элементаў сацыялістычнай ідэалогіі, такіх як эгалітарнае бачаньне сацыяльнай арганізацыі, з інстытуцыйнай нацыянальнай формай. Быць "беларусам" па-савецку не азначала адмаўленьня ад сваёй прыналежнасьці да большай савецкай супольнасьці. Карыстаньне расійскай мовай і ўспрыманьне расійскай мовы як "натуральнага" атрыбута беларускага грамадскага і культурнага жыцьця засноўвалася на так званым " *matryoshka* " нацыяналізме,[1] які быў сфармаваны ў Беларусі і ў іншых саюзных рэспубліках у выніку савецкай нацыянальнай палітыкі.

№9, сакавік 2015 ISSN 2291-4757

***1.1. Садзейнічаньне стварэньню нацыі ў апазіцыі да "савецкасьці"***

Адмова ад савецкай ідэалогіі і адмаўленьне савецкіх дасягненьняў у развіцьці беларускай нацыянальнай супольнасьці ўпершыню былі выказаны Беларускім народным фронтам (БНФ)[2], які быў створаны ў 1988 г. У Вярхоўным Савеце Беларусі (абраны ў 1990), апазіцыйная кааліцыя, якая падтрымлівала платформу БНФ, налічвала да 40 членаў (з 360) (Feduta et al., 2003, 14). Пры падтрымцы членаў Вярхоўнага Савета, якія былі выбраны з розных зарэгістраваных няўрадавых арганізацый[3], прадстаўляючых дэмакратычны блок (напрыклад, Таварыства беларускай мовы, Беларускі экалагічны саюз, прафсаюзы Рэспублікі Беларусь), Беларускі народны фронт змог стаць вядучай палітычнай сілай у вызначэньні стратэгіі развіцьця краіны. Увядзеньне нацыянальнай палітыкі, як асноўнай дактрыны сацыяльнай, культурнай і палітычнай трансфармацыі, у сітуацыі, калі нацыяналістычныя сілы ўсё яшчэ складалі меншасьць у Вярхоўным Савеце Беларусі, было растлумачана як спецыфічная з'ява раньняй пост-сацыялістычнай эпохі (Lucan Way). Выкарыстоўваючы метафару "алень перад фарамі тваёй машыны" і маючы на ўвазе некампетэнтнасьць савецкай эліты, якая вынікала з "дэзарыентацыі і захаваньня састарэлых нормаў кіраваньня ва ўмовах хуткай зьмены рэжыму", Way сцьвярджае, што новым дэмакратычным сілам удалося падыйсьці да правядзеньня рэформаў і ўкараненьня нацыянальнай палітыкі з-за хвіліннай слабасьці ўладаў (Way, 2012: 622). У той час Беларуская нацыянальная палітыка была накіравана на рэалізацыю праекта па адбудове беларускай нацыянальнай дзяржавы. Гэты праект павінен быў быць заснаваны на этна-лінгвістычнай ідэі нацыі і засяродзіўся б на "зборы беларускага фальклору, аднаўленьні гістарычных будынкаў і адраджэньні "рэальнай", а не савецкай, беларускай культуры» (Gapova, 2008: 139). Прыхільнікі гэтай беларускай ідэі звярнуліся да не-савецкага вопыту беларусаў, і ўяўлялі беларускі народ у якасьці культурнага адзінства ў апазіцыі да савецкай і расійскай (у дасавецкі перыяд) каланізацыі. Гэты праект быў распрацаваны і прадстаўлены як завяршэньне фарміраваньня беларускай нацыі, якое пачалося ў пачатку дваццатага стагоддзя і, на думку ідэолагаў Партыі БНФ, была перапынена Кастрычніцкай рэвалюцыяй. Беларуская нацыянальная ідэалогія ў той час мела фундаментальную стратэгію, якая «...прысутнічае ў той ці іншай форме ў нацыяналістычным дыскурсе ва ўсім свеце. Яна ўключае ў сябе будаўніцтва ідэалізаванай карціны народнай славы, страчанай у нейкі момант у далёкім мінулым, а затым праецыраваньне гэтай карціны з накіраванасьцю ў будучыню. Ва ўсіх выпадках гэта выклікала свайго роду ідэалагічную энергію, якая з'яўляецца вельмі эфектыўнай з пункту гледжаньня палітычнай матывацыі і мабілізацыі (Bassin, 2012: 553-534).

*№9, сакавік 2015 ISSN 2291-4757*

У гэтым кантэкстце, савецкі перыяд гісторыі Беларусі разглядаўся як перыяд аддаленьня ад сваёй нацыянальнай ідэі, якое, у сваю чаргу прывяло да дэнацыяналізацыі; толькі распад СССР вярнуў беларусам шанс аднаўленьня гэтага перарванага развіцьця. Згодна з планамі нацыянальна-сьвядомых палітыкаў, праект нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва ў незалежнай дзяржаве павінен быў бы быць завершаны на працягу 10 гадоў. У дадатак да перапісваньня беларускай гісторыі з нацыяналістычнага пункту гледжаньня, асноўнаq мэтай гэтай палітыкі было пераўтварэньне моўнай сітуацыі ў краіне. Планы былі ўведзены ў дзеяньне з тым, каб абмежаваць прысутнасьць расійскай мовы ў розных сферах беларускага жыцьця, паступова пераўтвараючы беларускае грамадства ў мона-лінгвістычную (аднамоўную) супольнасць.

Новы закон аб мове, прыняты 26 студзеня 1990 года, прадугледжваў павелічэньне прысутнасьці беларускай мовы ў грамадскім жыцьці краіны. Паводле гэтага закона, укараненьне змяненьняў у моўнай канструкцыі беларускага грамадства павінна было адбывацца паступова на працягу 1990-х гадоў. Чакалася, што беларуская мова стане мовай навукі, культуры і сродкаў масавай інфармацыі на працягу 3 гадоў; мовай з'ездаў, канферэнцый і дзяржаўных пастаноў на працягу 3-5 гадоў; мовай бізнесу на працягу 5 гадоў; і мовай заканадаўства на працягу 10 гадоў.[4] У верасьні 1990 г., дзеючы закон аб мовах быў падтрыманы Нацыянальнай праграмай, якая ставіла перад беларускім урадам доўгатэрміновую задачу аднаўленьня беларускай мовы ў сферы адукацыі і грамадскага жыцьця да канца стагоддзя. Закон аб культуры, прыняты 4 чэрвеня 1991 года, гарантаваў культурныя правы ўсіх этнічных групаў у Беларусі, падкрэсліваючы, што «захаваньне, развіцьцё і распаўсюджваньне беларускай мовы і культуры" з'яўляюцца адной з прыярытэтных задач дзяржаўнай палітыкі ў галіне культуры (Артыкул 10 (3,1). Акрамя таго, Закон аб адукацыі, прыняты 29 кастрычніка 1991 года, гарантаваў падтрымку пашырэньня беларускай мовы ў сферы адукацыі.

Новая Канстытуцыя, прынятая ў сакавіку 1994 года, пацьвердзіла афіцыйны статус беларускай мовы, хоць, згодна з той жа Канстытуцыяй, расійская мова атрымала статус мовы міжнацыянальных зносін (Ulasiuk, 2011: 4). На самай справе гэты "новы" статус, які расійская мова набыла ў Канстытуцыі, быў адзіным адрозненьнем паміж часткай Канстытуцыі, звязанай з моўнымі пытаньнямі, і Законам 1990 года аб мовах. Гэта "вяртаньне" расійскай мовы не было на самай справе вяртаньнем, а хутчэй актам сімвалічнага ўзаконьваньня існуючых моўных практык у беларускім грамадстве. На працягу перыяду паміж 1990 і 1994 г.г., працэс дэрусіфікацыі толькі пачынаўся. Асноўны прагрэс у "беларусізацыі" быў дасягнуты ў галіне адукацыі,

якая, здавалася, была найбольш адкрытая ў рэалізацыі закона аб мовах; паміж 1990 і 1994 г.г. сітуацыя ў сярэдніх школах карэнным чынам зьмянілася на карысьць беларускай мовы. Аднак, большасьць іншых сфераў палітычнага, сацыяльнага і культурнага жыцьця краіны ў пытаньнях мовы істотна не зьмяніліся.

### *1.2. Парадоксы дэмакратыі ў выбары мовы ў постсавецкай Беларусі*

Новы статус расійскай мовы ў тэксце Канстытуцыі Беларусі 1994 таксама адлюстроўвае тыя важныя зьмены, якія адбыліся на палітычнай сцэне незалежнай Беларусі. У 1990 годзе адной з самых актыўных палітычных сілаў, якая вызначыла стратэгію развіцьця краіны былі прадстаўнікі нацыянальнага руху, якія бачылі новы беларускі народ як мона-этнічную і аднамоўную супольнасьць і накіроўвалі развіцьцё дзяржаўнай моўнай палітыкі ў такім напрамку. Такі палітычны праект быў распрацаваны і ў значнай ступені падтрымліваўся нацыянальнай элітай, якая была захоплена ідэяй будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы, заснаванай на этна-лінгвістычным фундаменце. Яны разглядалі будучыню Беларусі выключна ў кантэксце Еўропы і прытрымліваліся той жа схемы нацыянальнага развіцьця, якое адбывалася ў іншых усхонееўрапейскіх краінах (чэхі, славакі, краіны Балтыі, і г.д.).

Аднак, у перыяд 1990-1994, на палітычная сцэне ў Беларусі адбыліся істотныя зьмены. Шэраг палітычных партый, якія выйшлі на палітычную арэну, калі ў Беларусі была прынята шматпартыйнасьць, падверглі рэзкай крытыцы Закон 1990 аб Мове. Рух за дэмакратычныя рэформы, заснаваны ў 1991 годзе, успрыняў гэты закон як "недэмакратычны", абвінавачваючы БНФ, які заставаўся асноўнай пра-дэмакратычнай сілай у Беларусі ў той час, у русафобіі, ізаляцыянізму і ва ўзбуджэньні нацыяналістычных інстынктаў (Zaprudski, 2002). Парадаксальна, але левыя і правыя палітычныя сілы лічылі Закон 1990 аб мовах, як няправільны спосаб вырашыць моўную праблему ў Беларусі. Ліберальныя партыі (напрыклад, як Аб'яднаная дэмакратычная партыя Беларусі, UDPB, заснаваная ў 1990 годзе [5]) разглядалі права свабодна выбіраць мову адукацыі, як адно з найбольш важных грамадзянскіх правоў, якое павінны мець грамадзяне Беларусі. Левыя таксама засталіся супраць моўнай палітыкі прымусовай беларусізацыі. Яны выступалі супраць мадэлі мона-этнічнага і мона-лінгвістычнага беларускага народа і падтрымлівалі мадэль двухмоўнай дзяржавы, што было безумоўным патрабаваньнем Руху за дэмакратыю, сацыяльны прагрэс і справядлівасьць (MDSPJ), заснаваным у 1991 годзе. У 1993 г., з'езд левых рухаў прыняў рэзалюцыю, у якой запатрабаваў "Выдаліць гвалт і дыскрымінацыю ў адносінах моўнай палітыкі, прыняць афіцыйна

двухмоўе (беларуская і расійская мова), узаконіць права бацькоў на выбар мовы навучаньня іх дзяцей (Zaprudski, 2002: 34).

Варта адзначыць, што асноўным недахопам моўнага заканадаўства (і палітыкі "беларусізацыі" ў цэлым), які выклікаў крытыку з усіх бакоў, была яго неадпаведнасьць дэмакратычным ідэям, а менавіта, насільны пераход на беларускую мову разглядаўся як страта дэмакратычнай свабоды выбару. На момант распаду старой сістэмы ў Беларусі, па сутнасьці, сутыкнуліся два розныя напрамкі, нацыянальнае адраджэньне і дэмакратызацыя грамадска-палітычнага жыцьця. На самой справе гэта было адраджэньне таго, аб чым пісаў Suda, пра нацыяналізм як найбольш небяспечнага канкурэнта лібэральнай дэмакратычная плыні ва Усходняй Еўропе, як у мінулым, так і ў сучаснасьці. Ад дзевятнаццатага стагоддзя, Усходняя Еўропа была занята фарміраваньнем і вызначэньнем розных нацыянальных ідэнтычнасьцяў, «што на той час патрабавала значных высілкаў для ўсіх этнічных груп. Вызваленьне асобы – першасны клопат лібералізму – мела нізкую запатрабаванасьць» (Suda, 2000: 202). Нацыянальная палітыка ў адносінах да беларускай мовы і яе ўспрыманьне як "недэмакратычнай" грамадствам, толькі што вызваленым ад ідэалагічнага ціску савецкай ідэалогіі, падкрэсьлілі фундаментальны канфлікт інтарэсаў паміж нацыянальнымі і індывідуальнымі асьпектамі свабоды.

Людзі, якія жадалі б карыстацца расійскай мовай і навучаць сваіх дзяцей на гэтай мове разглядаліся як патэнцыйныя ахвяры недэмакратычнай дзяржаўнай палітыкі. У той жа час, калі палітыкі абмяркоўвалі пытаньне аб моўнай палітыцы і моўнай мадэлі для беларускага народа (адно-або двух-моўная мадэлі), грамадства паспытала значнае пагаршэньне ўзроўню жыцьця, што негатыўна адбілася як на ацэнцы дзяржаўнай палітыкі ў цэлым, так і ў адносінах да моўнай палітыкі і нацыянальнай ідэалогіі. Кіруючыя эліты, якія былі ва ўладзе, калі была ўведзена палітыка нацыяналізацыі, здавалася, несьлі адказнасьць за эканамічныя праблемы, якія людзі мелі падчас першых гадоў незалежнасьці. Для большасьці палітыкаў зноў створаных палітычных партый, падкрэсліваньне сваёй нязгоды адносна моўнай палітыкі, было адным з простых спосабаў дэманстрацыі іх блізкасьці да народу.

Да 1994 года як прыхільнікі, так і праціўнікі "беларусізацыі" скардзіліся: розныя партыі і арганізацыі блізкія да БНФ былі расчараваныя тым, якім чынам закон рэалізуецца; тыя ж хто хацеў бачыць расійскую мову афіцыйнай у Беларусі, падкрэсліваў адсутнасьць у іх свабоды выбару. Восеньню 1994 г. пад эгідай Славянскага саюзу ў знак пратэсту супраць прымусовай "беларусізацыі" быў заснаваны камітэт "За свабодны выбар мовы ў адукацыі». Лёс палітыкі

*№9, сакавік 2015* *ISSN 2291-4757*

"беларусізацыі" быў прадвызначаны вынікамі прэзідэнцкіх выбараў ў 1994 г., калі надзвычай папулісцкі палітык Аляксандр Лукашэнка стаў прэзідэнтам. У маі 1995 года ён ініцыяваў рэферэндум, на якім расійская мова была ўведзена ў якасці другой афіцыйнай мовы. Практычна гэта азначала, што ўсе дасягненьні адносна развіцьця беларускай мовы былі спыненыя, а сама ідэя прымусовай замены расійскай мовы на беларускую скончылася. Пазбаўленая выключнай заканадаўчай падтрымкі, беларуская мова вярнулася ў кулуары грамадскага жыцьця, у той час як лінгвістычная канструкцыя беларускага грамадства стала добраахвотнай. Аднолькавы статус расійскай і беларускай мовы, уведзены ў 1995 годзе паводле вынікаў рэферэндуму, прывялі да прадказальнага пераходу да расійскай мовы ў школах. Цяпер бацькі мелі права выбіраць мову навучаньня сваіх дзяцей. Вынікі гэтага «дэмакратычнага павароту" ў дзяржаўнай моўнай палітыцы былі прадказальна неспрыяльнымі для беларускай мовы: колькасць першакласнікаў якія навучаліся на расійскай мове, павялічылася з 25% у 1994 годзе да 62% у 1995; адпаведна, колькасць студэнтаў, якія вучыліся па-беларуску зьнізілася з 75% да 38%. Пытаньні «дыскрымінацыі» зноў усплылі ў лютым 1999 г., калі Кангрэс дэмакратычных сілаў Беларусі прыняў спецыяльную рэзалюцыю пад назвай «Дыскрымінацыя беларускай мовы ў Рэспубліцы Беларусь», у ёй былі зроблены высновы, што правы беларусаў свабодна развіваць родную мову і культуру груба парушаюцца. Пры наданьні беларускаму народу права выбара расійскай або беларускай мовы ў якасьці мовы адукацыі, беларускае заканадаўства пазбавіла беларускую мову якой-небудзь прававой падтрымкі. Моўная палітыка Лукашэнкі зрабіла Беларусь унікальнай пост-савецкай рэспублікай, дзе палітычная незалежнасьць дапускала далейшую "русіфікацыю".

У савецкі перыяд, "русіфікацыя" была інструментам для "саветызацыі" культурнага і грамадскага жыцця, у той час як пасьля перыяду 1991-1995 г.г., палітыка беларускіх уладаў была накіравана не столькі на "русіфікацыю", колькі на «дэ-беларусізацыю", "на барацьбу супраць нацыянальнага самавызначэньня беларусаў, якое разглядалася як фактар, што пагражаў стабільнасьці рэжыму Лукашэнкі » (Yekadumaw, 2003: 218). Палітыка «беларусізацыі», з асаблівым акцэнтам на беларускую мову, стала сімвалам нацыянальнага этна-лінгвістычнага праекта, які заставаўся галоўнай палітычнай альтэрнатывай рэжыму Лукашэнкі. У палітычнай стратэгіі Лукашэнкі, моўнай палітыцы не надавалася асаблівая роля; хутчэй, вяртаньне да афіцыйнага двухмоўя было часткай яго агульнай стратэгіі - вяртаньня да "старых добрых савецкіх часоў».

*№9, сакавік 2015* *ISSN 2291-4757*

## 2. Савецкая гісторыя Беларусі ў пазітыўным сьвятле: прыклад дзяржаўнай ідэалогіі

Раноўчая ацэнка савецкага перыяду гісторыі Беларусі была важнай часткай ідэалогіі Лукашэнкі, і гэта адрозьнівала яго разуменьне беларускай ідэі ад палітыкаў БНФ з іх моцнай антысавецкай і антырасійскай арыентацыяй. Нацыянальныя актывісты рабілі акцэнт на аднаўленьні нацыі, якая існавала ў дасавецкім мінулым, развіцьцё якой было прыпынена савецкай уладай. На самай справе, аднак, нацыянальная беларуская дзяржава ніколі не існавала да савецкай улады. Працэс будаўніцтва беларускай нацыі, які пачаўся ў канцы дзевятнаццатага стагоддзя, быў працягнуты ў савецкі час з дапамогай сваіх інструментаў. Як піша N.Vakar, "Беларусізм на працягу многіх гадоў атаясамляўся з савецкай уладай, і [...] здаецца, што ён стаў для мясцовых жыхароў проста яшчэ адным аспектам камунізму» (Vakar, 1956: 219). Фарміраваньне беларускага народа, як супольнасьці, аб'яднанай агульнай мовай, культурай, гісторыяй і паходжаньнем, адбылося ў гады савецкай улады і пры падтрымцы яго інстытутаў.

Першае дзесяцігоддзе бальшавіцкай улады суправаджалася палітыкай *карэнізацыі* (*"nativization" або korenizatsiia*), меўшай на мэце дзейную "беларусізацыю" грамадскага жыцьця ў Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы (БССР). БССР паведамляла ў 1925 годзе ў Савет Нацыянальнасцяў СССР, што ў цэнтральных ведамствах рэспублікі толькі 26,9% супрацоўнікаў гаварылі па-беларуску. У 1926 годзе гэта колькасьць узрасла да 54%, а ў 1928 годзе была вышэй за 80%. Акрамя таго, у пачатку 1928 г. "беларусізацыя" лічылася цалкам завершанай у цэнтральных, абласных і раённых органах улады. Друк стаў амаль выключна беларускім. Да 1929 г. засталася толькі адна газета на расійскай мове і не было расійскіх часопісаў. У 1924-1925 г.г., 28,4% школ былі беларускамоўнымі, тады як у 1929-1930 г.г. гэта лічба паднялася да 93,8% (Martin, 2001: 264). Акрамя таго, сістэматычныя даследаваньні ў галіне «нацыянальнай геаграфіі, прыродных рэсурсаў, гісторыі і літаратуры, хоць і ў марксісцка-ленінска-сталінскіх умовах існаваньня атрыбутаў дзяржаўнасьці, умацавалі пачуцьцё асобнай беларускай ідэнтычнасьці» (Vakar, 1956: 219). Гэта не было выпадкова, як піша Ян Запруднік, беларускія нацыяналісты ў 1990-я гады марылі пра «паўтарэньне беларусізацыі - культурнага феномена 1920-х гадоў» (Zaprudnik, 1993: 77). У канцы 1920-х гадоў, інтэнсіўная нацыяналізацыя замясьцілася палітыкай "дружбы народаў".

*№9, сакавік 2015 ISSN 2291-4757*

Адной з галоўных асаблівасьцяў гэтага перыяду было аднаўленьне традыцыйнай расійскай культуры і расійскага нацыяналізму ў якасьці крыніцы савецкага адзінства. Пасля абвяшчэньня Сталіным барацьбы з нацыянальным укланізмам у нацыянальных рэспубліках - пачаўся тэрор 1930-х гадоў. Zaprudnik апісвае маштабы разбурэньняў, даючы карціну страт, панесеных беларускім культурным асяроддзем: Інстытут беларускай культуры, пазьней Беларуская акадэмія навук, страціў амаль "дзевяноста адсоткаў яго членаў; пераважная большасьць з іх былі расстраляныя" (Zaprudnik, 1993: 87). Гэтыя падзеі мелі катастрафічны ўплыў на беларускую культуру, але ў той жа час савецкія кіраўнікі ніколі не ставілі пад пытаньне "дзяржаўнасьць" беларусаў, хоць яны, як правіла, уплывалі на працэсы яе разуменьня людзьмі. Па словах Vakar, "Саветы былі супраць людзей, але ня супраць сімвалаў беларусізма (belorussianism)» (Vakar, 1956: 150). "Сталінізацыя нацыяналізма", піша Vakar, азначала, што" нацыянальная база Рэспублікі была мудра пакінута без зьменаў [...] Яна толькі павінна была быць забяспечана новымі кадрамі, а беларускае жыцьцё і культура - зарыентаваныя ў новым напрамку. Напрамак быў зададзены словамі Сталіна: "Нацыяналістычныя па форме, сацыялістычныя па зьместу" '(Vakar, 1956: 146).

Новая палітыка "русіфікацыі" і ўкараненьне двухмоўя паступова прывяло да зьмены культурнага статуса і грамадскага іміджа беларускай мовы. Справа ў тым, што савецкая ідэалогія адносна нацыянальных пытаньняў не пакідала прасторы для канкрэтнага беларускага нацыянальнага развіцьця, у якой беларуская мова і культура паўставала б у апазіцыю да савецкага народа. У кантэксьце савецкага прагрэсіўнага развіцьця спасылка на выключнасьць беларускай нацыянальнай культуры і мовы часта ўспрымалася як "вяртаньне назад" ці анты-прагрэсіўнай. Беларуская мова павінна была захаваць сваё значэньне як традыцыйная вартасьць, прывязаная да народнай культуры і гісторыі. Такім чынам, расійская мова стала не толькі мовай савецкіх народаў, але і мовай сацыяльнага прагрэса нацыянальных рэспублік.

Беларускае бачаньне савецкай гісторыі ўключала малюнкі сталінскіх рэпрэсій і "русіфікацыі", якія вялі да маргіналізацыі беларускай мовы і "раздзяржаўленьня" беларусаў. Акрамя таго, у савецкі перыяд беларусы адчулі значнае паляпшэньне ўзроўню жыцьця. Эканамічны прагрэс у БССР у 1960-х і 1970-х гадах зрабіў Беларусь адной з найбольш заможных савецкіх рэспублік. З гэтага пункту гледжаньня, савецкая эпоха таксама можа лічыцца пэўнай часткай працэсу нацыянальнага будаўніцтва Беларусі, падчас якой некаторыя асьпекты савецкай ідэалогіі, нараўне з пра-расійскімі культурнымі і палітычнымі ўплывамі, былі

ўключаны ў канцэпцыю беларускай ідэі. David Marples лічыць, што "залаты век" беларускай гісторыі зьвязаны з часам пасляваеннага аднаўленьня. Рэспубліка тады не толькі аднавіла свае страты, але і заняла вядучае месца сярод іншых савецкіх рэспублік па ўзроўню прамысловага развіцця і ўзроўню жыцьця (Marples, 2003: 24, 25). Як піша G. Ioffe, вынікі савецкага перыяду гісторыі Беларусі былі ўспрыняты многімі беларусамі безумоўна станоўча: «краіна змрочных майстэрняў і непрадукцыйных водна-балотных угоддзяў у пачатку XX стагоддзя, Беларусь праз семдзесят гадоў пазьней мела разьвітую буйную прамысловасьць і значна мадэрнізаваную сельскую гаспадарку" (Ioffe, 2008: 109).

У першыя гады незалежнасьці, нацыянальныя актывісты сутыкнуліся з вельмі цяжкай задачай "размежаваньня» беларускай ідэі ад савецкай ідэалогіі, адначасова імкнучыся напоўніць яго альтэрнатыўным зьместам. Тым не менш, яны аддалі перавагу новай ідэі ў процівагу "савецкасьці", ідэі, якая павінна была павярнуць геапалітычную сістэму беларускай ідэнтычнасьці ў еўрапейскім напрамку. Беларускай мове адводзілася роля буйнога маркера для гэтага новага праекта нацыянальнай ідэнтычнасьці. З іншага боку, афіцыйная палітыка беларускага двухмоўя, якая была ўведзена ў 1995 г., сьведчыла аб вяртаньні беларускага грамадства да савецкай мадэлі. У гэты жорсткі перыяд падзяленьня большасць беларускага народа аддала перавагу падтрымцы версіі беларускай ідэі, з якой яны былі найбольш знаёмыя.

## 3. Канкурэнцыя мета-наратываў беларускай ідэнтычнасьці: пошукі над-нацыянальнай структуры

Афіцыйныя і апазіцыйныя падыходы да моўнай палітыкі ў Беларусі былі сфармуляваны ў адпаведных палітычных і культурных парадыгмах. Кожная з гэтых парадыгмаў прадугледжвае асаблівае разуменьне статусу нацыянальнай мовы, беларускага двухмоўя і становішча расійскай мовы. Як будзе паказана ніжэй, усе гэтыя асьпекты моўнай ідэнтычнасьці ў беларускім кантэксце з'яўляюцца часткай больш агульнай дылемы аб цывілізацыйным і культурным становішчы Беларусі. Як адзначыў Mark Bassin, як ні парадаксальна, усе нацыяналістычныя ідэалогіі фармулююць сваё бачаньне дзяржаўнасьці з пункту гледжаньня мадэлі «над-нацый»: «ідэалагізацыя бачаньня мультынацыянальных агламерацый [...] звязаных адзін з адным у адзіную згуртаваную наднацыянальную "супольнасць" шэрагам агульных культурных, рэлігійных, маральных і сацыяльных каштоўнасьцяў, а таксама агульным разуменьнем гістарычных каранёў і вопыту» (Bassin, 2012: 554). У Беларусі, прыналежнасьць да большай наднацыянальнай супольнасьці, здаецца,

№9, сакавік 2015 ISSN 2291-4757

з'яўляецца спрэчным пытаньнем. Беларуская моўная самабытнасць вызначаецца па-рознаму, у залежнасці ад цывілізацыйных і культурных рамак, абраных для беларускай ідэі. Беларусь з'яўляецца альбо складовай часткай Расійскай цывілізацыйнай прасторы (у афіцыйным дыскурсе) або часткай Еўропы (у альтэрнатыўным дыскурсе); абедзьве версіі прадугледжваюць адпаведную логіку нацыянальнага развіцьця і, як сьлед, моўную палітыку.

У Беларусі, ва ўмовах аўтарытарнай дзяржавы, няма спаборніцтва паміж рознымі беларускімі моўнымі праектамі. Адзін з іх падтрымліваецца дзяржавай з удзелам інстытуцыйных рэсурсаў, ідэалагічнай прапаганды, з дапамогай дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі і сістэмы адукацыі, у той час як іншыя, зьвязаны з палітычнай апазіцыяй і існуюць у абмежаванай грамадскай прасторы.

Афіцыйная ідэя Беларусі, якая распаўсюджваецца дзяржаўнай ідэалогіяй, "цьвердзіць", што краіна знаходзіцца на тэрыторыі ўсходнеславянскай праваслаўнай цывілізацыі, з цэнтрам у Расіі. Гэта ўсходняя версія беларускай ідэі спалучае ў сабе некаторыя элементы беларускай культуры і традыцый з Расіяй, у той час як расійска-беларускае культурнае адзінства і "вечная дружба "прадстаўлены ў якасці галоўнай распазнавальнай якасьці беларусаў. У адпаведнасьці з гэтай канцэпцыяй Беларусі, расійская мова ня ёсьць замежнай мовай для беларусаў, але, разам з беларускай мовай, з'яўляецца часткай беларускай культурнай традыцыі.

Як пісаў V. Akudovich, «Расія знаходзіцца не на ўсход ад беларускіх зямель, а Расія з'яўляецца ўсходам Беларусі. Гэта азначае, што Расія дзякуючы свайму пэўнаму контуру (гэтак жа, як і Еўропа) натуральна разьмешчана ўнутры нашай уласнай самасьці» (Akudovich, 2006: 31). Гэта ўсходняя накіраванасьць развіцьця беларускай ідэі падтрымліваецца двума фактарамі беларускага развіцьця: прыналежнасьцю да праваслаўнага хрысціянства і вопытам савецкай мадэрнізацыі.

Афіцыйная пазіцыя праваслаўнай царквы, якая падзяляецца большасьцю праваслаўнага духавенства ў Беларусі, безумоўна падтрымоўвае пра-расійскую ідэю беларускай дзяржаўнасьці. Ідэя аб тым, што рэлігійная традыцыя праваслаў'я ёсьць сапраўднай беларускай верай агульнай з Расіяй, вызначае і спецыфічную канфігурацыю моўнай самабытнасьці беларусаў. Афіцыйная моўная палітыка Расійскай праваслаўнай царквы з'яўляецца безумоўна пра-расійскай, прызнаючы Беларусь у якасьці неад'емнай часткі расійскай праваслаўнай традыцыі. Праваслаўная Царква выкарыстоўвае царкоўнаславянскую мову ў літургіі і расійскую мову ва ўсіх іншых выпадках. Негатыўнае стаўленьне Маскоўскага

№9, сакавік 2015 ISSN 2291-4757

патрыярхата да ўвядзеньня нацыянальных моў у рэлігійных паслугах можа тлумачыцца двума фактарамі. Па-першае, асаблівая ўвага, якую Маскоўскі патрыярхат надае выкарыстаньню гэтай мовы ў набажэнствах, тлумачыцца паводле Borowik, двайным пачуцьцём адзінства, якое праваслаўная царква стварае з дапамогай царкоўна-славянскай мовы, каб захаваць сувязь з агульным мінулым, а менавіта з традыцыямі, якія сягаюць усходняга хрысціянства ў часы братоў Кірыла і Мяфодзія, якія выкарыстоўвалі стараславянскую мову. Па-другое, патрыярхат дэманструе строгую і бачную пазіцыю ў адносінах да заходняга хрысціянства, якое выкарыстоўвае нацыянальныя мовы і страціла агульную літургічную мову. «Гэтая практыка ў дадзеным выпадку адлюстроўвае высокую значнасьць, якую Руская праваслаўная царква надае, каб падкрэсліць моцны падзел паміж заходнім і ўсходнім праваслаўным хрысціянствам» (Borowik, 2006: 273). Апазіцыя ў адносінах да заходняй цывілізацыі, культуры і рэлігійных традыцый на тэрыторыі Беларусі, аднак, была перанапраўлена па некаторых аспектах ў апазіцыю да самой беларускай традыцыі, а менавіта да тых перыядаў гісторыі, калі продкі беларусаў далучыліся да кальвінізму, уніяцкай (грэка-каталіцкай) царквы, і ў вялікай колькасьці да каталіцызма, не кажучы ўжо пра гістарычна значную прысутнасьць габрэяў і татар-мусульман у краіне. У Беларусі ёсьць таксама нацыянальна-арыентаваная праваслаўная абшчына. Праваслаўнае брацтва Трох віленскіх пакутнікаў было заснавана ў 1992 годзе з мэтай аб'яднаньня вернікаў і ўкараненьня ідэі праваслаўнай рэлігіі як рэальнай беларускай традыцыі, з расійскімі каранямі гэтай традыцыі, якія не маюць асаблівага значэньня ў сучасным беларускім рэлігійным жыцьці. Абшчына выдае праваслаўны часопіс пад назвай *Pravaslaue* на беларускай мове. Сярод іншых аспектаў нацыяналізуемага рэлігійнага жыцьця сярод праваслаўных хрысціян гэта абшчына\супольнасць таксама прасоўвае ідэю выкарыстаньня беларускай мовы ў багаслужбе. Дзейнасьць гэтай абшчыны, аднак, не мяняе дамінуючага становішча праваслаўнай царквы і яе афіцыйнай палітыкі і застаецца свайго роду нацыянальнай суб-супольнасьцю ў Расійскім праваслаўі.

Сітуацыя ў каталіцкай царкве, другой па велічыні рэлігійнай канфесіі на сёняшні дзень у Беларусі,[6] значна адрозніваецца. Афіцыйная моўная палітыка каталіцкай царквы, якая раней лічыліся ў якасьці агента пашырэньня "польскасьці", у цяперашні час, безумоўна накіравана на развіцьцё беларускай мовы. Гэтая палітыка была сфармулявана ў канцы 1980-х гадоў. Раней прысутнасьць каталіцтва служыла напамінам пра польскае панаваньне над тэрыторыяй Беларусі: гэта была рэлігія палякаў, і польская мова безумоўна прымалася як натуральная для каталіцызма. Між тым, Ватыкан ужо заяўляў пра сваю пра-беларускую пазіцыю яшчэ ў 1950 г., калі Ватыканскае радыё пачало перадачы на беларускай мове. Папа Ян Павел II

№9, сакавік 2015 ISSN 2291-4757

выкарыстоўваў беларускую мову, каб прадэманстраваць сваю падтрымку беларускаму нацыянальнаму каталіцызму. У Беларусі, беларуская мова была прынята ў якасці працоўнай мовы толькі ў каталіцкай царкве. У 1991 годзе Казімір Свёнтэк[7] аддаў перавагу ўвядзенью беларускай мовы ў багаслужбу і забараніў паказ польскіх нацыянальных сімвалаў у каталіцкіх цэрквах Беларусі. З пункту гледжаньня "беларусізацыі" каталіцкай царквы заставаліся праблемы з некаторымі святарамі польскага паходжаньня, якія не падзялялі паняцьці "каталіцтва" і "польскасьці". Яны былі супраць беларускай мовы, разглядаючы яе выкарыстаньне як спосаб «беларусізацыі» палякаў, якія пражываюць у Беларусі. Каталіцкая царква таксама ажыцьцяўляе шырокі спектр адукацыйнай і выдавецкай дзейнасьці ў Беларусі. Усе каталіцкія часопісы і кнігі публікуюцца па-беларуску (*Наша Вера, Ave Maria*), асноўныя рэлігійныя тэксты перакладзены на беларускую мову, як і малітвы, і песьні. Каталіцкае духавенства, як правіла, выкарыстоўвае беларускую мову ў сваіх размовах з вернікамі.

Як паказалі вынікі апытаньня грамадскай думкі, праведзенага лабараторыяй Новак, геапалітычныя перавагі беларусаў і ўспрыманьне Расіі як саюзніка значна залежыць ад іх рэлігійнай прыналежнасьці. Прыхільнікаў саюза з Расіяй сярод беларускіх каталікоў (11%) значна менш у параўнаньні з праваслаўнай абшчынай (32,2%). У той жа час, група каталікоў ўключае прыкметна больш праціўнікаў якога-небудзь саюза наогул, чым у сярэднім па выбарцы (36,6% супраць 18,8% у групе праваслаўных вернікаў і супраць 20,4% сярод усіх апытаных). Улічваючы, што «прарасійскія» і «аўтаркіі» выбаршчыкі з'яўляюцца відавочным электаратам улады, можна быць упэўненым, што беларускія каталікі, якія падтрымліваюць цяперашнюю ўладу "недалучэньня", замяняюць пра-расійскі выбар, які можна разглядаць як асноўны варыянт для праваслаўных прыхільнікаў улады («Belarus and the World», 2010: 26).

Другі ключавы фактар у развіцьці ўсходняй канцэпцыі беларускай ідэнтычнасьці зьвязаны з сацыялістычнай мадэрнізацыяй, дзе культурная асьвета, адукацыя і выхаваньне нацыянальнай свядомасьці абумоўлены сацыялістычнай ідэалогіяй, якая эфектыўна ажыцьцяўлялася Савецкай дзяржавай. Хоць гэта была аднаўленая форма мадэрнізацыі, яна, тым не менш, зьвязана з тымі сферамі грамадскага жыцьця, якія непасрэдна ўплывалі на фармаваньне беларускай нацыі. Па-першае, сацыялістычныя пераўтварэньні зьмянілі сацыяльную структуру грамадства. Другі аспект пераўтварэньняў быў зьвязаны з камунікатыўнымі аб'ектамі ў сацыяльнай прасторы і з будаўніцтвам сучаснай сеткі сувязі. Усе гэтыя зьмены ўзмацнілі савецкасьць беларусаў, зрабіўшы іх устойлівымі да нацыяналістычных заклікаў, якія тычыліся беларускай нацыянальнай славы дасавецкага перыяду. Лінгвістычная структура

*№9, сакавік 2015 ISSN 2291-4757*

сучаснага беларускага грамадства таксама прадукт савецкай эпохі. Моўная палітыка беларускіх уладаў, уведзенная пасля рэферэндуму 1995 года, была адным з элементаў агульнай стратэгіі працягу савецкай практыкі.

Другім варыянтам наднацыянальнай структуры, сфармуляваным і падтрымліваемым апазіцыйнымі культурнымі элітамі, з'яўляецца Еўропа. "Еўрапейскія" аналогіі культурнага нацыянальнага будаўніцтва служаць мадэлямі для палітыкі, накіраванай на дасягненьне такой сітуацыі ў Беларусі, якую можна ахарактарызаваць як адна дзяржава-адна мова. Адной з мэтаў Беларускага народнага фронту з'яўляецца "аднаўленьне беларускай культурнай традыцыі на аснове еўрапейскіх маральных вартасьцяў ", у той час як" еўрапейскасьць» і агульныя цывілізацыйныя перспектывы Беларусі падаюцца з пункту гледжаньня беларускай гістарычнай памяці.[8] У адпаведнасьці з гэтым еўрапейскім бачаньнем Беларусі, Еўропа заўсёды была сапраўдным домам для беларусаў: "Ад моманту ўзнікненьня дзяржаўнасьці на беларускіх землях у дзевятым стагоддзі і да канца васемнаццатага стагоддзя Беларусь належала да заходняй або, хутчэй, да еўрапейскай цывілізацыі" (Rouda, 2004). Пра заходні фармат беларускай нацыянальнай ідэі сьведчыць беларускае мінулае, і практычна ўсе асаблівасьці заходняй цывілізацыі могуць быць ужыты да Беларусі, ці, дакладней, да яе мінулага. У гісторыі Беларусі можна знайсьці шмат прыкладаў "еўрапейскасьці": уплыў класічнай культурнай спадчыны, якая пранікла на беларускую тэрыторыю з Візантыйскай і Рымскай імперый; развіцьцё каталіцызму і кальвінізму; падзел царквы і дзяржавы, які быў стандартам у Беларусі да часоў яе захопу Расійскай імперыяй.

Праект Беларусі, пабудаваны на аснове еўрапейскай гісторыі, сьведчыць аб тым, што беларусы такі ж народ, як палякі, славакі і чэхі. Паводле гэтай аналогіі, лагічна зрабіць выснову, што на пэўным этапе свайго развіцьця беларусы павінны дасягнуць такога моманту ў гісторыі, дзе яны стануць лінгвістычна аднароднай нацыянальнай дзяржавай, падобна да Польшчы, Славакіі і г.д. У гэтым кантэксце, беларускасьць, відаць, будзе адным з галоўных атрыбутаў і прыкметаў невялікай еўрапейскай нацыі. Такім чынам, становячыся беларусалюбам азначае ў той жа час прызнаньне ідэі існаваньня еўрапейскага беларуса і наадварот.

**4. Аргументацыя правоў чалавека ў лінгвістычных дэбатах**

Адной з характэрных асаблівасьцяў лінгвістычнай сітуацыі ў Беларусі з'яўляецца крайняя палітызацыя моўнага пытання, якая прадухіляе эфектыўнае абмеркаваньне

у сучасных нацыянальных дзяржавах патрабуе часу для адукацыі насельніцтва ў адпаведнасьці з прынцыпамі уключнасьці.

Беларусам нацыяналізм дапаможа, у першаю чаргу, абараніць сябе ад абыякавых адносін да сваёй нацыі, і, па-другое, апярэдзіць наступ “русского мира”, які агрэсіўна прапаноўвае сябе пад маскай еўразійскай ідэалогіі ці пад лозунгамі “русские для русских”. Тым больш, што на тэрыторыі Беларусі квітнее тая ж расійская мова і культура. Русіфікацыя пачалася нават не пры савецкай уладзе, а значна раней, пасьля падзелу Рэчы Паспалітай, калі разам з праваслаўем прыйшла на зьмену апалячваньню і ўніяцтву. Але тое, што было не зроблена царызмам, дарабілі ў савецкія часы мясцовыя кіраўнікі – у той час калі літоўскія камуністы дабудоўвалі сваю нацыю, лідэры беларускай кампартыі зачынялі беларускія школы.

Такая палітыка працягваецца і сёння. Развіцьцё нацыяналізму стрымліваецца аўтарытарным рэжымам і скіраваны на выкарыстаньне савецкай ідэалогіі. Аўтарытарны рэжым мацнее, ужо дабраліся да інтэрнэта. Перад гэтым былі выціснуты незалежныя газеты і забаронены ўсе магчымыя вольнасьці адносна свабоды выказваньняў і крытыкі. У краіне няма адкрытага грамадства, урад сьвядома падзяляе людзей Беларусі па прынцыпу іх лаяльнасьці да дзейнай улады (два саюзы палякаў, два саюзы пісьменьнікаў, кругом ворагі, апазіцыя – гэта пятая калона і г.д.). Рэпрэсіі ў адносінах да палітычных апанентаў, аднабаковая падача прапаганды, нават з расійскіх крыніц, расійская культура – у значнай ступені таксама душаць любыя праявы нацыянальнага адраджэньня. Дайшло да такіх ганебных праяў, што нават падчас вясельля ў Баранавічах ледзь не пабілі гасьцей, якія размаўлялі па-беларуску. Увогуле, станоўчыя і адмоўныя фактары, якія маглі б уплываць на павышэньне нацыянальнай сьвядомасьці зараз незбалансаваныя і скіраваны ў адмоўны бок.

Хістаньні кіраўніцтва дзяржавы ад дэкларатыўнага жаданьня ўмацоўваць нацыянальную дзяржаву і мову да братаньня з рускім мядзьведзем да добрых вынікаў не прывядуць. Калі кіраўнік Беларусі лічыць кіраўніка Расіі сваім родным братам, то гэта яго асабістая справа. Зыходзячы з хрысьціянскіх пастулатаў, усе людзі на зямлі браты і сёстры. Аднак, калі старэйшы брат лічыць, што малодшы брат павінен слепа выконваць ягоныя загады, то чакаць добрых адносін паміж імі не прыходзіцца. Навошта нам такая радня?

На наш погляд, нягледзячы на тое, што ў Беларусі будуецца цывільная рускамоўная дзяржава, тэарэтычна ёсьць шанс будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы, заснаванай на этнічнасьці і уключнасьці. Аднак, для гэтага патрэбна як значнае павышэньне

нацыянальнай сьвядомасьці беларусаў праз асьвету, так і істотны перагляд палітыкі самой дзяржавы ў адносінах да нацыянальнага пытаньня.

Калі ўсё ж уявіць, што Беларусь трапляе "в русский мир" шасьцю губернямі, то пра нацыяналізм беларусаў у такім фармаце гаварыць не прыйдзецца. Прыкладам таму з'яўляецца зьнікненьне яшчэ ў 11-12 ст. такіх плямёнаў і народаў як мяшчэра, мурома, меря, склаўшых аснову вялікарускага этнаса, і зьмяншэньне ў Расіі колькасьці людзей іншых нацыянальнасьцяў у наш час - у параўнаньні з даваенным часам колькасьць мардвінаў, карэлаў, вепсаў, іжорцаў зьменшылася у некалькі разоў. Гэта ж будзе чакаць пасьля паглынаньня і беларусаў, справа толькі часу.

Спроба украінскага народа паказаць сваю самабытнасьць і жаданьне вызначаць сваё асобнае месца ў сьвеце сустрэла небывалую агрэсію з боку імперыі, якая ніколі не пакідала ідэі падпарадкаваньня народаў-суседзяў. Аднак, калі з боку украінцаў гэта вайна за незалежнасьць радзімы, то з боку расіян гэта вайна супраць нацыянальных сіл, якім, дзякуючы небывалай ілжывай прапагандзе з боку Расіі, налепліваюць кляймо бандэраўцаў і фашыстаў. Вынік гэтай вайны зразумелы – перамога будзе за нацыянальнымі сіламі, якія нясуць свабоду свайму народу. Час імперскага мысьленьня ў Расіі павінен быў бы даўно скончыцца, але, на жаль, як і раней, ідэалогія пашырэньня імперскага, расійскага сьвету ляжыць у аснове дзяржаўнай стратэгіі.

Сваю унікальнасьць адчуваюць у нашы дні ўсё больш беларусаў на фоне падзеяў, што адбываюцца на Украіне. Падаецца, што нацыянальныя памкненьні ў беларусаў будуць узмацняцца, і здаровы нацыяналізм павінен ім у гэтым дапамагчы. Беларускі нацыяналізм павінен быць уключным або, іншымі словамі, здаровым, добрым нацыяналізмам – нацыяналізмам, заснаваным на беларускай ідэнтычнасьці пры ўліку інтарэсаў нацыянальных меньшасьцяў і ўсіх слаёў грамадства.

Рэалізацыя ідэй беларускага нацыяналізма дапаможа беларусам:

Сьвядома ідэнтыфікаваць сябе беларусамі і беларускамі;

Збудаваць паўнавартасную нацыянальную дзяржаву на прынцыпах уключнасьці;

Абараніць сваю нацыю ад паглынаньня і зьнішчэньня "русским миром" ці іншымі наднацыянальнымі аб'яднаньнямі.

**Асноўныя спасылкі**

1. Астапенка А. Нацыянальная ідэя ў сучасным сьвеце. Мінск, 2003. 181 с.

2. Булгакаў В. Гісторыя беларускага нацыяналізму. Вільня, 2007. 331 с.

3. Казак П. Беларускі нацыяналізм: Даведнік. Мн.: Голас Краю, 2001.

4. Кандыбовіч С. Разгром нацыянальнага руху ў Беларусі. Менск, Беларускі Гістарычны Агляд, 2000. ISBN 985-6374-15-4; Бібліятэка часопіса «Беларускі Гістарычны Агляд» http://knihi.com/Symon_Kandybovic/Razhrom_nacyjanalnaha_ruchu_u_Bielarusi.html

5. Klaus V. What is Europeism? 2006. http://www.klaus.cz/clanky/1326

6. Кузняцоў І. Рэпрэсіі супраць інтэлігенцыі Беларусі. http://represii.net/library/intellectuals

7. Маракоў Л. Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асьветы, грамадскія і культурныя дзеячы. 1794-1991. www.marakou.by

8. Спіс сучасных этнічных груп. http://en.wikipedia.org/wiki/List_of_contemporary_ethnic_groups

**Piotra Murzionak: WHAT NATIONALISM IS NECESSARY FOR BELARUS**

*(Abstract, magazine "CULTURE, NATION", March 2014, issue 9, pp. 34-43)*

Nowadays, more and more Belarusians fill themselves as unique nation due to events taking place in Ukraine. It seems that the national aspirations of the Belarusians will be strengthened, and a healthy nationalism must help them to do that. Belarusian nationalism should be inclusive, or, in other words, healthy, good nationalism - nationalism based on the Belarusian identity, taking into account the interests of national minorities and all social strata. Implementation of the ideas of the Belarusian nationalism will allow Belarusians: 1. to identify themselves as Belarusians consciously; 2. to build a full nation-state on the principles of inclusiveness; 3. to protect Belarusian nation from destruction and absorption by 'Russian world' or by other supranational organizations.

КУЛЬТУРА НАЦЫЯ

№9, сакавік 2015 ISSN 2291-4757

*Літаратура*

**Аляксандр Згерскі:** *Апавяданьне* **ЧАРОЎНЫ ФЛІКЕР**

Прыемная мелодыя будзільніка, якая паспела за кароткі час абрыднуць, прарэзала цемру начнога небыцця і нагадала пра тое, што свет яшчэ не згас для адной пары вачэй, то бок для мяне. Так пачыналася раніца поўная песімізму, адна з безаблічнага шэрагу шматлікіх такіх жа самых раніц. Пахмельная свядомасць паспрабавала са старту ахапіць усе падзеі ўчарашняга вечара і ўсе планы на сёняшні дзень, але атрымалася няўдала - змардаваная свядомасць і млявая плоць адмаўляліся супрацоўнічаць. Потым рывок з ложка, некалькі крокаў да балконных дзвярэй - і я ўжо ўдыхаю свежае халоднае паветра, спрабуючы прывесці да ладу думкі, з таемнай надзеяй, што ўсе не так і дрэнна.

“Незваротныя працэсы, незваротныя працэсы…” – успаміналася ўчарашняя спрэчка. “Вось табе і незваротныя працэсы” – злуючыся на сябе самога, заключыў я, прыслухоўваючыся да непрыемных пачуццяў у сваіх вантробах. “Навошта было даганяцца яшчэ і гэтым бырлам, пладова-ягадным пойлам? А, ну як жа: трэба было паказаць сваё пралетарска-сялянскае паходжанне. Ну дурань, ну дурань!”

Справа ў тым, што ўчарашні вечар пайшоў крыху не па запланаванаму сцэнару. Яна пакінула мяне сам на сам у кавярні, з замоўленай вячэрай і бутэлькай лёгкага сухога віна, дарэчы, яе любімага. І ўсё толькі з-за таго, што не хачу ехаць на вяселле яе стрыечнай сястры, не хачу пакідаць сваіх заняткаў, дзеля таго, каб пазнаёміцца з яе сваякамі з далёкага гораду, якіх я магчыма ніколі не пабачу акрамя гэтага сабантуя. “Як я магу найважнейшы дзень у жыцці называць сабантуем?” - ды проста, магу і ўсё, у рэшце рэшт сабантуй гэта народнае свята. Няўдалае адзначэнне двухгоддзя першай сустрэчы…

Што было рабіць? Бегчы следам? Не, я ж таксама гонар маю – колькі можна ахвяраваць сваім часам дзеля ўсялякіх наведванняў, дыпламатычных нагадванняў, дэманстратыўных выхадаў у “свет”, - усяго сумнеўнага, што разбівае чалавека на кавалкі, не дае ні на чым сканцэнтравацца. “Гэта я та магу губляць свой час на ўсялякую бздуру?!”

Я наліў яшчэ келіх, зацягнуўся любімай маркай цыгарэт, і, нягледзячы на лёгкае ўзрушэнне ад віна, паспрабаваў уладкаваць свае не надта зграбныя думкі. Нечакана

перад столікам быццам з-пад зямлі ўзнік чалавек. Я настолькі паглыбіўся ў сваё, што не ўбачыў як у кавярні паболела наведвальнікаў і ўсё месцы апынуліся занятымі, толькі адзін я самотна і непадзельна ўладарыў за сваім сталом у самым куце. Чалавек папрасіў дазволу сесці, я згодна кіўнуў, той сеў, акуратна паставіўшы распачатую ўжо бутэльку віскі, стакан і попельніцу на край стала.

Не вельмі зручны момант – калі ход думак, хай сабе і невясёлых, прыпыняецца невядома кім і адкуль. Непазбежнасць у свеце, дзе прыходзіцца суіснаваць з іншымі. І ў такой сітуацыі неадольна цягне агледзіць чалавека, які цяпер да часу падзяляе з табой стол, мабыць, гэта прыродны інстынкт – не дазваляць прадмету, які варушыцца побач, і хутчэй за ўсё з’яўляецца жывой істотай, заставацца неідэнтыфікаваным. Хаця этыкет, вынаходніцтва ўжо чалавека культурнага, не дазваляе наўпрост пільна глядзець на канкрэтнага чалавека, які таксама тэарэтычна можа быць культурнай істотай.

Мой выпадковы сусед па кавярным століку меў кароткую стрыжку, звычайны, нічым не характэрны лоб, не памятаю якога колеру ў яго былі вочы, але позірк у яго быў адметны. Менавіта на позірк гэтага чалавека натыкалася яго вывучэнне. Хітраваты, халодны, амаль што злы. Варта было б сказаць, што хітраватым яго рабіла правае, заўсёды прыжмуранае вока, а левае было адкрыта шырэй. Ён крыху горбіўся і неяк хіліўся на правы бок, быццам баксёр-праўшун перад каронным хукам, ад чаго ўражанне ад яго позірку рабілася яшчэ мацнейшым. Кінулася ў вочы каранастая фігура, шырокія плечы пры невялікім росце. Калі ён звярнуўся да мяне я падумаў было, што нехта побач без усялякага ўмення правёў смычком па струнах басэтлі: настолькі нізка, амаль зверападобна гучаў яго голас.

Завязалася звычайная размова. Гаварылі пра ўсё і ні пра што, пра недасканаласць абслугоўвання ў нашых кавярнях, пра адсталасць ад цывілізаванага свету, пра маральную разбэшчанасць нашых сучаснікаў. Ён быў абазнаны ў пытаннях параўноўвання “у нас” і “у іх”, было відавочна, што быў ён усюды, куды б не пераносіла нас размова, ды і адукаваны на добрым узроўні, лепш за шараговага марака – мне першапачаткова, не ведаю чаму падалося, што ён марак. Калі бутэлька віна, з якой я паціху пад гутарку падліваў у свой келіх, апусцела перада мной паўстала пытанне: ісці да дому альбо застацца? Але мой суразмоўца, быццам прачытаўшы мае думкі, дапамог вырашыць дылему, прагырчэў сваім басам:

- А што ты будзеш рабіць дома, трэба думаць яе не хутка адпусціць.

Я са здзіўленнем паглядзеў на яго.

*№9, сакавік 2015 ISSN 2291-4757*

- Я быў каля барнай стойкі, дзе толькі што распачаў вось гэтую бутэльку, калі твая сяброўка сарвалася з месца і пабегла да дзвярэй, гэтага нельга было не заўважыць, ну справа ясная – не дамовіліся. Пакуль я марудзіў, пляскаючыя языком з бармэнам, астатнія столікі пазаймалі іншыя наведвальнікі, і мне прыйшлося прышвартавацца тут.

Не, напэўна, ён усё ж такі марак.

- Ну, што ж, пайду закажу яшчэ віна, – прыняўшы рашэнне застацца, адказаў я і падняўся было з-за стала.
- Ай, якое віно, ёсць выдатны віскі! Вось! – і ён безапеляцыйна завалодаў маім келіхам, пляснуў туды бурштынавага колеру напой, не забыўшыся пры гэтым “абнавіць” свой.
- Павышаць градус можна, паніжаць – нельга, - цытаваў ён народную мудрасць падчас гэтых маніпуляцый.

Потым была яшчэ адна бутэлька віскі, размова пайшла весялей і ўрэшце перайшла да палітыкі. Колькі разоў заракаўся не размаўляць пра палітыку на п’яную галаву ды яшчэ з незнаёмцамі, ды яшчэ ў такой краіне як наша, бо ніякай карысці, на раніцу толькі непрыемны асадак. Але калі мяне падбухторыць, то я магу і не ўстрымацца, а падбухторваць мой суразмоўца ўмеў па майстэрску. Учора мне здавалася, што алкаголь на майго суседа дзейнічае так як і на мяне, але сёння, прыпамінаючы ўвесь ход размовы, я маю падазрэнне, што ён быў цверазейшы за мяне, калі не зусім цвярозы.

Калі віскі скончылася мы выйшлі з кавярні, я быў поўны намеру пайсці да хаты. Але па дарозе нам сустрэліся пара падпітых таварышаў бамжаватага выгляду, у аднаго з іх у руцэ была бутэлька таннага пладова-ягаднага віна - бырла. Мы спакойна, з жартамі ў бок адзін аднаго, без непаразуменняў размінуліся з імі, а мой знаёмы сказаў:

- Народ, нацыя, а вось можаш як яны хадзіць у дванаццаць ночы з

бутэлькай чарвіўкі, вось як гэтыя во?

Правакацыя была танная, але я павёўся:

- А што тут магчы, вунь начная крама пайшлі купім і будзем хадзіць як яны.

Мы рушылі да крамы дзе і набылі дзве бутэлькі, што было не проста, бо як аказалася пасля адзінаццаці вечара бырла не прадаецца. Але праз доўгія ўгаворы, праз некалькі хваляў кампліментаў і праз шакаладку набытую тут жа ў краме ў якасці падарунка, прадаўшчыца здалася і адпусціла нам таннае віно. Гэтыя перамовы, якія бліскуча правёў не я, а мой спадарожнік, былі вясёлым перапынкам нашай размовы, якая вялася ўсю дарогу. У ёй ён выпытваў мае адносіны да ўлады, да нацыянальнага пытання, я часам разыходзіўся, пачынаў гаварыць эмацыйна, а ён жа знарок, відаць, каб пабольш выпытаць, падбухторваў, правакаваў, задаваў непрыемныя пытанні там, дзе я не адчуваў сябе ўпэўнена.

Атрымаўшы сваё бырла, мы скіраваліся ў бліжэйшы парк, дзе раскаркавалі бутэльку. Наша палемічная, але мірная размова тым часам працягвалася. Я казаў нешта супраць татальнай глабалізацыі, супраць сцірання культурных асаблівасцяў і гэтак далей у тым жа духу. Мой суразмоўца патрабаваў доказаў таго, што гэта магчыма, калі я іх яму агучыў яго яны зразумела не задаволілі. Тады я сказаў, што ў такім выпадку мне застаецца абаперціся толькі на сваё пачуццё густу і веру ў тое, што ўсё так мае быць. На што ён задуменна прамовіў: “ Калі верыш, то добра”.

Калі першая бутэлька апусцела “марак” прапанаваў пачаць і другую, але я ўжо адчуваў сябе даволі п’яным і, памятаючы, што на раніцу мне спатрэбіцца ісці па справах, я адмовіўся. Мы сталі развітвацца, падчас доўгага пяціхвіліннага развітання, як тое і прынята ў п’яных, мой новы знаёмца прычапіў мне на паліто з левага боку невялічкі значок з светаадбівальным эфектам і патлумачыў: “Гэта флікер, каб да цябе ўсялякія даішнікі не чапляліся, а то ж ты сам ведаеш у вас, у сэнсе ў нас, калі ўвечары без флікера адразу штраф, вось так яны за нас хвалююцца. Ха-ха-ха”. На тым мы і развіталіся канчаткова, і я пабрыў дадому, раздумваючы аб тым, што ёсць яшчэ добрыя людзі на гэтым свеце, а таксама аб тым, што не так ужо ўсё і дрэнна, і можна жыць і г. д.

А сёння свет падаваўся ў адмоўных дэфініцыях, добрыя людзі не зніклі зусім з маёй свядомасці, але значна зменшыліся ў памерах і аддаліліся ў прасторы. Я пачаў прыводзіць сябе ў парадак, бо праз пару гадзін мне трэба будзе сядаць у цягнік і ехаць у Берлін. Кантрасны душ, кубак гарбаты, і вельмі, вельмі нясмачны бутэр, які я загнаў у сябе праз сілу, мітуслівыя зборы, добра дакументы ўсе сабраны загадзя, і вось я ўжо бягу на прыпынак.

Аўтобус – маленькі жоўты, такія пускаюць у нашым горадзе калі невялікі пасажырапаток – выскачыў з снежнай завеі нечакана, але своечасова, мне нават не прыйшлося спыняцца на прыпынку дзеля чакання, я як ішоў нахіліўшыся ўперад, перамагаючы вецер, так і ўваліўся ў расчыненыя дзверы. Добра што ў салоне з

*№9, сакавік 2015 ISSN 2291-4757*

цьмяным асвятленнем твары не надта добра былі бачны, і мне не прыходзілася хваляваца за свой крыху пацёрты выгляд пасля ўчарашняй непамернай адданасці Бахусу. Мяшкі пад вачамі здаваліся вынікам дрэннага асвятлення. Ехаць мне трэба было некалькі прыпынкаў, таму я стаў у невялікай нішы каля ўваходу. Недалёка ад мяне, каля супрацьлеглай сцяны аўтобуса, стаяў чалавек, нічым асабліва не прыцягваючы да сябя ўвагі. Адзінае, што кідалася ў вочы была стомленасць гэтага чалавека. Я яшчэ было падумаў можа ён таксама ўчора за каўнер закладваў. І так мы ехалі з сумнымі і соннымі тварамі кожны заглыбіўшыся ў сваё, стараючыся не сутыкацца позіркамі.

І вось на адным з прыпынкаў у салон нашага аўтобуса ўвайшоў чалавек апрануты ў скураны плашч і капялюш з шырокімі поламі, вочы яго былі закрыты акулярамі з вялікімі цёмнымі лінзамі. Ён не стаў праходзіць не наперад салона ні ў сярэдзіну, як таго патрабуе прафесійная пасажырская этыка, а наўпрост спыніўся пасярод пляцоўкі і стаў уважліва аглядаць прысутных. Ён нават зняў акуляры, каб было зручней гэта рабіць. Прысутныя, бачачы такія неардынарныя паводзіны, пачалі ў адказ узірацца ў яго, адна дама паправіла прычоску, малады чалавек побач з ёю расправіў плечы і стаў здавацца на паўгалавы вышэй, павісла няёмкая паўза, усе чакалі, што гэты дзіўны чалавек зробіць, нарэшце позірк яго спыніўся на стомленым грамадзяніне, якога я прыняў было за таварыша па няшчасцю. Незвычайны зрабіў крок да стомленага і пільна узіраючыся яму ў вочы, пачаў бессаромна шнарыць па яго кішэнях. Па пасажырскай супольнасці прайшоў здзіўлены шэпт. Стомлены ў сваю чаргу пачаў абурацца, не перашкаджаючы пры гэтым свайму крыўдзіцелю пераглядаць ягоныя кішэні:

- Грамадзяне, гэта ж, што ж, што гэты чалавек робіць? Гэта ж, дзе справядлівасць? Гэта ж як называецца, гэта ж, гэта ж рабаўніцтва!

У адказ прысутныя не сказалі нічога, здавалася, што яны ўжо страцілі цікавасць да таго, што адбываецца. Тым часам, незвычайны нешта знайшоў ва ўнутраных кішэнях курткі стомленага, і з радасным воклічам выцягнуў і раскрыў у сваіх руках гаманец набіты добрай кіпай грошай.

- Дык гэта ж увесь мой месячны заробак! Ды я ж па начах батрачу, каб зарабіць гэтыя паперкі, - невядома чаму пачаў апраўдвацца стомлены.
- Усе батрачаць, - пачулася незадаволена соннае недзе ззаду салона.
- Гэты чалавек таксама працуе, у кожнага свая праца - сказала кабета, што папраўляла прычоску.

Незвычайны, тым часам, дастаў кіпу грошай і з хуткасцю машыны пачаў на месцы іх пералічваць.

- Нешта малавата за месяц будзе, а? Не прыхаваў дзе-небудзь? – спытаў ён не перастаючы пільна ўглядацца ў вочы сваёй ахвяры.
- Ды ў гэтым месяцы прэміі пазбавілі.
- Чаму ж так?
- Ды спазніўся на працу.
- Правільна зрабілі! – рэзюмаваў незвычайны, і адной рукой надзеў акуляры, а другой з абыякавасцю сунуў гаманец сабе ў кішэню доўгага скуранога плашча.
- Ды ў мяне ж дзеці, чым я іх карміць буду, ды мяне жонка з хаты пагоніць! – голас стомленага сарваўся амаль на галошанне.
- Ва ўсіх дзеці, сорамна павінна быць! – злосна сказала тая ж кабета.
- А яшчэ мужчына называецца, - сказаў малады чалавек побач з ёй.
- Грамадзяне, будзьце талерантны! – пачулася недзе спераду, каля кіроўцы.
- Так, так, і ў мяне дзеці! – падхапіў незвычайны чалавек, - Вось, вось паглядзіце! - Ён нарэшце адарваўся ад стомленага і пачаў паказваць прысутным фота.
- Дзве дзяўчынкі, як кветачкі.

Прысутныя, не вельмі ўважліва ўзіраючыся ў фота, згодна заківалі галовамі, прыгаворваючы кампліменты двум анёлападобным стварэнням. Пасля гэтага ён зноў апынуўся перад стомленым, які зусім абмяк, апусціў галаву, і здавалася знаходзіўся недзе далёка.

- Але добра, раз такая справа, вось. – Ён дастаў гаманец, не лічачы выхапіў з агульнай пачкі колькі купюраў, і ўзяўшы руку стомленага, паклаў іх яму ў далонь, - трымай, сябра!

Гэты жэст вызваў лёгкі шум адабрэння сярод публікі. Між тым аўтобус пад’ехаў да чарговага прыпынку, дзверы адчыніліся. Незвычайны выпырхнуў з салону і імгненна растварыўся ў шэрай раніцы. Нехта, калі дзверы зачыніліся і аўтобус ад’ехаў ад прыпынку, сказаў:

- А наш-та малайчына, трымаўся годна, як мае быць.

Усе з гэтым таропка пагадзіліся і пачалі рыхтавацца да выхаду, наступным прыпынкам быў чыгуначны вакзал, выходзіла большасць пасажыраў, я ў тым ліку. Наш, то бок стомлены, стаяў нерухома заціснуўшы грошы ў руцэ і глядзеў кудысьці ўніз. Адзін спагадлівы пасажыр, устаючы, паказаў яму на пустое сядзенне і прапанаваў: “Сядайце, калі ласка”, - той сеў.

Надвор’е крыху палепшала, снег перастаў сыпаць, але лужыны, у якіх плавалі брудна-сінія мазутныя плямы і кавалкі лёду і снегу, былі амаль паўсюль. Кіроўца не

мог спыніцца нідзе акрамя як пасярод самай велізарнай лужыны і ўсе пасажыры, хто на пальчыках, хто на абцасах пачалі прабірацца да ўваходу ў вакзал. Набраўшы бруднай вады ў боты, я таксама пабрыў да дзвярэй. У руцэ я трымаў партфель з неабходнымі дакументамі, якія патрэбны былі для выезду за мяжу, і трымаў яго моцна, бо час і сілы, якія на іх ахвяраваў, як мне здаецца не паддаюцца ўліку.

У нашым горадзе вакзал падзелены на дзве часткі, першая для тых, хто вандруе па нашай краіне, другая для тых, хто выязджае за мяжу. Увайшоўшы ў будынак, я стаў кіравацца па стрэлках, якія паказвалі мой накірунак. Я зрабіў некалькі паваротаў і апынуўся адзін у доўгім калідоры, відавочна, за мяжу сёння збіраўся толькі я . Калідор заканчваўся масіўнымі дзвярыма, да якіх я і накіраваўся, пакідаючы за сабой мокрыя і брудныя сляды. Я патрапіў у вялізны пакой, святло ў якім было непрыемна яркім, асабліва пасля змроку шэрай зімовай раніцы, здавалася, што яно нахабна лезе ў вочы. У пакоі стаялі два сталы, за імі сядзелі жанчыны, не ведаю, якія ў іх былі пасады. Па пакоі прагульваўся мужчына моцнага целаскладу, відаць ахоўнік. Ад увахода да іх было метраў дванаццаць, я павітаўся, у адказ не прагучала ні слова. “Тым лепей”, - падумаў я і накіраваўся наўздагад да адной з служачых.

- Я тут, ведаеце, за мяжу збіраюся, вось дакументы…- пачаў я не ўпэўнена, дастаючы стос папер.
- Вы чытаць умееце? – замест адказу спытала жанчына, гледзячы на мяне знішчальным, пагардлівым позіркам.
- Умею, - адказаў я, пачынаючы пакрыху злавацца ад абыходжання, рэзкага святла і празмерна высокай тэмпературы ў пакоі.
- Дык вось пачытайце - гэты аддзел для заключнай рэгістрацыі, - і яна торкнула пальцам з доўгім пафарбаваным пазногцем у вялікі стэнд злева ад яе працоўнага месца, на якім было шмат усялякіх паперак, з шрыфтамі розных калібраў.
- Усе аб’явы ды пісулькі чытаць – жыцця не хопіць, - са злосцю прамовіў я і накіраваўся да стала на супрацьлеглым баку.

Калі я апынуўся побач з тым аддзелам, які мне быў патрэбны, я не стаў ужо разменьвацца на нерашучасці, проста перадаў паперы жанчыне без усялякіх тлумачэнняў. Яна іх прыняла і стала дэталёва вывучаць, раскладваючы на сваім стале быццам пасьянс.

- Так, гэта ёсць, і гэта таксама, добра…- прыгаворвала яна падчас гэтых маніпуляцый.

Я ўжо было пачаў супакойвацца, думаючы, што зараз у мяне запытаюць пашпарт, грошы, выдадуць квіток і ўсё – справа вырашана. Але раптам яна ўсклікнула, ды так нечакана, што я ледзь не падскочыў.

- А даведка аб складзе сям'і дзе?! І выпіскі з працоўнай я ва ўпор не бачу! Куды вы сабраліся? Вам толькі да бабулі ў вёску бульбу капаць з гэтым, – і яна ўзяла той набор паперак, які я ёй прынёс і патрэсла ім у паветры.
- Прабачце, - сказаў я набіраючы паветра ў лёгкія і вяртаючыся ў свой стан дрэннага настрою, з якога заўсёды падрыхтаваны наступаць і абараняцца, - якія такія даведкі і выпіскі, адкуль вы гэта ўзялі, калі яны, каму яны патрэбны раптам сталі?
- А вось чытайце, парадак выдачы праязных дакументаў на чыгуначны транспарт, для грамадзян, выязджаючых за мяжу, - і яна кінула на стол перада мною таўшчэзную цёмную папку, пераможна пры гэтым гледзячы на мяне.

Такі ход падзей ніяк не ўваходзіў у мае планы і я вырашыў змагацца:

- Спадарыня, я сабраў усе даведкі, як таго патрабуе наш закон, адпаведныя органы выдалі мне адпаведныя дакументы, вазьміце грошы і выдайце мне квіток, інакш я буду скардзіцца, бо нічога іншага мне не застаецца.
- Я ўсё разумею, я вас выдатна разумею, але і вы нас паспрабуйце зразумець, у нас таксама ведамства, і з нас спытаюць потым, ну не мы ж гэтыя правілы прыдумляем у рэшце рэшт, - сказала яна і, не даючы мне апамятацца, працягнула мне мае дакументы і дадала – што да скаргаў, то гэта мы таксама разумеем, мы таксама людзі дэмакратычныя. Ігар Віктаравіч, Ігар Віктаравіч, калі ласка, падыдзіце да нас, тут чалавек скардзіцца збіраецца.

Я хуценька схаваў дакументы назад у папку і паглядзеў да набліжаючагася ахоўніка. Ён набліжаўся ўпэўненым крокам, але ў мяне зрабілася ўражанне, што крочыў ён не даўжыню як усё, а неяк у шырыню. Падыйшоўшы, ён далікатна ўзяў мяне за руку крыху вышэй локця, і сказаў:

- Пройдзем, са скаргамі да дзяжурнага, - затым павёў мяне праз пакой у службовы калідор з некалькімі дзвярыма, я не пярэчыў і падпарадкаваўся, мне хацелася як мага хутчэй вырашыць справу.

Мы ўвайшлі да дзяжурнага.

- Вось, Мікалай Фёдаравіч, чалавек да вас, са скаргай, - звярнуўся ён да вусатага мужчыны маленькага росту з маленькімі краcінымі вачамі ў нейкай сіняй уніформе, які стаяў бокам да вакна і ўважліва назіраў за нечым, што рабілася звонку.
- Выязджаеце, - не адрываючыся спытаў той.

- Выязджаю, - адказаў я.
- І не сабралі ўсе дакументы?
- У мяне ўсе дакументы, гэта ў вас нейкія незразумелыя патрабаванні.
- Так, новае палажэнне, новыя ўмовы, - адказаў ён і накіраваўся да стала, дастаў ліст паперы і працягнуў мне, - пішыце скаргу, будзем разбірацца, праз два тыдні атрымаеце адказ.
- Праз два тыдні? Ды вы здзекуецеся?!
- А вось хаміць не трэба, малады чалавек, мы і не такіх бачылі. Так ці не, Ігар?
- Так, так, - пацвердзіў той крытычна мяне аглядаючы.

Раптам з маленькіх дзвярэй, якія знаходзіліся па праваруч ад увахода, выйшаў чалавек. Ён падышоў да дзяжурнага, які ўжо сеў на сваё месца, і стаў нешта шаптаць яму на вуха, пазіраючы пры гэтым на значок, флікер, што вісеў у мяне на паліто з учарашняга вечара, і які я хацеў было зняць ды забыўся. Дзяжурны таксама стаў неадрыўна, зачаравана глядзець на гэты флікер. Чалавек знік так жа хутка як і з’явіўся. Дзяжурны спачатку падскочыў, потым зноў сеў, не адрываючы позірка ад мяне хутка загаварыў:

- Прабачце, памылачка выйшла, не хацелі прычыняць вам турботы, таварыш, ой, прабачце, гаспадзін, грамадзянін. Так, Ігар, а ну Зінку сюды давай, хутка.

Ігар, які пры ўваходзе таго чалавека неяк знерухомеў, апусціў галаву і стаў уважліва вывучаць наскі сваіх бліскучых ботаў, куляй выляцеў з кабінету, выконваючы загад начальніка. Я нічога не зразумеў, што адбылося, але відавочна, што справа майго ад’езду пачала вырашацца на маю карысць пасля перашэптавання невядомага мне чалавека з дзяжурным, і прычынай гэтага стаў той самы флікер, які падараваў мне мой учарашні сабутэльнік. Як было паводзіць сябе? Я адвярнуўся да вакна быццам мне не цікавыя гэтыя перасоўванні, і з відам чалавека, які значна вышэй гэтага тлуму, заняў чакальную позу. Праз хвіліну з’явілася жанчына, якая загадвала прыёмам дакументаў.

- Зіна, выдайце гэтаму чалавеку неабходныя дакументы для яго падарожжа, - загадаў дзяжурны.
- Але…- пачала было яна.
- Хутка я сказаў, - павысіў тон начальнік і пачырванеў, - і Каці скажы, каб не марудзіла.

Жанчына падышла да мяне і нясмела папрасіла мае дакументы, вінавата паглядаючы кудысьці ў падлогу, я няспешна дастаў іх і перадаў ёй. Праз некалькі хвілін другая

жанчына, тая, да якой я адразу звярнуўся, прынесла мне іх назад, уручыла мне квіток на цягнік і сказала:

- Вось, калі ласка, добрай дарогі! – і імгненна выскачыла з кабінету.

- Прабачце нас, не разабраліся адразу. Ігар, правадзі чалавека, хай Танюха яго давязе.

Я, як і раней нічога не разумеючы, прыняў дакументы і словы як належнае, і з выглядам яшчэ крыху пакрыўджанным холадна развітаўся і выйшаў за Ігарам, які мне пачаў ужо падабацца. Мы пайшлі ўглыб сутарэнняў нашага чыгуначнага вакзалу. І неўзабаве апынуліся ля вялізных двухстворкавых дзвярэй з маленькімі круглымі вакенцамі на кожнай, Ігар націснуў на чорную пластыкаваю кнопку, што не замацаванай боўталася на провадзе. Недзе наверсе нешта стрэльнула, прасела і прыйшло ў рух, калі маленькія вакенцы асвяціліся, гэтае нешта перастала на секунду стагнаць, сцішылася, каб з грукатам адчыніць свае дзверы. Тое быў службовы ліфт. Дзверы адчыніла, ды так што тынкоўка пасыпалася, тоўстая жанчына з вельмі незадаволеным выразам твару. Настолькі незадаволеным, што нават Ігар быў вымушаны прасіць, каб мяне падкінулі куды трэба - на самы верх.

Танюха змерыла мяне недабразычлівым позіркам і сказала:

- Ну, заходзьце.

Я не сказаў дзякуй, мне падалося, што ад гэтага будзе толькі горш. Дзверы Танюха зачыніла з такой сілаю, што я падумаў як бы мяне не прыбіла выбуховай хваляй да задняй сценкі ліфта.

- Трымайцеся добра,- папярэдзіла ліфцёрша.

- Тут часам паветраныя пробкі здараюцца, - дадала яна лёгкай здзеклівай усмешкай.

- Дык хоць бы поручні якія ўладкавалі ці што, - карэктна прапанаваў я.

- Не прадугледжана, - са злосцю абрубіла Танюха.

- А ехаць доўга?

- Хвілін пятнаццаць.

- Ну хоць бы зэдлік які…

- Не прадугледжана.

Я падумаў, што калі б мяне прывёў не Ігар, а які небудзь манцёр гэтага ліфта Вася, па-блату, мы б магчыма паразумеліся, а так…

І вось праз некаторы час гэты ліфт страсянула разы два, потым пачуўся вельмі жалобны скрыгат і нарэшце наш сумнеўны транспарт спыніўся. Танюха расчыніла дзверы з той жа лютасцю і прамовіла, саступаючы мне дарогу:

- Выходзце, прыехалі.
- А куды далей? – выходзячы, з нерашучасцю прамовіў я.
- А мяне гэта не калыша, - абрэзала Танюха і зачыніла дзверы ліфта.

Я пачаў азірацца, у маленькі пакой, куды мяне даставілі, выхад і ўваход быў напэўна адзіны праз невялікі авальны люк у паўчалавечага росту, да якога вяла невялікая лесвіца. Туды я і накіраваўся, замест ручкі ў люка было кола, як нам паказваюць у кіно пра субмарыны, якое я павярнуў і люк паддаўся. Я выйшаў і быў аслеплены яркім светам, сонца тут стаяла ў зеніце, такога я не чакаў.

Я апынуўся на велізарнай роўнай пляцоўкі, яна нагадвала стэп, не хапала толькі блукаючых перакаці-поле. Спякота, бязлітаснае сонца толькі ўзмацнялі гэтае пачуцце. Праз некалькі соцень метраў я ўгледзеў шматлікія чыгуначныя шляхі. І пайшоў ў іх накірунку, аднак прамому выхаду да іх перашкаджаў сетачны паркан, які быў густа змазаны нечым ліпкім падобным да мазуту. Хаця сам паркан быў невысокі, і можна было з лёгкасцю перамахнуць праз яго, я гэтага не зрабіў, бо баяўся выпацкаць сваё паліто. Я накіраваўся ўздоўж.

І, такім чынам, я прайшоў яшчэ якую колькасць сотняў метраў да таго як заўважыў вялікаю дзірку ў сетцы паркану, праз якую можна была свабодна ўвайсці на тэрыторыю. Я агледзеўся: там, далей на пуцях стаялі саставы, а адразу за парканам справа месціўся сарцір, а адразу злева - сабачая будка, з якой тырчала сабачая пыса.

Як толькі я пераступіў мяжу праз дзірку ў паркане сабака адразу зрэагаваў на гэта адзіночным “гаў”, пасля чаго вылез з будкі, і матаючы сваім хвастом, цягнучы доўгі ланцуг між ног, падыйшоў да мяне, каб пазнаёміцца, што на сабачай мове азначае добра абнюхаць. Немалады па сабачых мерках, паляўнічы сабака гончай пароды, карычневай масці, з чорнымі плямамі па баках, худы настолькі, што рэбры і пазванкі можна было падлічыць без паслуг патолагаанатама, тыцнуўся пысай у маё калена, вільнуў хвастом, і, не знайшоўшы ўва мне нічога цікавага і карыснага, панура накіраваўся назад у сваю будку, цягнучы ланцуг па пыльнай глебе між сваіх хударлявых ног. А ў мяне нічога не было для яго, у партфелі толькі паперы.

*№9, сакавік 2015* *ISSN 2291-4757*

Я ступіў некалькі крокаў наперад. Нечакана перада мной з’явіўся дзіўны суб’ект, напэўна ён выскачыў з сарціру, пакуль я назіраў за сабакам, бо да гэтага нікога паблізу не было. Першым яго пытаннем пасля крытычнага візуальнага вывучэння маёй асобы было наступнае:

- Ты наш?
- А то!
- Як патрапіў?
- Танюха падкінула.
- А, ну тады дакладна наш!

Трэба крыху апісаць гэтага суб’екта. Хударлявы, жвавы, росту хутчэй высокага, гадоў сарака пяці, з доўгай шэяй, з вялікім кадыком, маленькай галавой на шырокіх плячах, людзей за такі целасклад часам называюць жылістымі. Апрануты ён быў у нейкую салдацкую робу пясочнага колеру.

Калі кароткі працэс ідэнтыфікацыі скончыўся ён заключыў мяне ў свае шырокія абдымкі і дыхнуў на мяне моцным перагарам, які я нават пасля ўчарашняга злоўжывання добра адчуваў.

- Братэла! Нас усё болей і болей, мы ім усім цяпер пакажам! Ты куды едзеш у Лондан ці можа ў Прагу?
- Ды не, я ў Берлін збіраюся, у мяне вось і дакументы ўсе сабраныя для гэтага…
- У Берлін? Дык ты спазніўся, у Берлін нашы ўчора паехалі, цяпер пэўна не хутка новы цягнік будзе, можа праз пару тыдняў, можа праз тры месяцы. Я вось учора аднаго нямецкага фрыца на цягнік без квітка ўладкаваў, праз знаёмую правадніцу, бо ён не ведаў, дзе і як яму яго набыць. Яна за гэта запатрабавала яго пінжак, у яе сына выпускны ў гэтым годзе, а я за свае паслугі зняў з яго вось гэтыя боты.

І, прыпадняўшы калашыны нагавіц, ён паказаў боты, якія ён апрануў на па-майстэрску завязаныя салдацкія анучы. Боты і праўда былі прыгожымі і стыльнымі, верагодна ручной работы.

- От жа, умее немчура… А навошта табе Берлін? Давай са мной у Лондан!
- А што сапраўды так доўга чакаць наступнага цягніка на Берлін? – мяне дзівіў такі расклад.
- Ну зразумела ж, пакуль усе нашы падцягнуцца, пакуль сітуацыя даспее, пакуль на версе ўсё вырашаць. Я вось на Лондан ужо амаль паўгода чакаю. Але кажуць, што ўжо вось-вось паедзем, хутка ўжо! Таму я і кажу давай на Лондан, - прапаноўваў ён.

- А ты ведаеш, як на самой справе гэтыя сэры-пэры сваю сталіцу называюць? – не сунімаўся ён з сваім Лонданам.
- Не.
- Ландан! Уяві сабе не Лондан, а Ландан! Сваю ж мову псуюць, макароннікі.

Я, застыўшы ў нерашучасці, задуменна глядзеў на яго боты. Але ён не даў мне доўга знаходзіцца ў такім стане, абняўшы мяне адной рукой за плечы, ён амаль сілком пацягнуў мяне ў бок перону, дзе стаялі некалькі пасажырскіх саставаў.

- Э, братэла, ды ты тут нічога пакуль не ведаеш! Пойдзем я табе ўсё пакажу і раскажу! А Лондан! Гэта ж маць гарадоў буржуйскіх, разумееш? Ты ведаеш, чаму майго нябожчыка бацьку Кромвелем сябры клікалі?
- Не, не ведаю.
- А таму, братэла, майго бацяню так празвалі, што была ў яго мара, - так ён распавядаў, цягнучы мяне па няроўнай пыльнай, камяністай глебе наперад, - ён марыў, што калі ўсё нарэшце пачнецца, ён вынырне з сваім узводам пасярод Лондана ў Тэмзе, зойдзе з хлопцамі ў іх парламент і паразганяе падсрачнікамі іхніх лордаў. Вось таму яго і называлі Кромвелем. Але не дачакаўся, зямля яму пухам.
- Спачуваю.
- Ды нічога, затое засталіся мы. Хутка мы ім усім пакажам!

Так мы набліжаліся да перону. Дайшоўшы да аднаго яго краю, мы прыпыніліся. Ішла пасадка на цягнік, які толькі што прыбыў.

- Вось, гэтыя сёння ў Прагу едуць. Хочаш у Прагу?
- Я там ужо быў.

Мы паціху сталі прабірацца скрозь натоўп пасажыраў трымаючыся супрацьлеглага краю платформы. Каля трэцяга і чацвёртага вагонаў натоўп быў асабліва шчыльны і вялікі. Нам зноў прыйшлося спыніцца і крыху пачакаць, каб людзей паменела і можна было прайсці. Пасажыры ціснулі адзін аднаго, напіралі, да таго ж падбягалі новыя, якія крыху спазняліся. Ва ўсіх былі вялікія сумкі, заплечнікі. У тых, што толькі падышлі акрамя сумак былі яшчэ і нейкія транспаранты, якія яны, падбягаючы да перону, хуценька скідвалі ў адну безладную кучу. Пасажыры, што садзіліся ў гэтыя вагоны накіроўваліся з боку хваста цягніка, мы ішлі з боку галавы. Раптам у паветры пачуўся моцны свіст і адразу за ім стрэл. Аказалася, што за апошнімі пасажырамі ішоў барадаты дзядзька з велізарнымі акулярамі на носе, у плашчы і гумавых ботах. У руцэ ён трымаў пугу даўжынёй метраў дзесяць, з такой у вёсках ганяюць статкі кароў. Са злосным выразам твару ён раз пораз уздымаў сваю страшэнную зброю, часам проста сцягаючы ў паветры, а часам падганяючы

непаваротлівых. Удары былі моцнымі, тыя небаракі, якім не пашчасціла пакаштаваць іх на сваіх карках, атрымоўвалі добрае паскарэнне. Вось нарэшце, здаецца, усе з іх ужо сабраліся вакол сваіх вагонаў. Але барадаты і не думаў спыняцца, наадварот удары пасыпаліся яшчэ часцей, толькі цяпер яны ўжо не страсалі паветра дарэмна, а заўсёды знаходзілі сваю ахвяру. Некаторых яны ажно валілі на калені, але падсцёбнутыя такім чынам хуценька зноў ускоквалі на ногі і працiскаліся ў сярэдзіну натоўпа, а наступныя ўдары атрымоўвалі тыя, хто знаходзіўся па краях. Мы пэўны час моўчкі назіралі за гэтай карцінай, потым я спытаў у свайго спадарожніка:

- А гэта таксама нашы?
- Ну так, - адказаў ён, крыху паморшчыўся, і дадаў, - гэта нешта накшталт македонскага каня. Там лічаць, што яны іхнія, а насам рэч гэта не зусім так.
- У якім сэнсе македонскага, Буцэфала?
- Якога такога Буцэфала? – не зразумеў цяпер ён, коратка паглядзеў на мяне і цярпліва патлумачыў, - Конь македонскі, гэта калі нашы, то бок македонцы, ваявалі з Рымам і доўга не маглі ўзяць горад. Потым яны зрабілі велізарнага каня з саломы і адправілі на нейкае свята рымлянам як падарунак. А ў тым кані сядзелі байцы, ноччу яны вылезлі і парэзалі ўсіх рымлян.
- А як жа гусі? – спытаў я, не адрываючыся, гледзячы на пасадку пасажыраў.
- Якія такія гусі? – ужо з нейкай нецярплівасцю, раздражнёна спытаў ён.
- Ну гусі, якія ўратавалі Рым. Калі ворагі ўлезлі ў Рым менавіта гусі, а не сабакі пачулі гэта, загагаталі, прачнулася варта і пабіла ворагаў.

Гэтае пытанне заставіла на хвіліну задумацца майго суразмоўцу, здавалася ён нешта прыпамінаў, але хутка ён знайшоў памылку ў гэтай задачы:

- Не, ну гусі таксама былі, але тое было раней, а македонскі конь пазней.

Пакуль мы вырашалі складанае гістарычнае пытанне пагрузка пасажыраў падышла да завяршэння. Барадаты дзядзька таксама падняўся па прыступках вагону, але далей не пайшоў, спыніўся на верхняй прыступцы. Павярнуўшыся тварам да перону, ён і застаўся так стаяць, чамусьці пагрозліва і пераможна пазіраючы на нас. Мы тым часам рушылі далей. Калі мы абышлі цягнік, мой цыбаты экскурсавод павёў мяне яшчэ праз некалькі перонаў і чыгуначных пуцей. І вось мы ўрэшце апынуліся на велізарнай адкрытай пляцоўцы, якая спрэс была застаўлена палаткамі.

- Вось, - урачыста сказаў мой правадыр, абводзячы рукой, разгарнуўшуюся перад намі панараму, - гэта наша заля чакання!

Палаткі былі паўсюль, розных колераў, ад бляклых да яркіх, новенькіх, задзірліва ззяючых. У некалькіх метрах ад нас каля адной з палатак напаўсядзелі, напаўляжалі людзі. Яны размясціліся шырокім колам каля вогнішча, над якім вісеў вялікі кацёл. Над ім завіхалася пажылая жанчына. Вакол вогнішча то тут, то там валяліся косткі.

- Пойдзем! – загадаў мне даўгалыгі, і не чакаючы мяне шырокімі крокамі накіраваўся да вогнішча.
- Што на абед, гаспадыня? – спытаў ён жанчыну.

Але адказу ён не атрымаў, ніякай рэакцыі наогул не было. Жанчына як і раней працягвала марудна мяшаць вялікім палоннікам у катле. Я паглядзеў на прысутных людзей, яны таксама засталіся ў тых жа самых паставах, не адрываючыся гледзячы на вогнішча. Я падумаў, што майго знаёмага тут добра ведаюць і ўвагі не звяртаюць.

- А, ялавічына, выдатна!

Даўгалыгі дастаў з кішэні відэльца з нязвыкла доўгай ручкай, нахіліўся да катла і, прыцэліўшыся быццам рыбак з гарпуном, ударыў і спрытна выцягнуў вялікую костку з мясам. У паветры разышоўся густы водар варанай ялавічыны.

- Братэла, трымай! – сказаў ён і працягнуў мне сваю здабычу.
- Не, дзякуй, мне проста пасля ўчарашняга нешта нічога ў рот не лезе…- апраўдваўся я.
- Ну глядзі сам, тут у нас пакуль не ўсё добра арганізавана, сёння ёсць абед, а заўтра глядзіш і не. Вось калі да іх даедзем, то там зажывем, у іх усё ё! Ну дык, што вырашыў, куды паедзеш? – спытаў ён размахваючы косткай з тым, каб яе астудзіць.
- Пакуль што нікуды.
- А што рабіць будзеш?
- Пайду ў наш райвыканкам, там мне тыя-сія дакументы павінны выдаць.
- А шкада, што не хочаш у Лондан. Але як ведаеш, братэла, нашым там усім прывітанне перадай.

Я паабяцаў, што так і зраблю, і мы развіталіся, ён, весела размахваючы косткай, пайшоў углыб палатачнага лагеру, а я амаль бегам кінуўся ў накірунку той дзіркі ў плоце, праз якую я сюды патрапіў. Справа ў тым, што мне зрабілася млосна. Пахмельнае самаадчуванне, невыносная спёка, рэзкі пах варанага мяса, - усё гэта цягнула на ваніты. Таму я спяшаўся вырвацца як мага хутчэй з гэтага дзіўнага месца.
“ Ну і трасца яго бяры той Берлін, абы хутчэй патрапіць дадому”, - думаў я, з насцярогай прыслухоўваючыся да незадаволеных гукаў страўніка. Але здарылася тое, чаго я не хацеў і баяўся. Калі я быў ужо зусім побач з плотам мяне пачало

ванітаваць. Рэзкі прыступ гэтай ганебнай хваробы прымусіў мяне сагнуцца, скласціся напалову. Я нават не паспеў нічога разгледзіць перад сваімі нагамі. Калі ж першая хваля прайшла, крыху выпрастаўшыся я ўбачыў, што званітаваў прама ў сабачыю міску. Сабака тым часам ужо вылазіў з сваёй будкі, шырока расставіўшы хударлявыя ногі, і цягнучы ланцуг між іх. Ён, прыціскаючы вушы, і лісліва пазіраючы на мяне, падышоў да сваёй міскі, панюхаў яе змесціва, падняў сваю пысу, паглядзеў на мяне, і вельмі прыязна, шырока замятаў хвастом, пасля пачаў хлябтаць з міскі. Я стаяў над ім яшчэ не поўнасцю выпрастаўшыся, думаючы над тым, што варта было б адпусціць гэтага сабаку, як мяне зноў прымусіла сагнуцца другая, на гэты раз кароткая хваля ванітаў. Сабака зрэагаваў на гэта, абачліва ўбраўшы ад міскі галаву, але адразу, калі мяне перастала ванітаваць, ужо не падымаючы галавы, і не трацячы час на падзяку, зноў пачаў есці. Калі я нарэшце распрастаўся, то адчуў сябе значна лепей. Кінуўшы позірк на сабаку, я вырашыў, што калі не я яго сюды прывязаў, то напэўна не мне яго і адвязваць. Пасля я рынуўся праз дзірку ў плоце і хутка пакрочыў прэч трымаючыся паралельна чыгуначным рэйкам за плотам, якія па маіх спадзяваннях павінны былі прывесці мяне на прывакзальную плошчу.

Я вельмі ўсцешыўся калі ўбачыў першыя прывакзальныя будынкі – дзе брудныя, дзе з нейкімі іржавымі плямамі, а дзе пабеленыя ў нейкі шэры колер – склады, прамысловыя сутарэнні. Іншым разам я б напэўна палічыў іх безгустоўнымі і занадта маркотнымі, але цяпер я быў у захапленні ад іх, яны мне здаваліся такімі ж прыгожымі і стройнымі быццам гатычныя храмы. Самаадчуванне маё значна палепшала, паветра стала дастаткова прахалодным і камфортным і мне захацелася есці.

Праз некаторы час я ўжо стаяў на прывакзальнай плошчы, на супрацьлеглым баку месцілася невялічкая танная кавярня, туды я і накіраваўся. Каля ўваходу я сутыкнуўся з адным сваім знаёмым імя якога я не памятаў. Бываюць такія знаёмыя, з якімі навучаешся ці то ў школе, ці то ва ўніверсітэце, альбо жывеш у адным раёне, з якімі некалькі разоў прыходзілася размаўляць, але імя іх альбо забылася, альбо і не было вядома. Адносіны з імі такія, што маючы зрэдку стасункі, спытаць імя ўсё ж такі неяк не выпадае, бо знаёмству вашаму не адзін год і трэба было б ужо даўно ведаць. Думаю ў кожнага чалавека ў жыцці назбіраецца колькі такіх знаёмых імёнаў, якія мы не памятаем.

Мы павіталіся. Ён стаяў крыху згорблена, каптур на галаве, які ён нацягнуў як мага глыбей, не мог схаваць яго няголенай фізіяноміі. Па ўсім было відаць, што стаіць тут ён досыць даўно і паспеў добра змерзнуць.

*№9, сакавік 2015 ISSN 2291-4757*

- Маеш што? – спытаў ён. Гэтае пытанне азначала: ці ёсць у мяне грошы на выпіўку.
- Ну пойдзем, што небудзь знойдзецца, - без асаблівага імпэту адказаў я.

Мы зайшлі ў кавярню. Я замовіў сабе каву і нешта з ежы, яму бутэльку таннага віна і таксама нешта з ежы.

- А сам што, захварэў? – спытаў ён, калі я адмовіўся ад віна.
- Ды не, проста мне зараз у райвыканкам па справах ісці, ды й ранавата яшчэ.
- Ну глядзі сам, - з гэтымі словамі мой знаёмы з задаволеным выглядам наліў сабе поўную шклянку.

Мы сядзелі, падсілкоўваліся, размаўлялі. Дапіўшы каву я адчуў, што прыйшоў у поўны парадак і гатоў быў ісці далей.

- Ну мне пара, - сказаў я і стаў збірацца сыходзіць.
- Дык, а куды ты там збіраўся? - спытаў мой знаёмы, наліваючы апошнюю шклянку віна.
- Ну я ж казаў ужо, у райвыканкам, па справах, - цярпліва патлумачыў я.
- Дык і я з табой, - сказаў ён, зрабіў выдах і адным махам спустошыў шклянку.

Я крыху здзівіўся такому жаданню, але пацiснуў плячыма і адказаў абыякава:

- Пойдзем, калі хочаш.

І мы пайшлі, яму мабыць таксама палепшыла і ўжо не мела значэння куды ісці.

Да райвыканкаму было хвілін пятнаццаць хады, размаўляючы ні аб чым, мы незаўважна пераадолелі гэтую адлегласць і апынуліся перад вялікім двухпавярховым будынкам нашага мясцовага дома ўрада. Перад ім месцілася плошча, на ўскрайку якой мы спыніліся. Спыніцца нас прымусіла незвычайная карціна. Большая частка плошчы была застаўлена машынамі, прычым машынамі прадстаўнічага класа. Звычайна ў будзённыя дні іх было меней і яны былі не такімі шыкоўнымі. А перад уваходам стаяла ахова, пашыхтаваная ў некалькі шарэнгаў.

- А, ну так, я і забыўся – сёння ж да нас галоўны завітаць павінен быў, – прыпомніў мой спадарожнік.
- Вось і завітаў, халера яго бяры, - скрозь зубы працэдзіў я.

Гэта падзея ўскладняла мае планы. Але я не прывык паварочваць назад, ці пытаць дазволу ў нашых бюракратаў на праход, нейкае дзеянне, бо гэтая манера паводзін з імі не прыносіла плёну. У сваіх стасунках з нашымі чынушамі я добра засвоіў, што

*№9, сакавік 2015 ISSN 2291-4757*

неабходна ісці куды трэба без усялякіх пытанняў – калі трэба спыняць і адправяць назад.

- Ну пайшлі, - сказаў я і, не чакаючы адказу, рушыў наперад. Мой знаёмы, імя якога я не памятаю, таксама пайшоў следам, адстаючы на паўметра.

У такім парадку мы падыходзілі да аховы. Яны здалёк заўважылі нас і глядзелі непрыязна і падазрона на нашае нахабнае набліжэнне, пагардліва мераючы нас позіркамі, вызначаючы наш фізічны патэнцыял. Калі мы наблізіліся амаль ушчыльную, адзін з іх выйшаў на крок уперад і выкінуў руку мне насустрач, у якую с ходу ўпёрся грудзьмі. Яго месца тым часам заняў ахоўнік з другой шарэнгі. Я думаў нас зараз пачнуць круціць і ламаць. Але здарылася нечаканае. Рука ахоўніка, які нас спыніў, завагалася і апусцілася, сам ён прыняў стойку сьмірна. Вочы яго зачаравана спыніліся на флікеры, што вісеў у мяне на паліто. Праз імгненне ён зрабіў крок у бок і, адрапартаваўшы, сказаў:

- Прабачце адразу не разгледзеў, - і звяртаючыся да сваіх, загадаў – а ну расступіся, дайце прайсці асобаўпаўнаважанаму.
- Гэты са мной, - сказаў я нізкім ціхім голасам, як любяць казаць начальнікі сваім падначаленым, прымушаючы прыслухоўвацца да сябе, і з гэтымі словамі азірнуўся на свайго спадарожніка, які выглядаў не надта прэзентабельна для дадзенай сітуацыі. Строй расступіўся і мы накіраваліся да ўваходу.

Калі мы былі ўжо ў фае, перад намі вырасла чарговая перашкода ў выглядзе мясцовага ахоўніка, які стаіць тут пастаянна нават і ў звычайныя дні. Гэты праўда аказаўся больш вастравокім, ён адразу ўгледзеў значок на лацкане майго паліто і таксама выцягнуўся па стойцы сьмірна.

- Як, служба?- спытаў я замест прывітання.
- Дзякуй, усё добра, без здарэнняў! – адказваў ён па вайсковаму гучна.
- Галоўны ўжо там? – зноў спытаў я, кіўком галавы паказваючы на верх.
- Так точна, там, усе ўжо там! – дакладваў ён.

Я прайшоў праз турнікет і збіраўся падымацца на другі паверх, але прыйшлося крыху затрымацца.

- А гэты…- вымавіў ахоўнік крытычна аглядаючы майго знаёмага, вагаючыся прапускаць яго ці не.
- Гэты са мной, практыкант, апрануты так спецыяльна, бо праводзіў вонкавае сачэнне, - адказваў я, спыніўшыся ў нецярплівай позе, і не паварочваючы галавы.

Турнікет піскнуў і той прайшоў.

- Што за хрэнь тут адбываецца? – спытаў ён, калі дагнаў мяне на лесвіцы.
- Навошта ішоў, калі баішся ідзі назад.
- Ды не баюся, наадварот, весела, - ціха адказаў ён.

Мы выйшлі на калідор другога паверха нашага райвыканкама. Перад намі стаяў натоўп людзей пераважна сталага ўзросту, усе яны былі прыбраныя ў добрыя гарнітуры і ціхенька перагаворваліся паміж сабой нечага чакаючы. Зразумела, тое былі чыноўнікі - нашыя мясцовыя і сталічныя, якія прыехалі з галоўным. Наперадзе ўсіх стаяў намеснік галоўнага і размаўляў з тым бюракратам, які павінен быў выдаць мне дазвол на падставе дакументаў, якія я збіраў амаль тры гады. У руках у яго быў партфель, у якім магчыма яны зараз і знаходзіліся. Але падыйсці да яго вось так, прама зараз, нeяк не выпадала, даволі шчыльна стаялі людзі ў натоўпе, ды і размаўляў ён з самім намеснікам. Я вырашыў крыху пачакаць і падабрацца да яго спакваля.

Тым часам дзверы на супрацьлеглым канцы калідора адчыніліся і ўвайшоў той, каго ўсе гэтыя людзі чакалі – галоўны. Яго паўколам атачалі велічэзныя ахоўнікі. З ім побач перабіраў нагамі, уцягваючы галаву ў плечы, кіраўнік нашага раёну. Падыйшоўшы да дэлегацыі чыноўнікаў галоўны сказаў:

- Ну што пойдзем паглядзім, што вы тут напрацавалі, як выконваеце мае загады.

У адказ пачуўся згодны гул галасоў. Дзверы з правага боку калідору расчыніліся і наш кіраўнік стаў запрашаць галоўнага ўвайсці. Ён увайшоў, следам за ім рушыў намеснік, ахова і ўсе астатнія прысутныя. Я між тым не марудзіў пры гэтым перасоўванні, абышоўшы некалькіх дэлегатаў гэтай сустрэчы, падабраўся крыху бліжэй да сваёй мэты – бюракрата з патрэбным партфелем, у якім магчыма былі мае дакументы. Мой знаёмы трымаўся побач. Калі мы ўвыйшлі ў пакой, я спыніўся ад нечаканасці. Аказваецца з калідору нашага райвыканкама мы патрапілі наўпрост на малочную ферму. Але на здзіўленне часу не было, пакуль у натоўпе былі яшчэ месцы, каб праціснуцца наперад, не прыцягваючы ўвагу, я зноў скараціў адлегласць да мэты.

Тым часам, галоўны распачаў паказальную экзекуцыю свайму намесніку. Пакуль мы заходзілі і размяшчаліся ў прасторы кароўніку, які блішчаў чысцінёй і навізной, галоўны з нейкім чалавекам, напэўна, з заатэхнікам гэтай фермы, хадзіў па праходзе між стойлаў і аглядаў спраўных кароў ды абсталяванне. Заатэхнік, адказваючы на пытанні, час ад часу ўздымаў рукі ў гору, а часам разводзіў імі ў паветры. Размовы з-

*№9, сакавік 2015 ISSN 2291-4757*

за значнай адлегласці і з-за гудзення вентыляцыйнай сістэмы мы не чулі, але было бачна, што ён на нешта наракае. На нейкім этапе гэтай размовы галоўны рэзка абярнуўся да свайго намесніка і, нервова жэстыкулюючы, стаў нешта яму выгаворваць. Верагодна гэта былі папрокі, магчыма нават пагроза адстаўкі. Бо намеснік апусціў галаву, зніякавеў, позірк яго застыў на капытах бліжэйшай каровы, якая, жуючы жвачку, з цікаўнасцю назірала за тым, што адбывалася наўкол. І толькі зрэдку, баязліва, ён набіраўся смеласці глянуць на свайго начальніка, каб адразу ж адвесці вочы на першапачатковае месца. Усім сваім выглядам ён быў падобны на сабаку, які цалкам усведамляе сваю сабачасць, але хоча здавацца гаспадару яшчэ большым сабакам, чым ён ёсць сабакам на самой справе. Але ў гэтым сваім хваравітым хаценні ён ужо зноў рабіўся падобным да чалавека. Бо толькі чалавечая істота можа апускацца ніжэй прызначаных прыродай і выхаваннем межаў. Працягваючы бэсціць сваіх падначаленых, галоўны накіраваўся да выхаду. За ім у тым жа парадку, што і раней пацягнуліся астатнія.

Дзякуючы гэтым перасоўванням, калі мы зноў апынуліся на калідоры, я знаходзіўся ўжо амаль у сярэдзіне дэлегацыі. Мой знаёмы трымаўся побач, толькі зараз паміж намі апынуўся невялікага росту чалавек з сонным выглядам і з невыразнымі рысамі твару. Мы рухаліся марудна, быццам пахавальная працэсія. Галоўны час ад часу спыняўся, каб выказаць заўвагі то свайму намесніку, то кіраўніку нашага раёну.

Падчас аднога такога запынення мой знаёмы выцягнуў цыгарэту і запаліў. Я падумаў, што нас зараз выкрыюць і выкінуць як шалудзівых катоў. Але здарылася прыемная нечаканасць. У падлозе ў некалькіх месцах адчыніліся сетачныя акенцы і маленькія вентылятары, мякка буркаючы, пачалі засмоктваць дым ад цыгарэты. Майго знаёмага гэта ўразіла і ён яшчэ з большай асалодай пачаў пускаць дым дазваляючы маленькім прыстасаванням рабіць сваю справу. Але вось бяда - попельніцы тут прадугледжана не было. І ён, як выхаваны чалавек, не стаў трусіць попел на падлогу, а стаў збіваць яго ў нагрудную кішэню пінжака чыноўніка, які стаяў паміж намі. Той зразумела прачнуўся. Ён стаў круціць галавой наўкол, паглядаючы то на свайго крыўдзіцеля, то на мяне. А мой знаёмы, як ні ў чым не бывала, працягваў збіваць попел у яго кішэню. Нарэшце той не вытрымаў:

- Што вы сабе дазваляеце. Вы з якой арганізацыі, таварышы, - нягучна пачаў ён пратэставаць.

Прыйшлося ўмешвацца.

- Ну вы ж ужо ўсё зразумелі - мы з той самай арганізацыі, - сказаў я і павярнуўся да яго такім чынам, каб быў добра відаць мой флікер.

Я ўзяў цыгарэту, якую перадаў мне мой знаёмы, зацягнуўся горкім дымам і аддаў цыгарэту назад. Чыноўнік уважліва паглядзеў на мой флікер, уздыхнуў і прамовіў:

- Прабачце, таварышы, адразу не сцяміў, - сказаў ён і зноў супакоіўся.
- Правільна, - пахваліў яго мой знаёмы, - у наш час трэба быць пільным і правяраць усіх і ўсё.

І з гэтымі словамі ён наўпрост апусціў недапалак у кішэню небаракі бюракрата і некалькі разоў па-сяброўску паляпаў яго па грудзях, верагодна, жадаючы такім чынам патушыць недапалак. Але здарылася адваротнае, гэтае паляпванне спрацавала як мяхі ў кузні, і цыгарэта не толькі працягнула гарэць сама, але падпаліла тканіну ў кішэні пінжака. Праз некалькі хвілін з кішэні, з-пад полаў, з рукавоў пінжака паваліў густы дым. Вентылятары ў падлозе пачалі працаваць на поўнаю магутнасць, зараўлі мацней, ледзь спраўляючыся з нагрузкай. Спачатку чыноўнік не падаваў выгляду, што здарылася нешта не тое, але калі не толькі дым, а ўжо маленькія агеньчыкі сталі прабівацца з-пад яго пінжака, ён на хвіліну спыніўся, пастаяў так моўчкі, сціснуўшы зубы, потым прысеў, потым лёг, паджаўшы калені да грудзей, і ўжо ў гэтай позе без усялякага шуму запалаў яркім полымем. Вентылятары пачалі засмоктваць языкі полымя разам з дымам і з пахам гары, паскараючы працэс гарэння. Мы з маім знаёмым застылі ў нерашучасці, аглядаючыся назад на небараку, але нас мякка, аднак даволі ўпэўнена, пачалі падштурхоўваць тыя, хто ішоў за намі, рух працягваўся. Мы не сталі супярэчыць гэтай плыні і падпарадкаваліся ёй. За спінамі тым часам пачулі шэпт, перагаворваліся двое:

- Прыгожая смерць, што не кажы.
- Так, у прамым сэнсе згарэў на працы.
- Не тое што Міхалыч.
- Не дай бог, што б як Міхалыч скончыць.
- А як скончыў Міхалыч? – абярнуўшыся да суразмоўцаў, спытаў я.
- Ды ён, ведаеце, прыйшоў з адпачынку, ну і нікога не папярэдзіў, ні сакратарку, ні супрацоўнікаў. Прыйшоў, значыцца, сеў у сваё крэсла, ды і памёр небарака, сэрца прыхапіла. А ўсе думалі, што ён яшчэ ў адпачынку і забыліся пра чалавека. Знайшлі толькі праз тры тыдні.
- Хавалі ў зачыненай труне, летам справа была, спёка стаяла.

Калі мы са знаёмым зноў апынуліся побач, ён пасля ўбачанага і пачутага вырашыў падзяліцца ўражаннем:

- Натоўп тупых, агідных сракалізаў, - падсумаваў ён.

*№9, сакавік 2015* *ISSN 2291-4757*

- А ты, значыць, у нас маральны аўтарытэт і прыклад, і ні перад кім не прыніжаешся, - пакпіў я.
- Мне ў гэтым няма патрэбы – я бухаю, - адказаў ён.

Нарэшце галоўны са сваім суправаджэннем падышлі да новых дзвярэй. Іх расчынілі і працэсія пачала павольна пранікаць у новаю прастору. З калідору гэтым разам мы патрапілі прама на жытняе поле. Яно было заліта сонечнымі промнямі і распасціралася на ўвесь далягляд. Буйныя каласы ўжо набралі неабходную моц і пачалі хіліцца да зямлі, паказваючы хлебаробам, што прыйшоў час жніва. На пляцоўцы ў пачатку поля, дзе знаходзілася наша дэлегацыя, жыта ўжо было зжата. Недалёка стаяў новенькі камбайн, абвіты чырвонай стужкай. Галоўны са світай падыйшлі да яго. Насустрач ім выйшаў камбайнер, які быў падазрона падобны да заатэхніка, якога мы сустрэлі на малочнай ферме. Пачалася звычайная рабочая размова пра перавагі і недахопы новай айчыннай тэхнікі.

Пры ўваходзе ад нечаканага кантрасту паміж калідорам з штучным асвятленнем і яркасцю сонечнага поля я ненадоўга разгубіўся і забыў было, што мне трэба падбірацца бліжэй да чалавека з партфелем. Але хутка справіўся са здзіўленнем і пачаў праціскацца далей праз натоўп чыноўнікаў, што не зводзілі вачэй з галоўнага. Прастора жытняга поля дазваляла размясціцца ўсім свабодна, без таўкатні, гэта палегчыла наша прасоўванне наперад. У хуткім часе мы ўжо стаялі ў першых шэрагах. Неабходны мне чалавек стаяў крыху збоку ад агульнай грамады. Нас з ім раздзяляла цяпер усяго толькі дзесяць-дванаццаць крокаў. Я нахабна ўтаропіўся ў яго. Ён жа, змяюка, рабіў выгляд, што мяне не заўважае. Тым часам, каля камбайна пачалася спрэчка. Камбайнер сцвярджаў, што жатка ў гэтым камбайне горшая за жатку аналагічных нямецкіх машын. З ім не пагадзіліся ні галоўны, ні яго падначаленыя. Галоўны казаў, што ён з маленства падпрацоўваў памочнікам камбайнера, што яму самому неаднаразова прыходзілася садзіцца за руль такіх машын, і што ён з першага погляду бачыць, што гэтая жатка лепшая за ўсе іншыя, маўляў, проста трэба лепей працаваць. Вырашана было неадкладна перарэзаць чырвоную стужку і праверыць, хто мае рацыю на практыцы. Што і было зроблена. Галоўнаму перадалі нажніцы і ён у трох месцах перарэзаў стужку. Атрымалася два невялікіх адрэзкі. Адзін з якіх намеснік галоўнага паспеў перахапіць, а іншы падхапіў вецер. Галоўны не звярнуў на гэта ніякай увагі. Яны з камбайнерам падняліся ў салон машыны, завялі рухавік і, працягваючы сваю спрэчку, махаючы ў кабіне рукамі, шалёна даказваючы нешта адзін аднаму, пачалі выпрабаванне.

Той адрэз стужкі, які застаўся ў руках намесніка, быў ганарова перакладзены ў нейкую прыгожую скрынку з шкляным вечкам. Але скрынак было дзве і другая

*№9, сакавік 2015 ISSN 2291-4757*

засталася пустой. Пачаўся перапалох і намеснік са світай пачалі шукаць згублены кавалак чырвонай стужкі. Які ўжо знаходзіўся ў мяне. Парыў ветру, калі выхапіў яе з рук галоўнага, падняў яе было высока ўверх, але потым суцішыўся і гэты чырвоны шматок пачаў павольна апускацца на нас. Мой знаёмы, спрытна падскочыўшы, першым ухітрыўся перахапіць яго і аддаць мне. Адзін канец стужкі я моцна сціснуў у далоні, а другі, склаўшы на грудзях рукі, выпусціў вонкі, каб было добра бачна, што ён знаходзіцца ў мяне. За ўсім гэтым краем вока ўважліва сачыў чыноўнік, да якога я спрабаваў падабрацца. Мой час надышоў.

Чыноўнік падышоў да намесніка галоўнага, які разам з аховаю на пляцоўцы, дзе раней стаяў камбайн, шукаў страчаную стужку. Ён стаў нешта шаптаць намесніку на вуха, паказваючы пальцам на мяне. Намеснік угледзеў мяне і рашуча накіраваўся ў мой бок, чыноўнік заняў сваё ранейшае месца.

- Аддай сюды, - сказаў намеснік і моцна тузануў за свабодны канец стужкі. Але я трымаў яе добра.
- Так проста не аддам.
- Ты што ёбнуты? – спытаў намеснік, не чакаючы такога адказу.
- Хай гэты ёлупень аддасць спачатку мне мае паперы і выдасць дазвол, - адказаў я і кіўнуў на чыноўніка з партфелем.

Намеснік азірнуўся на яго і пазваў:

- Гэй, ты, ідзі сюды.

Той падышоў.

- Аддай ты гэтаму дурню яго сраныя паперы, - загадаў яму намеснік.

Чыноўнік падпарадкаваўся і выцягнуў з партфеля знаёмую мне папку.

- А дазвол? – недаверліва спытаў я.

Чыноўнік моўчкі раскрыў папку і прадэманстраваў мне дазвол з усімі неабходнымі пячацямі і подпісамі. Мы абмяняліся. Пасля чыноўнік вярнуўся на сваё месца, а намеснік беражліва панёс чырвоную стужку, каб пакласці яе ў прыгожую скрынку з шкляным вечкам. Мне ўжо нічога не заставалася тут рабіць і я рушыў да выхаду. Мой знаёмы накіраваўся следам.

Выходзіць тым жа самым шляхам, якім мы сюды патрапілі не выпадала, бо мерапрыемства яшчэ не скончылася і ў аховы маглі ўзнікнуць дадатковыя непрыемныя пытанні да нас. Таму я накіраваўся ў адваротным накірунку. За

*№9, сакавік 2015 ISSN 2291-4757*

некалькі гадоў барацьбы з чыноўнікамі я выдатна ведаў усе ўваходы і выхады ў будынку райвыканкаму. Да аднаго, самага з іх, так бы мовіць, “чорнага”, якім амаль не карысталіся, можна было патрапіць прайшоўшы шэраг сутарэнняў, актавую залю і ўжо пасля выйсці на вуліцу. Нешматлікі службовыя асобы, якія трапляліся на нашым шляху, не звярталі на нас увагі. Візіт галоўнага надаў ім клопату і яны насіліся з рознымі паперкамі, не бачачы навакольнага свету.

Сталася так, што актавую залю нашага райвыканкама дабудоўвалі пасля ўзвядзення асноўнага корпусу. І так атрымалася, што архітэктарам не хапала дастаткова месца, каб зрабіць залю правільных формаў неабходнай плошчы, перашкаджалі прылеглыя пабудовы. Таму вырашана было зрабіць яе ў форме трохкутніка з усечанай вяршыняй. Атрымалася нешта падобнае да амфітэатру, сцэна была вузейшай за верхнія рады.  Калі мы патрапілі ўнутр, то аказалася, што ўся заля была запоўнена слухачамі лекцыі, у асноўным дзяўчынкамі падлеткамі. Ні адно месца не пуставала. На сцэне за сталом, напаўпаварота  да слухачоў, закінуўшы нага за нагу, сядзеў дакладчык, намеснік галоўнага па культуры і нешта распавядаў маладой аўдыторыі. Я амаль не запыняўся і хуткім крокам накіраваўся міма яго да выхаду. Прамоўца нават не адрэагаваў. А вось мой знаёмы чамусьці спыніўся каля стала намесніка па культуры. Той, відаць, прыняў нас за сваіх і стаў па-змоўніцку паглядаць на майго знаёмага, працягваючы сваю прамову. Ён звяртаўся да дзяўчынкі ў першым радзе:

- Таня, Таня, Таня, бачыш якой ты стала, лаўрэатка конкурсу, медалістка, - пералічваў яе заслугі намеснік.

Таня сядзела, па-вайсковаму расправіўшы плечы, і бессэнсоўна глядзела на яго. Яна была апранута ў шэрую сукенку і светлы фартух. Я прыгледзеўся да іншых і нечакана адкрыў для сябе, што і астатнія дзяўчынкі былі апранутыя таксама, як і Таня. І таксама як і яна бессэнсоўнымі позіркамі, якія не выказваюць ніякіх эмоцый, глядзелі на міністэрскую асобу.

- А памятаеш, як я цябе сустрэў у тваёй весцы і накіраваў вычыцца ў сталіцу? – працягваў намеснік, - Калі б не гэта, то ты б і зараз вучылася ў сваёй старой школцы і ніхто б пра цябе не ведаў. Таму ўсім раю браць прыклад з Тані  - быць паслухмянымі і працавітымі.

Пры гэтым ён працягваў па-змоўніцку паглядаць на майго знаёмага. Таму відаць гэтая камедыя падабалася і ён не збіраўся сыходзіць. Я паклікаў яго, каб упэўніцца ў гэтым. Мой знаёмы паглядзеў на мяне, потым з хітрасцю драпежніка зірнуў на міністра, сплюнуў пад ногі і пайшоў да выхаду, дзе стаяў я, адной рукой трымаючы адчыненыя дзверы. Мы выйшлі без перашкод. Тут не было такой шчыльнай аховы,

*№9, сакавік 2015 ISSN 2291-4757*

як перад галоўным уваходам, стаяла толькі некалькі асоб у цывільным, якія ўважліва праводзілі нас позіркамі, але не сказалі ні слова.

Змрочны кароткі зімовы дзень пераваліў за палову і пачаў падыходзіць да канца. Але настрой мой быў бадзёры. У мяне ў руце была папка з неабходнымі дакументамі і дазволам. Я паглядзеў на флікер, які ўпрыгожваў лацкан майго паліто. Я зняў яго і, спыніўшыся, стаў разглядаць. Як па мне, нічога гэткага ў ім не было, звычайны значок з светаадбівальным эфектам, і што яны ў ім бачылі?

- Вось трымай, можа спатрэбіцца, - прапанаваў я свайму знаёмаму.

Той узяў яго, пакруціў у руцэ і абыякава шпурнуў прэч. Значок адляцеў у бок, стукнуўся аб вугал тратуарнага бардзюру і канчаткова прапаў, патрапіўшы акурат паміж прутоў рашоткі дрэнажнага сцёку. Мы пайшлі далей. За будынкам райвыканкаму месціўся гарадскі парк. Пераадолеўшы яго, мы падыйшлі да раёну так званых “хрушчовак” – двухпавярховых дамоў, якія мелі дрэнную планіроўку знутры, і, нягледзячы на частыя рамонты, мелі заўсёды аблезлы выгляд звонку. Двухпавярховыя будынкі месцамі дапаўняліся доўгімі аднапавярховымі, на некалькі кватэр, дамамі, якія называлі баракамі. Не ведаю чаму, але я любіў гэтыя кварталы, пабудаваныя для рабочых камбіната будматэрыялаў, які даўно спыніў сваё існаванне. Тут была нейкая асаблівая атмасфера. Здавалася, што мясцовыя жыхары нікуды і ніколі не спяшаюцца, і добра ведаюць адзін аднога. Тут часам можна было пачуць гукі гармоніка альбо гітары і можна было не сумнявацца, што суседзі паадчыняюць вокны, каб паслухаць бясплатны і нікім не запланаваны канцэрт.

Мой далейшы шлях пралягаў між гэтых кварталаў. А мой знаёмы, імя якога я не памятаў, не супраць быў яшчэ выпіць і закусіць. І яму пашанцавала. Перад тым як я было вырашыў, што прыйшоў час развітвацца, нам насустрач з-за бліжэйшага бараку выйшла пара. І я, і мой знаёмы ведалі іх абодвух. Мужчынам аказаўся шараговы міліцыянер, які нядаўна здаў сваё дзяжурства і пераапрануўся ў цывільнае. Жанчыну я таксама ведаў даўно, мы вучыліся ў адной школе, яна была гады на два маладзейшая за мяне. Сёння яна відавочна выступала ў ролі палюбоўніцы свайго спадарожніка. Мы павіталіся з міліцыянерам, яго звалі Ягор. Жанчына засталася стаяць крыху наводдаль. Мае стасункі з гэтым Ягорам мелі цікавую гісторыю. Мы ведалі адзін аднаго з юнацтва, калі яшчэ хадзілі на дыскатэкі, упершыню спрабавалі алкаголь, і біліся за будынкам Дома Культуры за дзяўчат, ці за якую іншую прычыну, якая, як нам тады здавалася, была вартая таго, каб за яе біцца. Потым жыццё развяло нас па розных занятках і розных асяроддзях. Але пры кожнай сустрэчы ён заўсёды, калі мы былі адзін на адзін, заводзіў гаворку на палітычныя тэмы, якія і мне былі цікавымі. Ён быў вялікі песіміст гэты Ягор. Пасля працяглай і

*№9, сакавік 2015 ISSN 2291-4757*

грунтоўнай крытыкі, якою ён накіроўваў і на сваё ведамства і на ўвесь дзяржаўны апарат, ён як правіла сканчваў тым, што, маўляў, цяпер усё будзе толькі лепей, бо горш ужо няма куды. Але паколькі зараз мы былі не адны, то на такія тэмы мы размаўляць не сталі. Ён пацікавіўся куды мы накіроўваемся. Мой знаёмы сказаў, што асабіста ў яго шмат часу і пры гэтым шматзначна пачасаў шыю.

- Дык, давайце, далучайцеся да нас, я вось заробак атрымаў, да таго ж жонка выгнала з хаты - падстаў колькі заўгодна. Ды і Светка не дасць засумаваць - весела сказаў ён, падміргнуўшы сваёй палюбоўніцы, і дэманстратыўна ўзняў пакет, які трымаў руцэ. У пакеце паўзверх разнастайнай закускі ляжалі чатыры ці нават пяць пляшак таннага пладова-ягаднага віна.
- Не, я пас, не пайду, ёсць яшчэ справы на сёння, гуляйце без мяне, - адазваўся я, шукаючы па кішэнях пачак цыгарэт.
- Цыгарэты шукаеш, вось вазьмі мае, - з гэтымі словамі Ягор працягнуў мне толькі, што распачаты пачак.
- Ды не, дзякуй, павінны ж недзе быць свае, не мог жа я іх згубіць, - адказаў я.

Нарэшце я іх знайшоў і прыкурыў ад запальніцы, якую мне шчодра працягнуў наш агульны знаёмы. Запалілі і яны, і мы няспешна пайшлі па дарозе размаўляючы аб тым аб сім, яны да пад’езду бліжэйшай “хрушчоўкі”, а я да дому. Светка ішла на некалькі крокаў наперадзе нас манерна рухаючыся, быццам на подыуме. Калі мы амаль падыйшлі да пад’езду міліцыянер Ягор зноў прапанаваў далучыцца да іх кампаніі, але я зноў адмовіўся. Светка ж, эфектна павярнуўшыся да нас на мысочках, застыла ў даволі выклікаючай сексуальнай позе, і, звяртаючыся да мяне, спытала:

- А што, хлопчык, ты не жадаеш курвачкі?

Я пра сябе адзначыў, што гэта прагучала даволі замілавана. Да гэтай сітуацыі пасавала значна больш грубае і цынічнае за “курвачку” слова з ненарматыўнай лексікі. Але жанчыны, заўсёды жанчыны, таму нават у сваім падзенні да канца застаюцца жанчынамі, гуляючы ў хованкі з рэчаіснасцю.

Ці хацеў я яе? Як яе можна было не хацець. Ёй каля трыццаці год, распушчаны лад жыцця, які яна вяла апошнія некалькі год, яшчэ не паспеў адбіцца на яе знешнасці. Яе доўгія крыху ўскалмачаныя валасы льнянога колеру апускаліся амаль да паясніцы. У яе была выдатная фігура, апранута яна была ў кароткую карычневую куртку, настолькі кароткую, што была бачна аголеная палоска скуры на спіне, яе стройныя ногі ўпрыгожвалі чорныя скураныя брыджы і такога ж колеру боты на высокіх абцасах. Брыджы сядзелі так шчыльна, што паўзверх іх рамяня яе скура, празмерна сціснутая, крыху выступала, здавалася, што гэта гарачая плоць вось-вось

*№9, сакавік 2015 ISSN 2291-4757*

парве путы свайго стрымліваючага адзення і вырвецца на волю. Яна не была падобна да анёла, яна випраменьвала сэксуальнасць. Такія жанчыны распальваюць у затуманенай мужчынскай свядомасці шалёную жарсць, і ўсё самае злое.

Як я ўжо казаў, я ведаў яе яшчэ з школьных часоў, аднойчы я нават абараніў яе ад хулігана са старэйшага за мяне класа. Мы жылі ў адным двары, яе дом стаяў насупраць майго, а пад’езды выходзілі на агульную пляцоўку. Яна была з тых, каго называюць раннімі птушкамі. Хутка знайшла хлопца, хутка выйшла замуж першы раз, а потым і другі. Мне пра яе расказвалі некаторыя знаёмыя. Ці хацеў я яе? Так, хацеў. Тым не менш, хоць я і не быў прыкладам для пераймання, але мяне ніколі не цягнула да ўдзелу ў п’яных оргіях на сумнеўных кватэрах з нязменна абшарпанымі шпалерамі.

- Дзякуй, прыгажуня, але я як-небудзь другім часам далучуся, - адказаў я на яе нестандартнае запрашэнне.
- А не будзе ўжо ніколі ніякага другога разу, - сказала яна ці то расчаравана, ці то раззлавана, і павярнуўшыся, увайшла ў дзверы бараку.
- Відаць, не наканавана, - адказаў я шматзначна.

Я развітаўся з хлопцамі і накіраваўся да дому. Да якога мне заставалася хвілін дзесяць хады. Я пару год таму змяніў кватэру, перабраўшыся са звычайнага блочнага пяціпавярховага дому ў двухпавярховы аднапад’ездны дом на чатыры кватэры. Некаму падалося, што размен не быў раўназначным і я пралічыўся, бо плошча новай кватэры супадала з плошчай старой, а планіроўка была нават горшай. Але, што гэта быў за дом! Гэты дом быў пабудаваны напрыканцы дзевятнаццатага стагоддзя мясцовым панам-мецэнатам. Вакол дома гаспадар разбіў шыкоўны парк. Сам будынак размяшчаўся на ўзвышшы, а парк быў вакол яго і спускаўся да самага нізу, дзе працякала невялікая рачулка, праз якую было перакінута некалькі маляўнічых масткоў. Усё гэта: і парк, і дом, і масткі, як яны выглядалі ў тыя часы, можна было пабачыць у краязнаўчым музеі, на тагачасных карцінах невядомага мастака. Пасля рэвалюцыі будынак зразумела ж экспрапрыіравалі. Чаго толькі ў ім не размяшчалі пры саветах: дзіцячы дом, турму часовага ўтрымання, бібліятэку, мастацкую школу, але ў рэшце рэшт перавялі ў жыллёвы фонд горада. Пасля шматлікіх “рэстаўрацый” ад былой прыгажосці мала што засталося, але засталіся калоны, якія трымаюць дах над шырокім ганкам, высокая столь і высокія вокны. Частку парку выразалі, а частка, што размяшчалася ніжэй дома, бліжэй да рэчкі, прыйшла ў занядбанне, зарасла хмызняком. Вось на аднаўленне гэтай часткі парку я і выбіваў дазвол у нашых мясцовых бюракратаў.

Раней гэты дом стаяў каля цэнтральнай дарогі. Але пасля вайны дарогу перанеслі і каля яе пабудавалі Дом Культуры, які цалкам загарадзіў від на былы панскі дом. Я вельмі любіў вяртацца дадому восенню, па суботах у другой палове дня. Менавіта ў гэты час з расчыненых вокнаў на другім паверсе ляцела прыемная мелодыя скрыпкі, якую, як я нядаўна даведаўся ад дворніка, выконвала дачка дырэктара дома культуры, адпрацоўваючы сваё майстэрства перад нейкім конкурсам. Дык вось, з другога паверху ляцела цудоўная музыка, пад нагамі шамацела і мітусілася восеньскае лісце і я бачыў перад сваім унутраным позіркам, у выразных мроях, адноўлены парк, адноўлены панскі дом, які некалі быў невялікім палацам.

Я вяртаўся да дому, праўда была ўжо не восень, і сёння быў панядзелак, а не субота, але я адчуваў сябе амаль шчаслівым. Да таго ж па дарозе яна, тая што пакінула мяне ў кавярні, даслала паведамленне. Яна напісала, што прыйдзе да мяне сёння пасля сямі і што калі я мужчына, то паеду з ёй на вяселле яе стрыечнай сястры. Я ўзрадаваўся і пачаў планаваць, што прыгатаваць на вячэру. Добра, што ў мяне даўно мелася бутэлька добрага віна, яе любімага, спецыяльна прыхаваная для такіх прымірэнчых выпадкаў. Здавалася жыццё наладжваецца.

Я зайшоў у пад’езд і стаў падымацца па прыступках на другі паверх да сваёй кватэры. У пад’ездзе на здзіўленне не было святла. Я падышоў да сваіх дзвярэй, дастаў ключы і стаў навобмацак шукаць замочную адтуліну. І тут здарылася нечаканае. Мне ззаду ўдарылі па нагах, павалілі на падлогу і сталі выкручваць рукі. Я пачаў шалёна супраціўляцца і вырывацца. Мне заехалі па вуху, я камусьці даў каленам, напэўна па галаве, а камусьці сам урэзаўся галавой у нешта мяккае, напэўна ў сонечнае спляценне. Пасля гэтага я адчуў палёгку і рвануў па прыступках уніз прэч з пад’езда, але на пляцоўцы першага паверху нехта сустрэў мяне добрым хукам з цемры. Я паваліўся і на імгненне страціў прытомнасць, а калі ачуняў, то знайшоў сябе вісячым на руках двух бамбізаў з кайданкамі на вывернутых за спіну запясцях. Святло ўжо гарэла. Перада мной стаяў высокі, жылісты, хударлявы чалавек у чорнай форме, у такой жа самай як і двое бамбізаў, што трымалі мяне пад рукі, толькі на пагонах у яго былі капітанскія зоркі.

- Вы хто такія, што вам ад мяне трэба? - спытаў я, сплёўваючы кроў з разбітых вуснаў.
- Ён яшчэ пытаецца, хто мы такія! Калегі твае. Ты што думаў, што можаш беспакарана са спецфлікерам па гораду гойсаць, дзваленні ўсялякія выбіваць? - адказаў мне чалавек з капітанскімі пагонамі.
- А гэта…- вымавіў я, - нешта вы спазніліся, дрэнна працуеце. А гэтым дваім, дык увогуле толькі з бабамі абнімацца, не маглі аднаго скруціць. Я б іх звольніў.

- Як мы працуем табе яшчэ прыйдзецца даведацца, - прашыпеў капітан, паціраючы выцятыя аб мой твар косткі на кулаку.
- Ну дык, што сталі, вядзіце, - як мага больш злосна гаркнуў я на сваіх канваіраў, бо лепшага нічога прыдумаць не змог, каб хоць неяк дапячы сваіх катаў.

Яны запытальна паглядзелі на свайго начальніка.

- Ну вядзіце ўжо, - загадаў ён і зрабіў крок назад, каб даць нам прайсці.

Мяне рванулі з месца і павалаклі прэч з пад’езда. Канваіры затаілі на мяне крыўду і неўзабаве адыграліся.

- Ты глядзі, Дзімон, чалавек сам у турму просіцца, - сказаў першы, калі мы выйшлі, яны цягнулі мяне далей да іх машыны – аўтазака.
- Ну, і то праўда, які свядомы, - адказаў другі
- Дык трэба ж дапамагчы чалавеку.
- Дык заўсёды, калі ласка, мы ж толькі гэтым і займаемся штодня.

Першы адпусціў мяне, пакінуўшы маю транспарціроўку на таварыша, а сам выбег на некалькі крокаў наперад і ўзяўся за ручку дзверцаў аўтазака, але не адчыніў, а пачакаў. Другі, тым часам, трымаючы мяне адной рукой пад паху, а другой штурхаючы ў плечы, пачаў паскарацца. Да машыны мы падышлі вялікімі хуткімі крокамі, амаль бягом, першы канвойны адчыніў дзверцы, але не насцеж, а пад прамым вуглом, другі з ходу накіраваў мяне на іх тварам. Я гвазданууся аб дзверцы носам і ўпаў.

- Гэй, вы, толькі не калечыць, - пачууся голас капітана аднекуль з-за спіны.
- Ай-я-яй, ну, што ж вы, шаноўны, так у турму спяшаецеся, не шкадуючы сябе самога, - паспачуваў мне канваір, які адчыняў дзверы аўтазаку, падымаючы мяня з зямлі.

Потым яны ўдвух, добра ўхапіўшыся, шыбанулі мяне ў будку аўтазака так, што я апынуўся каля супрацьлеглай сценкі, бліжэй да кабіны. Яны залезлі следам, і амаль адразу аўтазак крануўся з месца. Я ляжаў на баку з майго носа цякла кроў прама на падлогу.

Першае, што я зрабіў у сваіх думках гэта абазваў сябе ідыётам. За тое што расслабіўся і стаў пачуваць сябе амаль шчаслівым – недаравальная раскоша ў наш час у той дзяржаве, дзе прыходзіцца існаваць. Потым падумаў пра яе, пра тое, як яна прыйдзе да мяне, у маю кватэру, і не застане там мяне, як будзе чакаць да ночы, і ў галаву ёй будуць прыходзіць розныя варыянты маёй адсутнасці адзін другога горш.

Канваір, якога я пазначыў нумарам два, седзячы на лаўцы каля бакавой сцяны аўтазаку, выцягнуў ногі і паклаў іх на мяне. Я не стаў змагацца з іх чарговай подласцю, у мяне ўсё круцілася ў галаве і крыху было млосна, напэўна я атрымаў страсенне мозгу, асноўная барацьба з імі ў мяне была наперадзе. Ён сядзеў і вясёла расказваў свайму калегу пра тое, як ён з сваім сынам на выходных аб’ездзіў увесь горад, каб выбраць падарунак сваёй жонцы. Першы канваір слухаў яго моўчкі, утаропіўшыся кудысьці ўбок, яго весялосць, якую ён выявіў па дарозе да аўтазаку кудысці знікла.

Аднак, нягледзячы на ўсё што адбывалася, я не быў а ні здзіўлены, а ні напалоханы. Бо ведаў, што гэта некалі павінна было здарыцца і быў заўсёды да гэтага падрыхтаваны. Там дзе кіруе не закон, а воля асобных людзей, ніхто не абаронены ад самавольства і гвалту. І калі твае інтэлектуальныя, духоўныя інтарэсы не абмяжоўваюцца фізіялагічнымі паступленнямі і выдзяленнямі твайго цела, то рана ці позна ты патрапіш у поля зроку нашых доблесных органаў. І кожны дзень пакуль ты застаешся на волі трэба памятаць, што проста пакуль у іх не дайшлі да цябе рукі. Нам кажуць, што нашы незмяняльныя і незаменныя кіраўнікі вынайшлі для нас нейкі асобны шлях развіцця не падобны да іншых, трэцці шлях. Але я заўсёды выдатна разумеў, што гэтая рыторыка патрэбна дзеля таго, каб прыхаваць іх неўтаймаваную вычварэнскую жарсць да ўлады. Бо насамрэч, ёсць толькі дзве формы праўлення – ідэальная дыктатура і ідэальная дэмакратыя. І ўсе рэальна існаваўшыя і існуючыя дзяржавы ёсць пункты на ўяўнай шкале паміж імі. І ўлада, якая за прыклад узяла ідэальную дыктатуру заўсёды будзе імкнуцца ў накірунку адваротным дэмакратыі, столькі, сколькі ёй будуць дазваляць абставіны. І раней ці пазней кожны чалавек зазнае на сабе ў большай або меншай ступені ўціск, пераслед пры такой сістэме.

Я ніколі не лез на ражон і не імкнуўся ні ў героі, ні ў мучанікі. Але я выдатна бачыў куды коціцца наша грамадства і не чакаў добрых навін. Я не ведаў, што дакладна трэба рабіць, каб выправіць сітуацыю. Ніхто дакладна не ведаў. Для нас улада зрабіла ўсё, каб пасеяць паняверку ў нашых здольнасцях і магчымасцях, каб насадзіць беспрасветную апатыю. Такое грамадства можна смела назваць грамадствам немагчымасці - дзе рухі наперад да лепшага асабістага жыцця, да пабудовы кар’еры ў асноўным звязаныя з гатоўнасцю парушаць закон і чалавечыя нормы, дзе заўсёды трэба быць падрыхтаваным дагадзіць вышэйшаму кіраўніцтву і прынізіць падначаленых. І стаяць пад крамай ці таннай кавярняй і піць таннае віно, нярэдка з’яўляецца нават больш пачэсным баўленнем часу, чым выконванне якіх-небудзь неадэкватных загадаў начальства.  Але як бы там не было, а і тым хто дасягнуў пэўных уладных вяршынь не салодка – кожны дзень яны жывуць у

*№9, сакавік 2015 ISSN 2291-4757*

прадчуванні, што вось-вось нехта больш моцны прыйдзе ў дрэнным настроі і выкіне іх на вуліцу з воўчым білетам. Гэта замкнёнае кола. І таму ў нас шмат п’юць, п’юць рабочыя і сяляне, п’юць інтэлегенты, п’е начальства. Я ж рабіў сваё, у чым цяміў, на што быў здольны і чакаў горшага.

Такія думкі круціліся ў маёй галаве пакуль мяне везлі. Раптам аўтазак падскочыў на нейкай калдобіне, нас штурханула і я адчуў што мне становіцца горш, перад вычыма паплылі шэрыя плямы, думкі пачалі блытацца. І апошняя, што паспеў выціснуць з сваёй свядомасці, якая хутка цьмянела, была ўжо не думка, а хутчэй трызненне: “Чаму ты не адпусціў таго сабаку?...Калі выкараскаюся з гэтага, абавязкова адпушчу таго сабаку…”

**Aljaxandar Zgerski: MAGIC FLICKER**

*(Abstract, magazine “CULTURE, NATION”, March 2015, issue 9, pp. 44-74)*

Narrative “Magic flicker” is written in Belarusian in the pamphlet genre. It is about surrealism and reality in today's Belarus.

*№9, сакавік 2015* *ISSN 2291-4757*

*Літаратура*

**Галина Тумилович:** *Очерк-эссэ* **ОТТАВСКАЯ РАПСОДИЯ (или жизнь на границе)**

ПРОЛОГ

Почему вдруг Оттава, Онтарио, Канада, наконец? Да потому хотя бы, что я здесь живу. Если вы – сноб, и вам почему-то плохо, то Канада – лучшее место для изгнания, потому что здесь можно обрести покой, не теряя удобств. Это словно сюда призывал меня Гару, - канадский, точнее, квебекский Квазимодо из очень популярного в свое время в известном мне мире мюзикла «Нотр-Дам». «Exil! Exil!»,- настойчиво-призывно пел Гару, и вот я здесь.

Здесь много природы, я бы сказала, здесь все – природа, и она поражает своим разнообразием. Хочешь Карельский ландшафт с ледниковыми озерами, - пожалуйста, хочешь белорусские леса или болота, осушенные давно и там, и здесь, - пожалуйста, если же тебе по душе Крым с магнолиями и цикадами, - вновь пожалуйста. С Крымом, правда, надо быть осторожным (но кто же теперь этого не знает?), потому как если повеет вдруг арктический ветер прямо от полюса, так долетит быстро до самого юга страны - до Монреаля, Оттавы и Торонто. Не за что зацепиться ветру на этом пути. Если же вы любитель среднерусской полосы, то вам, наверное, тоже есть что открыть ностальгическое на восточном побережье Канады. Но это - на мой, не совсем сведущий взгляд, поскольку мои познания самой что ни на есть России, моя «глубинка» ее ограничиваются Шапками, что – извините – между Петербургом и Москвой, где была, да впрочем и осталась дача моих любимых тетушек, - петербуржских.

Удобств для жизни здесь, на атлантическом берегу Канады, тому что ближе к родине, нельзя преуменьшать. Думаю, что на противоположном, западном побережье с Ванкувером, канарейками и китайцами, давно обосновавшимися там, удобств не меньше, но я просто не могу их знать наверняка. Так вот, здесь, на востоке их много и на разный вкус, включая повсеместный и вездесущий high-tech, полит- и всякую другую корректность (что особенно важно если вы – гей или представитель малой народности, - тамилов, например), близость Нью-Йорка и

*№9, сакавік 2015 ISSN 2291-4757*

Штатов вообще – для любителей и почитателей этой страны, организованную легкость бытия, выбор кухни и способа питания.

Если абстрагироваться от любителей и пожирателей фастфуда и следовать за людьми с понятием, то у вас, действительно, широкий выбор продуктов от чилийского каменного (или синеротого) морского окуня (sea bass, eng./ bar или loup de mer, fr.) и аляскинской нерки (sockeye salmon, eng./ saumon rouge, fr. ), сестры кеты и горбуши, у которой - в отличие от последних мякоть красного, а не розового цвета, и до ежедневно поставляемых самолетом с Атлантики морепродуктов, - омаров – лангустов и просто каких-нибудь мелких гребешков. Подобное разнообразие и обилие касается не только «моредобычи», но и других продуктов – от сыров франко-итальяно-разных и до ставшей уже хрестоматийным примером – в свете последнего обострения мировой политической напряженности – «фуагра/фуа-гра» (foie gras, fr) , иными словами – гусиной, прежде всего, и утиной, - для меньших гурманов, - печенки. Надо сказать, что квебекцы сами тоже производят ее, нужно просто знать, у кого и чью покупать. Я сама узнала о местной «фуАгре» чуть ли не случайно, от одной русской пары – из эмиграции 90-х, - и не сразу даже поняла, о чем речь они ведут: то ли «виАгра», то ли «фуАгра»? Когда же до меня дошло, то исправлять ударение не стала: зачем русским из 90-х мой словесный стеб о печенке?

Но коль уж речь о Квебеке да о русских, то нельзя – просто невозможно не упомянуть здесь poutine… - так и тянет написать с большой буквы. - Нет, никто не ошибся, именно так пишется по-французски название блюда, в основе которого жареная картошка и кусочки сыра, местного чеддера, залитые теплым коричневым соусом. Стоит ли добавлять, что именно так же по-французски пишется и произносится (с ударением на последнем слоге) фамилия нынешнего российского президента: ПутИн. И самое главное, что «оба» - в тренде!

Правда, что касается блюда, то его никак гурманским не назовешь, оно очень демократичное и рассчитано на восстановление огромного количества калорий, потерянных лесорубами в их нелегком когда-то труде. Это - если подойти исторически, теперь же первоначальная задача устарела, и его местные любят просто так, по-старинке, как белорусы к примеру, любят драники, а евреи – из той же Беларуси или Украины, шейку.

Однако ничего этого я не знала, особенно относительно удобств и кухни, когда прилетела сюда впервые восемь лет назад. Прилетела, конечно, в Монреаль, и, конечно, из Парижа: иначе и быть не могло. Со своей Европой я прощалась в

Париже. Если точнее, то тогда я проделала путь Минск-Варшава-Париж. Помните «ось Рим-Берлин-Токио»? Так вот, моя ось - поменьше и совсем не военно-политическая, и отражает она в целом гео-биографию всей моей взрослой жизни, в которой были и свои небольшие, но этапные отклонения на Петербург с Пушкиным и на Брюссель... с Корсикой.

В Монреале я пересела сразу же в предписанный билетом автобус на Оттаву и через пару часов была уже здесь, в столице неизвестной мне страны. Поскольку было поздно и совсем темно, то в первый вечер я так ничего и не увидела. Когда автобус остановился и было объявлено: «Конечная остановка - автовокзал», - мне страшно не хотелось выходить, – какая-то придорожная станция, темная, безлюдная, забытая. Лишь только когда я увидела девочку с плакатиком в руках: «Галя, добро пожаловать!», то поняла, что это за мной, что это и есть Оттава-федеральная столица и быстро-быстро засобиралась к выходу.

Впрочем, о впечатлениях чуть позже, и даже о первых и самых сильных тоже не здесь, хоть они и являюся очень важными в общей канве моего повествования. Сразу хотелось бы ввести неискушенного канадской тематикой читателя в сам сюжет, ведь это вам - не Париж, Лондон или Нью-Йорк, как и не Вена, Рим или другие, меньшего масштаба, но не меньшей популярности города и места, тысячекратно описанные, посещенные, изведанные и навек вошедшие в русские сердца.

Бесспорно, я тоже люблю – в разной степени и разной любовью - вышеназванные города, как бы ни был известен их репертуар, они не могут надоесть или вдруг выпасть из разряда «топ». Тем не менее, осознавая все это, я осмеливаюсь предложить свои записки о Канаде и Оттаве. И, если совсем серьезно, то вовсе не потому что я здесь живу, что просто позволяет мне кое-что знать, а главное понять, что происходит и чем живет эта вторая по размерам – после России – и малонаселенная страна. Нет. Я здесь – не самоцель, - и кто я такая, наконец? Не подросток же из твиттера, осознающий свою важность и спешащий поделиться с миром, какой маффин он только что съел. Даже страна здесь тоже не самоцель. Мне интересны главным образом люди, их нравы и истории, их взаимодействия, определяющие все – без исключения – составляющие жизни. И начать хотелось бы со своих.

В нашей коллективной памяти при упоминании словосочетания «русская эмиграция» возникают, как правило, определенные образы-клише, отражающие прежде всего ее основные типы и периоды. Среди последних, если сделать беглый

обзор, выделяются послереволюционная, в частности «белая эмиграция», эмиграция «неприятия советской власти», с которой смыкается пласт дворянской эмиграции в широком смысле этого слова, т.е. включая представителей царского дома, аристократических семей и высоких сановников Российской империи. Печально-трогательная и высокочтимая часть общей картины. Вторая волна связана уже с послевоенной, - часто - но не всегда коллаборационистской эмиграцией. Картина тоже грустая, драматизм которой заключается в том, что - в отличие от первой, - она, по известным причинам, - редко находит сочувстие или понимание. Крайне редко, сказала бы я. Известна отдельно еврейская эмиграция из Российской империи и СССР. Правда, это зависит от подхода, и кто-то не выделяет ее отдельно. Я из тех, кто выделяет. Но здесь есть свои знатоки и толкователи, к тому же отсюда, из Северной Америки, она представляется если и не наиболее изученной, то уж во всяком случае наиболее известной. Есть, наконец, «голодная» эмиграция начала 20 века и, примерно через столетие, экономическая постперестроечная («колбасная») и разная другая эмиграция современности.

У каждой из этих эмиграций, в свою очередь, свои символы и образы. Так, эмиграция высокосветская и дворянская в целом, - с Феликсом Юсуповым и Матильдой Кшесинской как символами последней эпохи, - ассоциируется у русского человека прежде всего с Францией, где «паролем» являются : Сент-Женевьев-де-Буа - Париж- Биарриц – Ницца. Эта часть эмиграции, пожалуй, наиболее полно описана и, прежде всего, описана самими ее представителями, среди которых было много писателей и поэтов, судьбой которым было уготовлено изгнание. И хоть не о них здесь речь, не удержусь и скажу, что «мои любимые эмигранты об эмиграции» - Нина Николаевна Берберова и Гайто Газданов.

Канадская диаспора представителей той эмиграции еще ждет своего описания. Однако общие штрихи вполне обозначимы, для меня, во всяком случае. Прежде всего, приехали они сюда в основном позже, и их появление связано больше с последующими этапами эмиграции; количественно их, конечно, гораздо меньше, но зато какие имена! Так, в маленьком онтарийском Броквилле живет невестка великой княгини Ольги (Александровны), родной сестры Николая II - Ольга Николаевна Куликовская-Романова. Относительно других звучных имен, назову лишь тех, о ком знаю наверняка: Оболенские, Елецкие ( и первые, и вторые – Рюриковичи разного колена), и три фамилии «инородцев» - Радзивиллы, Сапеги и Чавчавадзе, которые не в меньшей степени, но по-другому представляют собой историю Российской империи.

*№9, сакавік 2015 ISSN 2291-4757*

У каждого из нас свои предпочтения и неприятия, возможно, даже свои счеты в отношении того или иного дворянского рода, дворянства Российской империи в целом, монархии и революции, либералов и демократов, всей русской истории, наконец. Но оставим это для конференций или просто дискуссий на «Пикниках на Оттавской обочине» (русскоязычный сайт – Г.Т.). Отмечу лишь, что из всей вышеназванной компании мне по душе больше всего Сапеги. Конечно, потому что этнически это – белорусский род, как и потому что Лев Сапега был одним из самых успешных канцлеров Великого княжества Литовского, а также потому, что они – по известным мне историям и небылицам – ничем гнусным себя не запятнали, включая известного мне по Канаде одного их потомка по материнской линии, который жил-был здесь, а потом вернулся все же туда, - не думаю, что в «поиске истоков», а скорее, чтобы ближе быть к милым и привычным женским образам. Хотя, чем это – не истоки?

С Радзивиллами, думаю, что более-менее все ясно в том смысле, что их фамилию нельзя было не слышать хотя бы раз из школьного курса истории. Для тех же, кто вырос и учился позже и «не той истории», приведу слоган, известный в Польше (Речи Посполитой) в эпоху их - радзивилловского – могущества: «не хочу быть королем, а хочу быть Радзивиллом». Одна из семей этой фамилии живет в Монреале, но принадлежат они к эмиграции последней волны.

Своим наибольшим присутствием отметили Оттаву и Монреаль, пожалуй, представители рода Чавчавадзе, известного княжеского грузинского рода, из которого происходит жена А.С. Грибоедова Нина Чавчавадзе, известная текстом эпитафии на его могиле: « ум и дела твои бессмертны в памяти русских, но для чего пережила тебя любовь моя»?

Жившие в Оттаве Джоко (Георгий) Чавчавадзе и его жена Ирина принадлежали к послевоенной эмиграции. Когда-то давно, еще в начале 80-х, Джоко, представляясь в компании редких тогда русскоязычных людей, - в основном из эмигрантов-евреев той поры, говорил без обиняков: « Я хочу, чтобы вы знали, - я был офицером вермахта». Она (его супруга) была личным секретарем генерала Власова. Ни его, ни ее сегодня уже нет в живых, и лично я их уже не застала. Из других представителей этого большого и разветвленного рода, - вернее, представителей старшего поколения, т.е. тех, кто были первыми здесь, осталась и живет в Монреале Ирина Борисовна, урожденная Чавчавадзе. Эта милая дама много сделала для поддержки русских эмигрантов в рамках деятельности Толстовского фонда.

*№9, сакавік 2015 ISSN 2291-4757*

Вот, пожалуй, и все для напоминания о той части русской истории, которая все больше и больше отдаляется от нас во времени и все меньше нас интересует, число людей, для кого это вообще о чем-то говорит, уменьшается стремительно, но тем не менее вся эта часть истории не становится ни менее существенной, ни менее драматичной, ни менее противоречивой порой.

Понятно впрочем, что не эмиграцией одной, точнее, не только «русской» эмиграцией живет Канада, хотя тут нельзя не упомянуть еще две фамилии. Так, известный политический деятель Майкл Игнатьев, глава в недавнем времени Либеральной партии Канады, писатель и журналист, один из экспертов в области прав человека, известный в целом как один из блестящих интеллектуалов в академических кругах США и Северной Америки в целом, является внуком бывшего – предпоследнего - министра просвещения Российской империи графа П.Н. Игнатьева.

Дед другой, несомненно даже более известной в России и на всем пост-советском пространстве личности, Леонара Коэна (Dance me to the end of love...) - певца и автора своих песен, тоже происходит из тогдашней Российской империи, из западно-белорусского городка Воложин. Не знаю, насколько Майкл Игнатьев владеет русским (впрочем, думаю - хорошо), но Леонар Коэн явно даже связи особой не видит между собой и русским миром. Ведь его деды, которые говорили на идиш и, возможно, на иврите тоже, покинули на самом деле белорусско-польскоговорящую территорию тогдашних западных «kresow» (окраин) Российской империи.

Однако оставим временно всех «наших» и «бывших» в покое и взглянем на канадское общество в целом. Для простоты восприятия хотелось бы его с чем-то сравнить, но с чем? С пестрым лоскутным одеялом-покрывалом, - популярным здесь среди потомков шотландцев? А, может, с многослойным пирогом или слоеным тортом? Нет, не то. Образы надо искать, пожалуй, в природе, которой (как мы уже знаем) здесь так много. Если так, тогда назовем его «этническим ландшафтом» с двумя отчетливо обозначенными вершинами, двумя нациями-учредительницами: англо- и франко-канадцами. Отдельная и большая тема. Однако до того как вести речь о их взаимоотношениях и взаимо-обидах, при этом не забыть, конечно, про отдельную нацию - автохтонов, а затем дать слово «этническим голосам», просто подчеркну, что все они объединены политикой мультикультурализма, озадаченной этническим происхождением каждого канадца в отдельности. Это отличает Канаду от Соединенных Штатов, где в основе национальной идеологии лежит подход,

*№9, сакавік 2015 ISSN 2291-4757*

широко известный как « melting pot» (плавильный котел –Г. Т.), из которого ты выходишь американцем, американцем прежде всего и чисто американцем. Amen.

Канадцы тоже, конечно, объединены единым гражданством, о чем все вспоминают при поездке за рубеж. Но во внутриканадской реальности есть и такое понятие как «различные нации» (в смысле: отличающиеся, выделяющиеся), где помимо канадцев как таковых, различают еще – на официальном, т.е. запротоколированном и скрепленном печатями уровне - квебекцев и представителей «первых наций».

Начнем с «первых наций» (first nations). К ним относятся автохтоны – индейцы, к которым примыкают инуиты и метисы - потомки смешанных союзов коренного населения (т.е. тех же автохтонов) с европейцами. Но упаси вас боже назвать кого-то индейцем! Нельзя, неполиткорректно, - за это и засудить вас могут как пить дать представители первых наций. Они освобождены от каких бы то ни было налогов, винят во всем «белого человека» - не безосновательно, увы… Если ты – не из их числа, то ни живописать их, ни писать их историю ты не можешь, так как тебе не дано постичь их душу, - свято веруют они. Живут они преимущественно на принадлежащих им землях, и горе тому, - будь-то частный бизнес или государство – кто хотел бы что-то провести – какой нибудь нефте- или газопровод через их территорию или что-то там построить либо, наоборот, убрать. Обязательно вмешается дух их предка, Большого Луи, например, и запретит всякое надругательство, ведь белый человек обязательно надругается над землей их и непременно плюнет им в душу, которая – по современным легендам индейцев, простите: первых наций, - мирно жила в созерцании живой природы и беседе с камнем. Такая вот пастораль, которая если и нарушалась, то лишь набегами соседних племен со всеми вытекающими жестокостями, снятыми скальпами и прочими неудобствами. Но то же были, как теперь оказывается, - свои.

Помню, что когда впервые столкнулась с их миром в виде отдельных студенток – чиновниц бесчисленных в Оттаве Министерств и агентств, то первым делом хотела их «образовать» и стала приводить примеры того, что британцы описывают русских, а французы немцев и так без конца, объясняла, что так развиваются история и все социальные науки, где каждый изучает не только себя, но и других. Сегодня просто смешно об этом вспоминать: приехала очередная «бледнолицая» их поучать. Действительно, что могла я им дать, когда мои собственные представления об индейском мире – всех этих «ирокезах –алгонкинах-кри-кри» ограничивались работами британских/американских антропологов да французских этнологов*, читанными поневоле - для преподавания курса политической антропологии да еще

*№9, сакавік 2015 ISSN 2291-4757*

из любви к учителю моему – А.М. Толстому. Чуть не забыла, - была у меня на индейскую тематику еще приобретенная как-то во Франции красная кружка с изображением их вождя в перьях. Предмет – как теперь знаю – полностью бесполезный и даже вредный в силу своей неполиткорректности. На нем изобретательно-веселые французы написали: «красный горшок», что абсолютно созвучно с «красной кожей» (pot rouge – peau rouge»).

Теперь о самом трепетном в канадских «reality-shows»: об англо- и франко-канадцах. Здесь, пожалуй, посложнее будет, чем с целым отрядом автохтонов вместе с эхом их предков. И в ходу здесь не менее тонкие материи в виде культурно-исторических противоречий, многократно умноженных на коллективную память плюс разная церковь ... в рамках одной религии. Тут действительно спор принципиальный на тему «что, а главное - кто есть плотник супротив столяра». (Ай-да Антон Павлович, ай-да на века!).

Если же серьезно, то на сегодня надо отдать должное прагматизму современного Квебека, а может – просто воле случая - в том, что когда совсем недавно, только что прошедшим летом вновь стоял вопрос выбора – ведущего к официальному отделению от канадской федерации, они – в основном за счет профсоюзов и молодежи – вновь выбрали федерацию.

На самом деле, история борьбы Квебека за суверенитет полна драматизма и представляет целую портретную галерею квебекских лидеров. Не обошлось здесь без участия и «старшего брата», точнее, кузена - француза. До сих пор широко известен скандал, когда Шарля де Голля, президента Франции на тот момент, попросили в 24 часа покинуть страну, после того как он произнес свою знаменитую фразу: « Да здравствует Квебек, - и помолчав, - добавил: Да здравствует свободный Квебек!». С тех пор (с 1967 года) прошли годы, борьба за суверенитет Квебека то разгоралась, то затухала, пока не привела, наконец, к двум этапным мероприятиям – референдумам за отделение 1980 и 1995 годов. Как видим, - в рамках истории, - это было чуть ли не вчера.

Каждый из референдумов известен в народе по имени своего лидера. Теперь именем первого из них – Рене Левека – названы улицы, проспекты и бульвары в разных городах провинции; второй же из них – Жак Паризо сам еще жив-здоров, хотя звезда его закатилась сразу же после проигранного... в один процент референдума. Убитый, поверженный после объявления результатов, с пивом в руке г-н Паризо, - кавалер Ордена Почетного Легиона (Франция), выпускник одной из лучших школ

*№9, сакавік 2015 ISSN 2291-4757*

политических наук, - Парижской (мои бывшие студенты не дадут здесь ошибиться), обладатель ученой степени знаменитой London School of Economics, - именно в таком состоянии был застигнут в прямом эфире. На вопрос: «Почему же так? Почему не – «ДА - свободному Квебеку»? ответил буквально следующее: «Мы разбиты этническими голосами и еврейскими деньгами». – Это были его последние минуты в большой политике. Естественно, не из-за фразы он ушел или не столько из-за нее: для него было проиграно дело всей его жизни, его сокровенная мечта не сбылась.

Что касается этой фразы, то я неоднократно слышала ее в пересказе очевидцев тех драматичных для всей Канады дней. Общедоступные интернетные источники на сегодня приводят же ее несколько в другом виде: «этническими голосами и деньгами». Однако, как бы то ни было, те исторические события отметили многих, став незаживающей раной для одних и оттолкнув от Квебека других. Квебекский национализм привел и к некоторым структурным изменениям в деловых сферах. Так, например, старейший банк Канады Bank of Montreal/Banque de Montréal хоть и сохраняет свой офис в Монреале, дирекцию с президентом банка во главе перевел в Торонто, в самый что ни на есть англофонный деловой центр не только Онтарио, но и всей страны. Но это, конечно, ничто по сравнению с крушением для многих надежд жить в «свободном Квебеке».

В этом году все было, к счастью, не настолько драматично. Во-первых, речь шла пока не о референдуме, а о выборах правящей партии провинции. Правда, в случае победы одного из кандидатов, - квебекского медиа-магната и одного из самых богатых людей Канады в целом П.-К. Пелядо, на которого многие делали ставку, вопрос последующего референдума был очевиден. В своей предвыборной кампании он открыто заявил, что «хочет оставить своим детям страну мечты его юности – независимый Квебек». Дети, как мы видим, не захотели такой страны, снова получилось, что не захотели, а, может быть, пока не захотели? Ведь несмотря на все результаты, идея, национальная идея в Квебеке сильна, она никуда не исчезла. Я видела очень опечаленных, откровенно расстроенных квебекцев, которые выражали к остальной Канаде примерно то же отношение, что и моя покойная бабушка в свое время к немцам периода второй мировой войны. И когда совсем недавно в Шотландии проходил референдум на ту же тему, то – не хочу кидаться цифрами, - какое-то несметное количество квебекцев поехали туда «болеть» за отделение ставших вдруг братскими шотландцев.

№9, сакавік 2015 ISSN 2291-4757

Как всем известно, у шотландцев тоже не произошло отделения от «короны». Все разошлись-разбрелись по домам, и квебекцы вернулись. Вот, пожалуй, и все по поводу национально-этнического ландшафта на сейчас. А как же «этнические голоса», а как же еще одна важная составляющая франкоговорящего мира как франко-онтарийцы с их идентичностью, неужели не дам им хода и позволю пройти незамеченными, неохваченными? Конечно же нет, потому что без них «ландшафт» не полон. Просто здесь уж совсем тесно для всего этого многообразия. Но к ним – голосам и лицам - я непременно вернусь, вот только пойду полюбуюсь закатом, закатом оттавского солнца, что садится в Квебеке.

*Продолжение следует.*

**Galina Tumilovich: RHAPSODY IN OTTAWA (or life on the border)**

*(Abstract, magazine "CULTURE, NATION", March 2015, issue 9, pp. 75-84)*

Galina Tumilovich writes about her impressions of the first years of life in Canada, provides information about famous people of Russian and Belarusian origin immigrated to Canada in different periods (*in Russian*).

*Дыскусія*

**“БУДАЎНІЦТВА НАЦЫІ І СУЧАСНАСЬЦЬ - 2014”**

Дыскусія прайшла 23 лістапада і была арганізавана часопісам праз “Скайп”. Ніжэй мы даём пераклад на беларускую мову часткі дыскусіі, якая тычылася нацыянальнага будаўніцтва ў пост-савецкіх рэспубліках. У дыскусіі прынялі ўдзел Інга Поповайтэ, Ірына Хадарэнка, Антон Шэхаўцоў і Пётра Мурзёнак.



Інга Поповайтэ, майстар мастацтваў, Праграма вывучэння нацыяналізма, Цэнтральны Еўрапейскі Універсітэт. Акадэмічныя інтарэсы: этнічныя і рэлігійныя меншасці Паўднёвага Каўказа, радыкальныя нацыяналістычныя рухі, самавызначэнне і этнічнасць у пост-камуністычных краінах.



Ірына Хадарэнка, пісменнік, грамадскі актывіст, кандыдат культуралагічных навук. Аўтар шэрагу кніг, сябра Саюзу беларускіх пісменнікаў і Беларускага ПЭН цэнтра. Працуе ў Беларускім Універсітэце Культуры і Мастацтваў.




Антон Шэхаўцоў, даследчык, Інстытут гуманітарных навук, галоўны рэдактар кніжнай серыі “Даследаванні правых рухаў” (ibidem-Verlag). Яго вобласць інтарэсаў – еўрапейскія радыкальныя правыя партыі і культура правых. Працаваў у акадэмічных іститутах Аўстрыі, Польшчы і Брытаніі.



Пётра Мурзёнак, заснавальнік і рэдактар часопіса “КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ”, доктар медыцынскіх навук.

Асноўнай тэмай, прапанаванай для абмеркавання, была 'Будаўніцтва нацыі ў постсавецкіх краінах: агульныя рысы і адрозненні'.

**Інга Поповайтэ**: Перш за ўсё хачу адзначыць, што я цалкам не згодная з тэрмінам будаўніцтва нацыі (nation building). Я б хацела выкарыстоўваць тэрмін, які на мой погляд з'яўляецца больш поўным, а менавіта будаўніцтва дзяржавы (state building). Таму што, калі мы гаворым аб будаўніцтве нацыі (nation building) або будаўніцтве нацыянальнай дзяржавы (nation state building), мы ўжываем паняцці нацыя або дзяржава ў тым жа сэнсе\вызначэнні, што і нацыянальная дзяржава. Я думаю, вызначэнне будаўніцтва нацыі, што прыйшло з 19-га стагоддзя, састарэла. Я аддаю перавагу не тэрміну нацыянальнае будаўніцтва, а тэрміну будаўніцтва дзяржавы, заснаванае на дэмакратычных інстытутах, а не на этнічнасці людзей.

**Антон Шэхаўцоў**: Я не ўпэўнены, што мы можам гаварыць пра нацыянальнае будаўніцтва з пункту гледжання кансалідацыі этнічнай нацыі. Гаворка будзе хутчэй ісці аб будаўніцтве грамадска-рэспубліканскай нацыі, якое на самай справе не дапускае строгія спасылкі на этнічнае паходжанне ці культуру. Гаворка ідзе пра будаўніцтва грамадскай нацыі (building of civic nation), якое бы ўключала і меншасці, і большасць насельніцтва.

**Пётра Мурзёнак**: Тэрміналогія вельмі важная рэч. Тым не менш, ці Вы думаеце, што магчыма казаць аб этнічным дзяржаўным будаўніцтве ў нашы дні?

**Інга Поповайтэ:** Калі мы паглядзім на Еўропу, то маецца тэндэнцыя зняць межы паміж краінамі. У такім разе, казаць аб этнічнай дзяржаве для мяне няма ніякага рэальнага сэнсу.

**Пётра Мурзёнак:** Думаю, што далейшае ўжыванне тэрміна нацыянальнае будаўніцтва ўсё ж магчыма ў наш час. З аднаго боку, і Вы маеце рацыю, еўрапейцы амаль не маюць межаў. Аднак, у апошні час мы назіраем шэраг сітуацый у еўрапейскіх краінах, якія сведчаць аб развіцці асобных нацыянальных дзяржаў, заснаваных на этнічнасці. Добрым прыкладам для гэтага з'яўляюцца новыя нацыянальныя ці этнічныя дзяржавы, узнікшыя на тэрыторыі былой Югаславіі. Так, мы разумеем, што гэта сталася праз вайну, і вайна - гэта дрэнна. Аднак гэта здарылася і мы маем тое, што маем. Тое, што я хацеў бы абмеркаваць сёння, гэта будаўніцтва нацый ў пост-савецкіх краінах. Для гэтых краін мы маем спецыфічныя умовы развіцця: з'яўляючыся фармальна этнічнымі дзяржавамі на працягу прыкладна 70 гадоў, большасць з іх, па сутнасці, не прайшлі праз стадыю будаўніцтва нацыі, як гэта зрабілі большасць еўрапейскіх краін у 19 стагоддзі. Такім чынам, з аднаго боку еўрапейскія краіны аб'яднаны ў цяперашні час, але з іншага

боку мы бачым працяг нацыянальнага будаўніцтва і ў былой Югаславіі, і ў постсавецкіх краінах.

**Інга Поповайтэ:** Вы маеце рацыю, калі вы кажаце, што ёсць сілы і рухі супраць еўрапеізацыі, напрыклад, партыя JOBBIC у Венгрыі. Калі мы паглядзім на падобныя рухі, мы бачым, што яны ў асноўным шавіністычныя і маюць расісцкія ідэі.

Калі вы прапануеце развіццё этнічнай дзяржавы, то гэтым вы падтрымліваеце ўвес час толькі адну этнічную абшчыну, большасць, і ставіце меншасці ў больш слабую пазіцыю. Напрыклад, у Грузіі да гэтага часу няма закона аб этнічных меншасцях. Рэформы мясцовага кіравання дазваляюць зараз больш актыўны іх удзел у палітычным жыцці. Але меншасці па-ранейшаму выключаны з сацыяльнай сферы, са сродкаў масавай інфармацыі, паколькі яны не маюць дастаткова каналаў для сваёй мовы, і г.д. Грузія схіляецца на дадзены момант да больш этнічнай дзяржавы, а не да цывільнай дзяржавы. І ў гэтым я бачу праблему.

**Антон Шэхаўцоў:** Я хацеў бы дадаць наконт этнічнай дзяржавы. Рэспублікі ў Савецкім Саюзе былі ў асноўным этнічнымі дзяржавамі.

**Інга Поповайтэ:** Я проста хачу сказаць, што большасць людзей у Савецкім Саюзе жылі ціха і мірна. Тым не менш, ў рэспубліках Паўднёвага Каўказа, заснаваных на этнічнасці, узнікла маса праблем, у Абхазіі, Паўднёвай Асеціі, Нагорным Карабаху. Тое ж самае можна сказаць і пра Паўночны Каўказ.

**Антон Шэхаўцоў:** Сапраўды. Я думаю, што праблемы Грузіі, Абхазіі і Паўднёвай Асеціі сталіся вынікам адміністрацыйнага падзялення, што савецкія ўлады ўвялі і пабудавалі ў Грузінскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы. Але я хацеў бы дадаць, што спробы стварэння этнічнай ці нацыянальнай дзяржавы вядуць да з'яўлення праблем, якія могуць быць і не звязаны з дзейнасцю нацыяналістычных, патрыятычных або шавіністычных груп.

Напрыклад, шатландскі рэферэндум, які адбыўся некалькі тыдняў таму назад. Шатландская нацыянальная партыя ня ёсць правай партыяй, але яе прадстаўнікі хацелі стварыць асобную дзяржаву на аснове шатландскай этнічнай прыналежнасці і ў той жа час заснаваную на нацыі альбо дзяржаве, якую тлумачылі з ужываннем тэрміналогіі цывільнай дзяржавы. Г.зн. была спроба стварыць асобную дзяржаву, заснаваную на падставе палітычных і эканамічных прычын. Тое ж самае можна сказаць пра некаторыя рухі ў Францыі, Бельгіі і Іспаніі. На самай справе не ў сілах адных нацыяналістаў стварыць такія дзяржавы.

**Ірына Хадарэнка**: Я думаю, што сцвярджэнне аб адсутнасці этнічных канфліктаў у СССР не больш чым папулярны міф. У СССР была нязграбная спроба вырашыць так

*№9, сакавік 2015* *ISSN 2291-4757*

званае нацыянальнае пытанне ў схаванай форме і змясціць яго ў абалонку інтэрнацыяналізму. На самай справе, вострыя этнічныя канфлікты адбываліся часта, але згадкі пра іх старанна хаваліся ад грамадскасці. У прыватнасці, у 1945 годзе быў габрэйскі пагром у горадзе Рубцоўску, на Алтаі. У 1958 году адбыліся сур'ёзныя сутыкненні паміж чачэнцамі і рускімі ў Грозным. Таксама было некалькі рускіх пагромаў у Узбекістане і Казахстане і, нарэшце, у 1988 годзе была страшная разня армян у Сумгаіце, Азербайджан. Усё гэтыя канфлікты сведчаць на карысць таго, што ў любым выпадку немагчыма ігнараваць нацыянальныя праблемы. І будаўніцтва грамадскай\цывільнай нацыі ў пост-савецкіх краінах з'яўляецца заўчасным, прымаючы да ўвагі тое, што нацыі, як агульныя этна-культурныя суполкі ў іх канчаткова не сфармаваліся.

**Пётра Мурзёнак:** Я бачу фармальную супярэчнасць паміж двума абмяркоўваемымі версіямі будаўніцтва этнічнай ці цывільнай дзяржавы, у аснове якой ляжаць адносіны да меншасцяў. Думаецца, што розніца тут толькі ў вызначэннях, бо пры абоіх версіях неадходна вырашаць праблемы ўзаемаадносін паміж асноўнай нацыяўтвараючай часткай насельніцтва дзяржавы (primary nation) і меншасцямі. Давайце пагаворым аб Беларусі, Літве і Украіне. Згодна з апошнім апытаннем (2009), беларусы складаюць каля 84% насельніцтва. Гэта асноўная нацыя (primary nation). Тое ж самае у Літве, каля 85% насельніцтва складаюць літоўцы. Аналагічная сітуацыя ў былых югаслаўскіх рэспубліках. Падобна на тое, што Літва даволі паспяхова вырашае праблемы меншасцяў. Ці не думаеце Вы, што вызначэнне будаўніцтва нацыі, не будаўніцтва цывільнай дзяржавы, можа ўжывацца ў адносінах да пост-савецкіх краін, улічваючы тое, што правы меншасцяў у іх павінны быць станоўча вырашаны ў любым выпадку?

**Антон Шэхаўцоў**: Што тычыцца Беларусі, то я не думаю, што мы можам казаць пра нацыянальную дзяржаву. Я б не стаў спасылацца на працэнты беларусаў, якія жывуць у гэтай краіне. Бо большасць грамадзян Беларусі не з’яўляюцца беларусамі. Яны - савецкія людзі. Яны да гэтага часу маюць савецкую ідэнтычнасць і да таго часу пакуль беларусы не пазбавяцца савецкай ідэнтычнасці, яны не будуць у стане пабудаваць нацыянальную дзяржаву ці хоць якую-небудз эфектыўную дзяржаву.

**Ірына Хадарэнка**: Не магу з гэтым пагадзіцца. Яны ўжо не савецкія. Частку нашага грамадства можна ахарактарызаваць як пост-савецкую, гэта праўда. Але ў той жа час, у нас ёсць шмат людзей, у асноўным маладых, якія сапраўды не хочуць мець нічога агульнага з савецкім менталітэтам, традыцыямі і каштоўнасцямі. Аднак, я згодна з тым, што мы, безумоўна, павінны адыйсці ад гэтай 'пост-савецкай пасткі'.

**Пётра Мурзёнак:** Інга, што Вы можаце скажаць пра Грузію? Ці адчуваюць грузіны, што яны жывуць у этнічнай дзяржаве?

**Інга Поповайтэ**: Я мяркую, што можна казаць пра розніцу ў тым як вы сябе адчуваеце і як іншыя бачаць вас. У прынцыпе, калі я адчуваю сябе грузінкай, то гэта не значыць, што іншыя бачаць мяне як грузінку, з-за маёй рэлігіі, этнічнага паходжання і г.д. Я дам канкрэтныя прыклады: армяне жывуць у найбольш бедным рэгіёне, да таго ж там адсутнічае адпаведная адукацыя на дзяржаўнай мове. Армяне ходзяць у асноўным у школы, дзе галоўнай мовай з'яўляецца руская або армянская, а па грузінску яны размаўляюць кепска. Моўны бар'ер не дазваляе ім займаць дзяржаўныя пасады, і, як вынік, яны не могуць прадстаўляць сваю меншасць на больш высокім палітычным узроўні.

Кажучы пра Літву, можа падацца, што там сітуацыя лепшая ў адносінах да меншасцяў. Тым не менш, ёсць яшчэ шмат праблем. Так, Літва да гэтага часу не мае сапраўднага закона аб нацыянальных меншасцях. Польскі бок знаходзіцца ў кіруючай кааліцыі на дадзены момант, аднак, я бачу ўсё больш і больш нянавісці ці, па меншай меры, моцную непрыязнасць да польскіх і расійскіх людзей. Літоўцы бачаць іх пятай калонай у Літве. Затым, па-ранейшаму ёсць праблемы з мовай. Літва падпісала Канвенцыю Савета Еўропы па нацыянальных меншасцях, дзе гаворыцца, што дзяржава павінна забяспечыць умовы для карыстання мовай для меншасцяў у раёнах з найбольш шчыльным іх пражываннем. Зноў жа, літоўцы не дазваляюць пісаць назвы вуліц на дзвюх мовах, літоўскай і польскай, на паўднёвым усходзе Літвы.

Да гэтага часу працягваюцца дэбаты аб напісанні імёнаў у пашпарты, у адпаведнасці з арыгінальным вымаўленнем, напрыклад, ужываючы 'W' літару і іншыя літары, якіх літоўцы не маюць у сваім алфавіце. Гэтыя, так званыя 'W' дэбаты, працягваюцца ўжо на працягу 5-6 гадоў, калі не больш. Ёсць яшчэ шмат маленькіх праблем, якія можна ахарактарызаваць як нелюбоў да меншасцяў.

**Пётра Мурзёнак:** Хачу нагадаць, што літары азначаюць для літоўцаў вельмі многа, бо яны пачалі будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы ў пачатку 20-га стагоддзя з увядзення лацінскага алфавіту і некалькіх літар, якія сталі характэрнымі толькі для літоўскай мовы. Аднак, калі вы паглядзіце на Беларусь, то беларусы ўсё яшчэ знаходзяцца пад этнацыдным ціскам цяперашняй улады: беларусы складаючы большасць насельніцтва да гэтага часу змагаюцца за ўвядзенне роднай мовы ў назвы вуліц. Такім чынам, сітуацыя з роднай мовай у Літве і Беларусі цалкам розная. У якой ступені грузіны яшчэ адчуваюць сябе савецкімі людзмі?

**Інга Поповайтэ:** Зусім не адчуваюць. У Грузіі, у асноўным з-за канфліктаў з Абхазіяй і Асеціяй, грузіны адчуваюць сябе грузінамі, але ніяк не рускімі. Маладое пакаленне кажа, што яны не з'яўляюцца больш савецкімі.

**Пётра Мурзёнак:** Ці ёсць у Грузіі ўціск расійскага тэлебачання?

**Інга Поповайтэ:** Вядома, расійскія СМІ прысутнічаюць ў Грузіі і ўціск даволі моцны. Тым больш, ёсць прарасійскія людзі, якія сцвярджаюць, што адносіны з Расіяй павінны быць мацнейшымі ў параўнанні з тымі, якія былі пры Саакашвілі. Цяперашні ўрад спрабуе прасоўваць мяккую палітыку ў дачыненні да Расеі. Урад змог зняць у Расіі забарону на гандаль вінам і мінеральнай вадой і тым самым дапамагчы грузінскай эканоміцы. Вядома, ёсць ціск з боку Расіі. Аднак, зноў жа, маладое пакаленне больш арыентавана на Еўропу і заўсёды кажа, што Грузія належыць да Еўропы, і што Грузія гэта не Расія. Маладыя людзі адрозніваюць таксама Грузію ад Арменіі і Азербайджана, краін таго ж рэгіёну; яны кажуць 'вы, хлопцы, больш у Азіі, але мы належым да Еўропы'.

**Пётра Мурзёнак:** Я разумею, што ўрад Грузіі раней і зараз падтрымлівае нацыянальнае будаўніцтва. Ці так гэта?

**Інга Поповайтэ:** Вядома, урад гэта робіць. Я магу даць вам адзін прыклад. Калі Саакашвілі стаў прэзідэнтам пасля рэвалюцыі руж ён даваў клятву ў старажытным саборы ў Кутаісі, дзе прысягаў таксама адзін з самых знакамітых грузінскіх цароў, Давід Будаўнік, і дзе ён пахаваны. Гэта была дэманстрацыя пераемнасці эпохі Давіда Будаўніка. Сцяг дзяржавы быў таксама зменены ў 2003 годзе на сцяг, які выкарыстоўваўся ў сярэднія вякі царыцай Тамарай, Святы Георгіеўскі крыж.

**Пётра Мурзёнак:** Антон, мы ведаем, што Украіна змагаецца цяпер за свабоду. Ці можам мы сказаць, што гэта вайна ёсць вайной за будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы?

**Антон Шэхаўцоў:** Я сцвярджаў у снежні мінулага года, што незалежнасць Украіны ад Савецкага Саюза ў 1991 годзе не была нейкай формай барацьбы за свабоду. Незалежнасць проста адбылася. І толькі цяпер Украіна змагаецца за незалежнасць. Яна была фармальна незалежная, але гэта не была незалежнасць суверэннай дзяржавы. Штосці падобнае мы можна прасачыць ў гісторыі Аўстрыі ў 20-м стагоддзі. Аўстрыя стала афіцыйна незалежнай у 1945. Але яшчэ доўгі час саюзныя войскі і ваенныя базы знаходзіліся ў Аўстрыі, і толькі ў 1955 годзе Аўстрыя сапраўды атрымала сваю незалежнасць. Але ўсё-такі яны святкуюць незалежнасць атрыманую ў 1955 г., а не ў 1945 г.

Украіна з'яўляецца еўрапейскай краінай, як і Грузія. Гэта Усходняя Еўропа. Культура Еўразіі належыць, галоўным чынам, да савецкай культуры. Ня рускай, але савецкай культуры. Вайна ідзе паміж украінскай цывільнай, не этнічнай, дзяржавай, і савецкімі людзмі, якія былі пры ўладзе і якія падтрымліваюць Расію. Так, ідзе вайна паміж Украінай і Расіяй. Расія хоча перашкодзіць Украіне стаць паспяховай еўрапейскай краінай. Таму што ў адваротным выпадку, калі Ўкраіна дасягне сваіх мэтаў, гэта будзе вельмі дрэнным прыкладам для расійскага грамадства. Скажам, калі расійскія грамадзяне будуць бачыць, што у украінцаў атрымалася, а яны да гэтага часу жывуць у аўтарытарным грамадстве, то сітуацыя можа перакінуцца на саму Расію. Відавочна, што вайна супраць Украіны накіравана на захаванне пуцінскага рэжыму ў Расеі.

**Ірына Хадарэнка**: На маю думку, гэта не вайна паміж народамі; гэта вайна паміж рознымі каштоўнасцямі ў першую чаргу. І зараз мы назіраем сітуацыю, калі двое суседзяў, абодва народжаныя ў Украіне і маючыя украінскае грамадзянства, трапілі на процілеглыя полюсы ў сваім разуменні рэчаіснасці, дзякуючы дакучлівай расійскай прапагандзе.

**Пётра Мурзёнак**: Як ужо згадвалася, самаідэнтыфікацыя беларусаў з'яўляецца адным з ключавых фактараў. Асвятленне прычын, па якіх беларусы ў асноўным размаўляюць па-руску, выходзіць за рамкі нашай дыскусіі. Хаця гэта рэальны факт. Культурны і эканамічны ціск з боку Расіі на Беларус з'яўляецца вельмі моцным. Але я не думаю, што сітуацыя ў Беларусі можа быць падобнай да той, якая ёсць ва Ўкраіне. Я маю на ўвазе, што беларусы не гатовыя змагацца са зброяй за незалежнасць. Што трэба рабіць, каб палепшыць сітуацыю ў Беларусі?

**Антон Шэхаўцоў:** Для паспяховага развіцця нацыянальнай дзяржавы патрабуецца доўгі час, які павінен уключаць у сябе працэс кансалідацыі нацыі. Вядома, у першую чаргу гэта тычыцца паляпшэння стану з беларускай мовай. Гэта здаецца відавочным для мяне. Але ў той жа час, каб пабудаваць паспяховую незалежную нацыянальную дзяржаву, аднаго гэтага недастаткова. Я бы пачаў з мадэрнізацыі, сацыяльнай і эканамічнай мадэрнізацыі, і мадэрнізацыі прамысловасці. Таму што, калі дзяржава эканамічна паспяховая, то тады і ствараюцца ўмовы для пабудовы нацыі і дзяржавы. Па стану на сёння, што я бачу ў Беларусі, ціск з боку Расіі гэта ў асноўным эканамічная падзея, а не палітычная. Без Расіі Беларус, здаецца, не зможа выжыць. Адзіным спосабам для Беларусі пабудаваць незалежную, паспяховую і эфектыўную нацыянальную дзяржаву - з'яўляецца мадэрнізацыя эканомікі і рэфармаванне краіны.

**Ірына Хадарэнка**: Я магу толькі дадаць, што неабходна мадэрнізацыя эканомікі праз прыватызацыю, правядзенне істотных рэформ, павышэнне канкурэнтна-

здольнасці прадукцыі і ў значнай меры праз памяншэнне залежнасці ад расійскіх рэсурсаў і расійскага рынка. Чым далей эканоміка Расіі трымае нашу эканамічную сістэму на кароткім ланцугу, казаць пра поўную незалежнасць Беларусі вельмі цяжка.

**Інга Поповайтэ:** Вы павінны пачаць з эканамічных і сацыяльных, дэмакратычных змен, і з роднай мовы таксама. Беларус знаходзіцца ў больш складанай сітуацыі яшчэ і таму, што вы маеце недэмакратычны рэжым.

**Пётра Мурзёнак:** Што яшчэ Вы можаце прапанаваць з пункту гледжання асветы насельніцтва, калі мець на ўвазе, што ў Беларусі амаль адсутнічаюць незалежныя СМІ, а астатнія знаходзяцца пад дзяржаўным кантролем?

**Інга Поповайтэ:** Вы можаце спадзявацца на дыяспару. Напрыклад, студэнты, якія зараз вучацца ў Еўрапейскім універсітэце ў Вільні, шмат робяць. У цэлым, беларусы замежжа могуць дапамагаць праз размовы і дыскусіі па Інтэрнэту. Неабходна далучаць людзей, якія карыстаюцца рознай мовай, не толькі беларускай, але і рускай таксама, для таго каб мець большую аудыторыю.

**Антон Шэхаўцоў:** Я не думаю, што на самай справе Беларус гэта закрытае грамадства. Многа беларусаў едзіць на захад, у Еўропу. Інтэрнэт таксама нядрэнны (аднак жа паводле апошняга закона аб СМІ, падпісанага ў снежні, многія інтэрнэт-рэсурсы будуць мець значныя абмежаванні, П.М.). Я ў сапраўднасці не бачу якіх-небудз праблем з доступам да інфармацыі. Што больш істотна, у Беларусі недастаткова культурнай прадукцыі. Нават калі беларусы зацікаўлены ў мадэрнізацыі ім трэба проста рабіць больш для Беларусі. Арганізоўваць дыскусіі, размовы.

З другога боку, сучасны ўрад магчыма не зацікаўлены ў мадэрнізацыі. Аднак, калі звярнуцца да гісторыі, то можна заўважыць мадэрнізацыю нават у аўтарытарных дзяржавах. Добрыя прыклады таму Савецкі Саюз, Кітай, Турцыя. Аднак праблемы ўзнікаюць з лідэрамі ў такіх дзяржавах, з персаніфікацыяй палітыкі. Магчыма Лукашэнка ня хоча мадэрнізаваць Беларус, але хтосці можа ўплываць на яго, нават калі людзі з яго атачэння хочуць і надалей мець добрыя стасункі з Расіяй.

**Пётра Мурзёнак:** А якая роля дыяспары ў вашых краінах?

**Антон Шэхаўцоў:** Падчас рэвалюцыі і пасля яе дыяспара была выключна арганізаванай і эфектыўнай. І гэта былі не толькі грошы. Гэта была і мяккая сіла: лабіраванне, дэманстрацыі, сацыяльная актыўнасць у заходніх краінах і ў Цэнтральнай Еўропе. Я бы сказаў, што часам дыяспара, у прыватнасці, у Канадзе,

Італіі, Германіі, ЗША, Францыі, была нашмат больш актыўнай, чым самі украінцы на радзіме.

**Інга Поповайтэ:** Я не маю дастатковай інфармацыі па Грузіі. Што тычыцца літоўскай дыяспары, то яна сыграла выключную ролю ў стварэнні літоўскай дзяржавы ў пачатку 20-га стагоддзя і таксама ў 70-80-я гады. Вядомы прыклад, першы прэзідэнт краіны, Вальдус Адамкус, мае амерыкана-літоўскае паходжанне. Гэта гаворыць аб многім.

**Пётра Мурзёнак:** У астатак часу хацелася б крыху пагаварыць пра "дрэнны нацыяналізм" і "добры нацыяналізм" і на межы паміж імі. Разуменне нацыяналізма ў Савецкім Саюзе заўжды асацыявалася з правымі, крайнімі поглядамі нацыяналізма (фашызм, экстрэмізм і г.д.). Такое ж разуменне застаецца і ў сучаснай Беларусі. На нядаўняў сустрэчы са студэнтамі Лукашэнка заявіў, што ёсць нацыяналісты ў Беларусі, якія спекулююць роднай мовай, але ён трымае іх пад кантролем, але ёсць і добрыя нацыяналісты, якія любяць родную мову і патрыёты сваёй краіны. З другога боку, мы маем справу Брэйвіка ў Нарвегіі, з масавым забойствам і шматлікімі артыкуламі на тэму нацыяналізма. Хаця мае калегі не вельмі прымаюць тэрмін будаўніцтва нацыі ў наш час, я ўсё ж думаю, што будаўніцтва нацыі з'яўляецца адэкватным тэрмінам для пост-савецкіх краін. Хаця на самай справе нашы краіны (Беларус, Грузія, Літва і Украіна) атрымалі шанс для будаўніцтва нацыянальных дзяржаў на пачатку 20 ст., аднак, толькі зараз яны могуць зрабіць гэта ў поўнай меры. Хаця Беларус і ня можа яшчэ вырвацца з абдымкаў Расійскай імперыі.

**Антон Шэхаўцоў:** Я не думаю, што нацыяналізм можна падзяляць на "дрэнны і добры нацыяналізм". Гэтыя катэгорыі вынікаюць з мінулых вызначэнняў усходняга нацыяналізма, які ёсць "дрэнным", і можа быць апісаны тэрмінамі, звязанымі з этнічнасцю, і заходняга нацыяналізма, які ёсць "добрым", і можа быць ахарактарызаваны цывільнымі тэрмінамі. Я б хацеў казаць пра неліберальны нацыяналізм, які можна было б разумець як дрэнны нацыяналізм, аднак ... Неліберальны нацыяналізм дае перавагу адной этнічнай групе над другімі. Гэта вельмі часта ўплывае на жыццё меншасцяў, нават выключаючы іх з жыцця дзяржавы. Я б сказаў, што мяжа паміж ліберальным і неліберальным нацыяналізмам вызначаецца суадносінамі ўключэнне-выключэнне (inclusivity – exclusivity, тэрміны, якія азначаюць палітыку скіраваную на ўключэнне ці выключэнне людзей з грамадскай актыўнасці на падставе падзялення іх па полу, расавай ці рэлігійнай прыналежнасці, сексуальнай арыентацыі, інваліднасці і г.д.). Чым большая доля "ўключэння", тым больш ліберальнай будзе нацыя.

**Ірына Хадарэнка**: А я б сказала, што нацыяналізм можа быць добрым і нават неабходным. Асабліва калі мы гаворым пра сучасную Беларус, дзе няма праблем з нацыянальнымі меншасцямі. За выключэннем магчыма рускіх, якія схільны да з’яднання з Расіяй. Мяккі нацыяналізм вельмі важны для беларусаў і спатрэбіцца для заканчэння працэса нацыянальнага будаўніцтва. Ня трэба баяцца нацыяналізма і блытаць яго з нацызмам, таму што на самай справе любая дзяржава павінна заўжды бараніць свае нацыянальныя інтарэсы. І калі дзяржава з’яўляецца амаль моно-этнічнай, як у выпадку з Беларуссю, то інтарэсы дзяржавы павінны ў першую чаргу улічваць інтарэсы дамінуючай нацыі, якая знаходзіцца зараз пад пагрозай страты сваёй ідэнтычнасці на пераходным шляху ад эфемернай савецкай нацыі да не менш эфемернай цывільнай (грамадскай) нацыі.

**Інга Поповайтэ:** Што мы маем у Грузіі, то гэта цывільны нацыяналізм, але на мяжы з рэлігійным нацыяналізмам. Ёсць шмат праяў ультранацыяналізму; людзі, якія адлюстроўваюць такія погляды, супраць еўрапеізацыі, супраць заходніх каштоўнасцяў і ідэалаў, таму што яны бяруць для параўнання ідэальную грузінскую нацыю, якая была ў сярэднія вякі ці ў 19 ст. У выніку, мы маем шэраг фізічных нападаў, якія нават узначальваюць святары, на актывістаў правоў чалавека. Некаторыя лідары царквы выступаюць супраць адукацыі дзяцей на захадзе, ці супраць надання жанчынам большых правоў.

**Пётра Мурзёнак:** Як змагацца з праявамі ксенафабіі, з рэлігійнымі і этнічнымі сутычкамі?

**Інга Поповайтэ:** Перш за ўсё гэта адукацыя, як фармальная, так і нефармальная. Падручнікі, асабліва падручнікі па гісторыі, павінны быць перагледжаны і быць больш поўнымі (inclusive). Недзяржаўны сектар у Грузіі вельмі моцны і менавіта ён з’яўляецца прыхільнікам і абаронцам уключэння ў грамадскае жыццё ўсіх слаёў насельніцтва.

**Пётра Мурзёнак:** Я думаю, многія з тых праблем, што мы абмяркоўваем, будуць толькі ўзрастаць, асабліва ў краінах этнічна гамагенных, такіх як Беларус, Грузія, ці Літва. Да прыкладу, маюцца планы пабудаваць з удзелам кітайцаў эканамічную зону ля Мінска. Цяжка пакуль уявіць як складуцца узаемаадносіны паміж беларусамі і часовымі іміграннтамі-кітайцамі, бо беларускае грамадства абсалютна не падрыхтавана да гэтага. Некаторыя апытанні паказалі, што беларусы не талерантны да людзей іншых этнасаў, асабліва калі гэта тычыцца спаборніцтва за працоўныя месцы. Вы мае рацыю, што адукацыя, а таксама асвета і ўдзел дзяржавы будуць тут вельмі важнымі.

**Антон Шэхаўцоў:** Я згодны з Інгай адносна адукацыі. Толькі б хацеў дадаць, што гэта павінна быць ліберальная адукацыя. Скажам, Расія адукаваная краіна, аднак, часам адукацыя там агрэсіўная і вядзе ў некаторай ступені да рэлігійнай неталерантнасці. Калі казаць пра змаганне з ксенафабіяй, шавінізмам, то многія людзі думаюць, што тут могуць адыграць галоўную ролю прадстаўнікі розных інстытутаў з эканамічнай сферы. Калі грамадствы бедныя, то яны прадукуюць ворагаў. Калі грамадствы пасняховыя, то яны не маюць ворагаў. Адзіны шлях, які ёсць каб змагацца з сацыяльнымі, этнічнымі ці рэлігійнымі нецярпімасцямі, гэта зрабіць грамадства пасняховым\квітнеючым. Але справа не толькі ў беднасці, а перш за ўсё ў тым, каб людзі адчувалі сябе ў бяспецы. Калі яны ў небяспецы, яны пачынаюць шукаць бяспечныя шляхі, узнікае жаданне знайсці ворагаў і змагацца з імі.

**Пётра Мурзёнак:** Дазвольце падзякаваць усім за ўдзел у плённай дыскусіі "БУДАЎНІЦТВА НАЦЫІ І СУЧАСНАСЦЬ – 2014". *23 лістапада 2014г.*

**Discussion "NATION BUILDING AND MODERNITY - 2014"**
Participants: Iryna Khadarenka, Inga Popovaite, Anton Shekhovtsov, Piotra Murzionak

*(Abstract, magazine "CULTURE, NATION", March 2015, issue 9, pp. 85-95)*

On-line Skype discussion was organized by magazine **"CULTURE, NATION"** on November 23, 2014. In this issue we provide part of the discussion in Belarusian related to: "The Nation-building in post-soviet countries: commonalities and differences".

КУЛЬТУРА НАЦЫЯ

*№9, сакавік 2015* *ISSN 2291-4757*

<u>*Юбілеі*</u>

**Вадзім Шышко: 90-ГАДОВЫ ЮБІЛЕЙ АЛЕСІ УМПІРОВІЧ - ШЧЫРАЙ ПАТРЫЁТКІ БЕЛАРУСІ**


Алеся Умпіровіч. 8.XI.45 г. Паставы.

Роўна 90 гадоў таму, у такі ж самы кароткі зімовы дзень, 11 студзеня, у вёсцы Азярава, што знаходзіцца на самай мяжы Пастаўскага і Браслаўскага раёнаў, у сям'і Лявона і Крысьціны Умпіровічаў нарадзілася дзяўчынка, якой бацькі далі чароўнае беларускае імя Алеся. І якой лёсам было наканавана вельмі нялёгкае і незвычайнае жыцьцё.

Як і ў кожнага чалавека, вялікае ўзьдзеяньне на дзяўчынку аказала тая хатняя атмасфера, у якой яна вырасла. Сям'я, як было прынята ў тыя часы, была вялікая. У адной хаце жыло сямейства Умпіровічаў і іх бліжэйшых сваякоў. На шчасьце Алесі, усе паміж сабой умелі ствараць самыя дабразычлівыя адносіны, што адбілася і на характары дзяўчынкі, якая зь дзяцінства атрымала столькі пяшчоты і любові, што ёй хапіла гэтых пачуцьцяў на ўсё сваё доўгае і, часам, вельмі складанае жыццё. І менавіта тады, у такім далёкім дзяцінстве, Алеся ўпершыню пачула тыя песьні, якія нарадзілі ў яе душы першыя парасткі любові да сваёй краіны:

“Краю, мой краю! Родны мой краю!

Скрозь ад мяжы да мяжы,

Дзе ні пабачыш, усюды магілы,

Усюды магілы, крыжы…”

Маленькая Алеся не магла ведаць, што ў хуткім часе словы гэтай сумнай песьні ўвасобяцца ў рэчаіснасьць. Грымнула Другая сусьветная вайна. Саму Алесю і яе сям’ю бяда пакуль што мінала, але бязьлітасныя жорны гісторыі ўжо пачалі перамалываць яе сваякоў. Спачатку, пры савецкай уладзе, рэпрэсавалі сям’ю яе цёткі Марыі зь вёскі Баравыя і расстралялі стрыечнага брата. А празь некаторы час, ужо пры фашысцкай уладзе, забілі саму цётку і яшчэ аднаго стрыечнага брата. Сама Алеся і яе сям’я да самага канца вайны выраашылі застацца ў Паставах, бо іх вёска Азярава знаходзілася ў партызанскай зоне і пражываньне ў ёй несла вялікую рызыку таксама быць забітымі акупацыйнай уладай. Тым больш, што старэйшы брат Алесі ў шэрагах партызанаў змагаўся з захопнікамі.

Але, ня гледзячы ні на што, у маладой дзяўчыны зь дзяцінства была мара стаць настаўніцай, каб несьці людзям сьвятло ведаў. Бо перад вачыма маладой ідэялісткі стаяў прыклад любімага таты, які таксама быў настаўнікам. Алеся пасьпяхова здала ўступныя іспыты і паступіла ў Пастаўскую настаўніцкую семінарыю. Першыя два гады давялося вучыцца падчас нямецкай акупацыі. Але маладую дзяўчыну ўвесь час падмацоўвалі думкі аб лепшай будучыні. Сітуацыя пагоршылася ўлетку 1944 года, калі стаў набліжацца фронт. Немцы сталі расстрэльваць усіх тых, на каго падала нават мінімальнае падазрэньне аб супрацоўніцтве з партызанамі. Да таго ж да Паставаў паступова сталі даходзіць чуткі, што старэйшы брат Алесі быў партызанам. Гэта пагражала сьмерцю ўсёй сям’і, і бацька з усім сямействам хуценька з’ехаў з Паставаў. Акрамя Алесі, якая не хацела кідаць навучаньне, за што ледзь не паплацілася сваім жыцьцём, калі ў яе хату аднойчы ўварваўся немец з пісталетам, схапіў яе і павёў на вуліцу. Выратавалі Алесю яе сваякі, на кватэры якіх яна жыла – кінуліся ў ногі немцу і пачалі яго ўмаляць не забіваць дзяўчыну. Нейкім цудам той паслухаўся іх і сышоў. Ня дзіва, што пасьля такіх выпрабаваньняў Алеся чакала Чырвоную Армію як збавіцельніцу ад фашысцкай навалы.

Пасля вызваленьня заставалася скончыць апошні, трэці курс настаўніцкай семінарыі. Праўда, саму семінарыю ператварылі ўжо ў педагагічную вучэльню. І некаторыя настаўнікі памяняліся, бо частка ранейшых сышла з Паставаў у 1944 годзе разам з немцамі, а іншых арыштавала савецкая служба дзяржаўнай бясьпекі. У тым ліку і былога дырэктара семінарыі, замест якога кіраваць педагагічнай вучэльняй паставілі

былога партызана. Але самае дрэннае, што адбылося ў навучальным працэсе ў выніку гэтых зьмен – гэта тое, што цяпер усё навучаньне стала весьціся на рускай мове. Навучэнцы ня мелі нічога супраць рускай мовы, але яны былі беларусамі, да гэтага вучыліся па-беларуску і хацелі далей вучыцца па-беларуску. А новы дырэктар у адказ на гэта жаданьне аблаяў навучэнцаў “фашыстамі і нацыяналістамі” і прымусіў іх надалей вучыцца па-руску.

Пастаўская моладзь і іх сябры з Глыбокага, убачыўшы, што афіцыйна ім не дазваляюць вучыцца на роднай мове, вырашылі працягнуць сваю справу неафіцыйна, стварыўшы для сябе суполку “Саюз беларускіх патрыётаў”, галоўнай мэтай якой было – захаваньне і распаўсюджваньне сярод насельніцтва беларускай мовы і культуры. Зразумела, што Алеся, гэтая маладая ідэялістка і летуценьніца, проста не магла застацца ў баку ад гэтай справы і неўзабаве да іх далучылася.

Канечна, дзейнасьць гэтых маладых людзей была б вельмі карыснай для нашай краіны, асабліва ў пасьляваенныя гады, калі падчас той разрухі яны былі гатовыя на адным энтузіазме працаваць для сваёй радзімы. Але ў тагачаснай службы дзяржаўнай бясьпекі наконт гэтага былі дыяметральна супрацьлеглыя думкі. Спачатку ў суполку СБП быў накіраваны шпіён-правакатар, які павінен быў падбіць удзельнікаў на які-небудзь супрацьпраўны ўчынак. Калі ж стала зразумела, што ўся дзейнасьць моладзі ськіравана на адукацыю і яны зусім не зьбіраюцца з кімсьці ваяваць, было вырашана больш зь імі не важдацца, а тэрмінова арыштаваць і судзіць.

Арышты пачаліся ў 1947 годзе. Алесі давялося пакінуць свой родны дом і туляцца ў сваіх сваякоў, або проста знаёмых, каб не трапіць у рукі савецкіх спецслужбаў. Гэта ёй удавалася рабіць больш за год. Але, ўрэшце, ад такога пастаяннага псіхалагічнага напружаньня дзяўчына проста стамілася. Неасьцярожна вярнулася ў бацькаву хату, ля каторай яе чакала засада. І цяпер ужо наступіла чарга Алесі і яе бліжэйшых сваякоў трапіць у бязьлітасныя жорны гісторыі – спачатку схапілі яе, а праз пару дзён арыштавалі бацьку.

Далей усё як у фільме жахаў: збіццё, допыты, карцар з пацукамі, катаваньні электратокам. Нарэшце суд і максімальны на той час тэрмін заключэньня – 25 гадоў. За любоў да сваёй краіны, да сваёй роднай мовы. Бацьку далі толькі 10, за тое, што не выдаў сваю родную дачку, але пасьля ўсіх зьдзекаў ён працягнуў у няволі толькі некалькі гадоў.

Потым доўгія, жудасныя лагерныя гады з непасільнай для жанчын працай, якая падарвала ўжо саслабленае дзявоцкае здароўе. Але нават там здараліся розныя нечаканыя сустрэчы, самай яскравай з якіх было знаёмства з выбітнай беларускай паэткай і грамадзкай дзеячкай Ларысай Геніюш, якая таксама была пакарана на 25

*№9, сакавік 2015* *ISSN 2291-4757*

гадоў за сваю любоў да радзімы. Паміж аб’няднанымі адной бядой жанчынамі хутка ўзьнікла шчырае сяброўства.

На шчасьце Алесі, пасля сьмерці Сталіна яе тэрмін быў скарочаны да 10 гадоў. Па вызваленьні, калі дзяўчына вярнулася ў Паставы, першае, што яна зрабіла – абрэзала свае доўгія косы – юнацтва скончылася. Неўзабаве яна пазнаёмілася з яшчэ адным былым удзельнікам глыбокскай суполкі СБП, Антонам Фурсам. Маладыя людзі спадабаліся адзін аднаму і, доўга ня думаючы, ажаніліся.

Трэба было неяк пачынаць сумеснае сямейнае жыцьцё. Але адзінае месца, куды было дазволена ісьці працаваць былым “ворагам” народа, толькі ў калгас. Не жадаючы пахаваць сябе зажыва ў калгасе, Фурсы вырашылі з’ехаць жыць туды, дзе зьбіраліся такія ж самыя “ворагі” народа. І сваім чарговым месцам жыхарства абралі Казахстан. Там яны пражылі 25 гадоў, нарадзілі дзетак – дачушку і сыночка. А пасля выхада на пенсію зноў вярнуліся на радзіму і з таго часу пастаянна жывуць у Паставах.



*Алеся Умпіровіч і Антон Фурс*

За сваё такое доўгае і складанае жыццё Алеся Лявонаўна так і ня здолела рэалізаваць сваю юнацкую мару – стаць настаўніцай. Але гэта толькі афіцыйна, бо, па сутнасьці,

нікога не навучыўшы нейкім навукам, яна сваім жыцьцём навучыла нас усіх таму, як трэба захоўваць любоў да сваёй краіны, ня гледзячы ні на фашысцкіх карнікаў, ні на бальшавіцкіх катаў. Паклонімся ж у ногі з падзякай гэтай мужнай жанчыне, той колішняй дзяўчынцы-летуценьніцы, зь яе вечнымі марамі пра Беларусь.

*У артыкуле выкарыстаны матэрыялы з кнігі "Гарт", Менск 1997.*

**Часопіс "КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ"**

**шчыра віншуе АЛЕСЮ УМПІРОВІЧ з 90-годдзем**

**і зычыць ёй добрага здароў'я, шчасьця і дабрабыту.**

**Vadzim Shyshko: 90-JUBILEE OF ALESYA UMPIROVICH – SINCERE PATRIOT OF BELARUS**

*(Abstract, magazine "CULTURE, NATION", March 2015, issue 9, pp. 96-100)*

A young girl dream was to become a teacher as her lovely father. She was studied at the Pastavy' teacher college after World War II. It was not allowed to study in their native language, that's why she along with other young people created a community 'Union of Belarusian patriots'. Their main goal was to preserve and spread among the population of the Belarusian language and culture. However, she was sentenced by Soviets for 25 years. In GULAG she met with the outstanding Belarusian poet and social activist Larissa Heniyush. Alesya Umpirovich sincerely loves Belarus. Magazine "CULTURE, NATION" wishes her good health, happiness, and well-being.

*№9, сакавік 2015* *ISSN 2291-4757*

*Юбілеі*

**Беларуская грамадскасьць адзначае ў гэтым годзе юбілейны год нараджэньня ВОЛЬГІ МІХАЙЛАЎНЫ ІПАТАВАЙ**

Рэдакцыя часопіса “КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ” шчыра віншуе вядомага беларускага літаратара і грамадскага дзеяча, Вольгу Міхайлаўну Іпатаву, з юбілеем і зычыць ёй добрага здароў’я, шчасьця, дабрабыту яе сям’і і далейшых творчых посьпехаў на карысьць Бацькаўшчыны.



*Вольга Іпатава з сынам Русланам на сьвяткаваньні 25 Сакавіка ў Манрэалі (30 красавіка 2003 года)*

Вольга Іпатава нарадзілася 1 студзеня 1945 года ў пасёлку Мір, Карэліцкага раёна, Гродзенскай вобласці ў сям'і служачых. Дзіцячыя і юнацкія гады былі няпростымі бо пачынаючы з 11-гадовага ўзросту давялося выхоўвацца ў дзіцячым доме. З самага юнацкага ўзросту ў яе выявіліся талент і жаданьне пісаць вершы і апавяданьні. І з гэтым яна ідзе па жыцьці, дорачы людзям радасьць ад знаёмтва з чароўнымі словамі паэзіі ці з героямі гістарычных раманаў.

З-пад пяра Вольгі Іпатавай выйшлі зборнікі вершаў «Раніца» (1969), «Ліпеньскія навальніцы» (1973), «Парасткі» (1976), «Крыло» (1976), зборнікі аповесьцяў і

апавяданьняў «Вецер над стромай» (1977), «Дваццаць хвілін з Немезідай» (1981), «Перакат» (1984), «Агонь у жылах крэменю» (1989), «Чорная княгіня», (1989) «За морам Хвалынскім» (1989), кніжкі для дзяцей «Снягурка» (1974), «Казка пра Паўліна» (1983), тэлеп'еса «Давыд Гарадзенскі» (1988).

Вольга Іпатава адзін з зачынальнікаў гістарычнай беларускай прозы і прызнаны яе майстар. Яна стварыла шэраг літаратурных вобразаў знакамітых дзеячаў беларускай мінуўшчыны, Еўфрасіньні Полацкай (аповесьць “Прадслава”, 1971), князя Вітаўта (раман "Знак Вялікага магістра"), князя Альгерда (трылогія, у якую ўвайшлі раманы «Залатая жрыца Ашвінаў», «Вяшчун Гедзіміна» і «Альгердава дзіда»).






Вольга Іпатава, працуючы ў газетах "Літаратура і мастацтва", Чырвоная зьмена", ў часопісах "Спадчына", "Культура", на тэлебачаньні, унесла значны ўклад у развіцьцё беларускай культуры. Яе адказнасьць і шчырасьць сталі вынікам аказанага ёй даверу беларускіх пісьменьнікаў, якія абралі яе старшынёй свайго саюза ў вельмі цяжкі і складаны перыяд яго існаваньня (2001-2002).

Вольга Іпатава узнагароджана ордэнам «Знак Пашаны» і медалём Францыска Скарыны.

У апошняе дзесяцігоддзе Вольга Іпатава значны час пражывае ў Канадзе, дапамагаючы выхоўваць унукаў. Тым не менш, яна знаходзіць час каб удзельнічаць у жыцьці Згуртаваньня Беларусаў Канады, ганаровым сябрам якога яна з'яўляецца, арганізоўваючы і ўдзельнічаючы ў творчых вечарах, імпрэзах, урачыстых паседжаньнях.

**Рэдакцыя часопіса "КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ"**

**віншуе ВОЛЬГУ ІПАТАВУ з юбілеем –**

**здароў'я, шчасьця і творчых посьпехаў.**

*№9, сакавік 2015* *ISSN 2291-4757*

**Magazine “CULTURE, NATION” joins to celebration of VOLGA IPATAVA JUBILEE**

*(Abstract, magazine “CULTURE, NATION”, March 2015, issue 9, pp. 101-104)*

Editorial Board 'CULTURE, NATION' congratulates the famous Belarusian writer and public activist, Volga Mikhajlauna Ipatava, with birthday anniversary and wish her good health, happiness, well-being of her family and further success for the benefit of the Motherland. Volga Ipatava is the author of number of collection of poems, collections of short stories, books for children. She is one of the founders and well-known master of the Belarusian historical prose. She has created a number of literary images of famous figures of the Belarusian past: Euphrosyne of Polotsk, Duke Vytautas, Duke Algerdas. In 2001-2002 she was the chairman of the Belarusian writers society. Volga Ipatava awarded “the Order of Honor” and medal “Francisk Skaryna”.

*Наступны нумар часопіса «КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ» выйдзе ў чэрвені 2015 года*